# ШЭРАЯ КНІГА

## хроніка парушэньняў правоў чалавека ў Віцебскім рэгіёне




Віцебск, 2012

На працягу сьнежня 2011 і студзеня-чэрвеня 2012 году ў Віцебскім рэгіёне абвастрылася сытуацыя, зьвязаная з парушэньнямі правоў чалавека.

Цягам сямі месяцаў улады не задаволілі аніводнай заяўкі на правядзеньне масавых мерапрыемстваў. Адміністрацыі Кастрычніцкага, Першамайскага і Чыгуначнага раёнаў г. Віцебску забаранілі правядзеньне 27 пікетаваньняў апазыцыі. Віцебскі гарадзкі выканкам забараніў шэсьце апазыцыі, прысьвечанае сьвяткаваньню Дня Волі 25 сакавіка 2012 году.

Дэмакратычных актывістаў працягвалі выклікаць у мясцовыя аддзелы КДБ і міліцыі на допыты і на так званыя «прафіляктычныя гутаркі». Зноў пачаліся звальненьні з працы паводле палітычных матываў.

За гэты час з боку ўладаў назіралася актывізацыя парушэньняў правоў і свабодаў грамадзян, прыкметна ўзмацніўся ціск на грамадзкіх і палітычных актывістаў.

На працягу гэтага тэрміну практычна без перапынкаў праходзілі палітычна матываваныя судовыя працэсы над сябрамі партыйных структур, грамадзкімі актывістамі і звычайнымі грамадзянамі. Напрыканцы лютага паводле артыкулу 415 Крымінальнага кодэксу (Ухіленьне ад адбываньня пакараньня ў выглядзе абмежаваньня волі) быў асуджаны да 2 гадоў і аднаго месяца зьняволеньня сябра КХП БНФ Сяргей Каваленка. Неабходна адзначыць, што пакараньні, што выносіліся судамі, маюць выразна карны накірунак. У параўнаньні з 2010 годам замест штрафаў сталі практыкаваць кароткачасовае турэмнае заключэньне.

Моцнаму ціску падвяргаліся рэгіянальныя недзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі: незалежныя газэты, інтэрнэт-рэсурсы. Перасьледаваліся журналісты. Распаўсюднікаў незалежнай прэсы затрымлівалі і каралі штрафамі.

У судох Віцебскай вобласьці павялічылася колькасьць адміністрацыйных спраў.

Праваабаронцы сустракаюць супрацьдзеяньні з боку ўладаў. Ім не дазваляюць правядзеньне сустрэч з грамадзянамі і адукацыйных мерапрыемстваў.

## Крымінальныя справы супраць актывістаў грамадзянскай супольнасьці


Аляксандар Атрошчанкаў

**11.03.2011** Набылі моц прысуды асуджаным Фрунзэнскім раённым судом сталіцы ўдзельнікам акцыі пратэсту 19 сьнежня **Дзьмітрыю Новіку** і **Аляксандру Малчанаву**.

Іх абвінавацілі ў масавых непарадках паводле часткі 2 артыкулу 293 Крымінальнага кодэксу і пакаралі пазбаўленьнем волі на 3,5 і 3 гады адпаведна. Хлопцы вырашылі не абскарджваць прысуды. Дзьмітры Новік будзе адбываць пакараньне ў калёніі «Віцьба-3» бліз Віцебску.

**25.03.2011** Судзьдзя Чыгуначнага райсуду Алена Цыганкова прызнала віцебскага актывіста **Сяргея Каваленку** вінаватым у хуліганстве і арганізацыі несанкцыянаванай акцыі 24 сакавіка і арыштавала на 7 сутак.

Сяргей Каваленка быў затрыманы, калі прайшоў ад віцебскай ратушы да так званага «сіняга дому» — дому № 28 па вуліцы Леніна – з трыма вялікімі бел-чырвона-белымі сьцягамі.

Паводле Сяргея Каваленкі, ён зьвяртаўся да мінакоў зь лёзунгамі: «Людзі, вас падманваюць», «Ня верце Лукашэнку», «АМАП — злачынцы, яны зьбівалі у Менску мірных людзей. Гэта банда», «Шануйма родную мову», «Слава Народу», «Слава Нацыі» да іншымі выказваньнямі.

Калі па яго прыехала міліцэйская машына, ён быў гатовы ісьці са сьцягамі да пастарунку, каб гэта бачылі людзі. Але яму адмовілі. Тады Сяргей Каваленка, паводле ягоных тлумачэньняў, «пачаў ляпаць далоньню па даху міліцэйскіх “жыгулёў” і зьвяртацца да людзей на прыпынку замацаваць сьцягі на даху машыны».

Гэтыя дзеяньні суд кваліфікаваў як арганізацыю несанкцыянаванай акцыі і дробнае хуліганства, у тым ліку з выкарыстаньнем непрыстойнай лаянкі і абразаў дзейнай улады.

**28.03.2011** У калёнію «Віцьба-3», вядомую тым, што ў ёй адбываў тэрмін свайго палітзьняволеньня экс-кандыдат у прэзыдэнты Аляксандар Казулін, дастаўлены новы палітвязень. Гэтым разам ім стаўся **Аляксандар Атрошчанкаў**, прэс-сакратар кандыдата ў прэзыдэнты 2010 г. Андрэя Саньнікава.

Аляксандар Атрошчанкаў атрымаў прысуд у выглядзе чатырох гадоў пазбаўленьня волі ў калёніі ўзмоцненага рэжыму 2-га сакавіка нібыта за ўдзел у масавых забурэньнях. У калёнію «Віцьба-3» яго адправілі, не чакаючы разгляду


Мікіта Ліхавід

касацыйнае скаргі, які адбудзецца 5-га красавіка ў Менскім гарадзкім судзе.

**06.05.2011** Віцебскага **актывіста КХП БНФ Сяргея Каваленку** зноў даставілі ў ІЧУ. Ён мае дасядзець яшчэ 6 дзён з прызначанага яму раней 15-дзённага арышту. Гэтая «адседка» Каваленкі пачалася 1 красавіка, адразу пасьля таго, як скончыўся папярэдні тэрмін яго зьняволеньня – 7 сутак. Праз колькі дзён пасьля пачатку чарговага зьняволеньня актывіст патрапіў у рэанімацыю – ішоў 11-ы дзень ягонай галадоўкі супраць незаконных, на погляд апазыцыянэра, арыштаў і навогул супраць проціпраўнай дзейнасьці сілавых структураў. Пасьля шпіталю спадара Каваленку часова вызвалілі, але 22 красавіка ён ізноў апынуўся за кратамі. Актывіст аднавіў галадоўку пратэсту. У выніку ў яго рэзка ўпаў ціск, і 28 красавіка, не шпіталізуючы, яго адпусьцілі дадому.

Камэнтуючы свой цяперашні арышт, Сяргей Каваленка ня выключыў, што яго адмыслова зьняволілі перад сьвяткаваньнем Дня Перамогі – асьцерагаючыся, каб у Віцебску не зьявіліся бел-чырвона-белыя сьцягі. Спадара Каваленку ўважаюць за самага вядомага ў краіне паплечніка легендарнага «Мірона».

**19.05.2011 Актывіст руху «За свабоду» Мікіта Ліхавід**, які адбывае тэрмін зьняволеньня за так званы ўдзел у масавых непарадках у калёніі ў Наваполацку, пакараны карцэрам на 10 сутак.

Мікіта Ліхавід патрапіў у карцэр, бо лічыць сябе незаконна асуджаным і адмаўляецца выконваць некаторыя працы, якіх ад яго вымагае адміністрацыя калёніі.

**27.05.2011** Палітвязень Наваполацкай калёніі, **актывіст руху «За свабоду» Мікіта Ліхавід** свой дзень народзінаў адбыў у карцэры, куды трапіў другі раз цягам месяца і ўсё па той самай прычыне: хлопец называецца «незаконна асуджаным» і адмаўляецца выконваць некаторыя патрабаваньні адміністрацыі. Першы раз Мікіту Ліхавіда пакаралі 10 днямі карцара, гэтым разам ён атрымаў 15 сутак.

**28.05.2011** Стала вядома, што **палітвязьню Алесю Атрошчанкаву** дасылаюць лісты падтрымкі з усяго сьвету. Дар'я Корсак, жонка прэсавага сакратара Саньнікава, вязьня віцебскай калёніі Алеся Атрошчанкава, паведаміла, што яе муж атрымлівае шмат лістоў і паштовак. Людзі з усяго сьвету пішуць яму словы салідарнасьці і падтрымкі.

Пасланьняў столькі, што ўзьніклі праблемы ў турэмнай цэнзуры, кажа жонка палітвязьня: «Ён напісаў, што лісты, якія яму шлюць, амаль што блякуюць працу турэмнай цэнзуры, і адміністрацыя папрасіла, каб яму дасылалі лісты толькі на беларускай, расейскай і ангельскай мовах. Я гэтак разумею, што яму пішуць з уся-


Ігар Аліневіч

го сьвету і на розных мовах. Я вельмі ўдзячная за такую салідарнасьць».

**03.06.2011** Адміністрацыя СІЗА МУС паведаміла, што **кандыдата ў прэзыдэнты Андрэя Саньнікава** адправяць у Наваполацкую калёнію № 10.

Вядома, што гэтая калёнія знаходзіцца ў вельмі кепскім з пункту гледжаньня экалёгіі месцы, акружаная хімічнымі прадпрыемствамі. Палітвязьняў туды раней не адпраўлялі. А цяпер, мяркуючы па ўсім, гэта яшчэ адзін сродак ціску на Андрэя, спроба яго зламаць, калі не ў СІЗА, то ў калёніі.

**04.06.2011** Палітвязень Алесь Кіркевіч будзе сядзець у Наваполацку. Як стала вядома, **намесьнік старшыні «Маладога Фронту» Алесь Кіркевіч** адпраўлены ў Наваполацкую калёнію № 10. Такім чынам, установа ў Наваполацку становіцца «лідэрам» па колькасьці палітзьняволеных. У Наваполацкай калёніі ўжо знаходзіцца актывіст руху «За Свабоду» Мікіта Ліхавід. Гэтымі днямі туды павінны прывезьці іншага палітвязьня – экс-кандыдата ў прэзыдэнты Андрэя Саньнікава.

**09.06.2011 Мікіта Ліхавід**, **актывіст руху «За свабоду»**, трэці раз за месяц трапіў у карцэр. Гэтым разам Мікіту далі 5 дзён.

Мікіта адмовіўся называцца асуджаным. У судзе актывіст не прызнаў сябе вінаватым і працягвае дамагацца апраўданьня, знаходзячыся ў калёніі. Ліхавід кажа пра сябе «незаконна асуджаны» і таксама не выконвае некаторыя загады адміністрацыі.

**15.06.2011** Яшчэ адзін **палітвязень** на Віцебшчыне – у Наваполацку будзе адбываць пакараньне **Ігар Аліневіч**. Вызначыліся месцы, дзе будуць адбываць пакараньні асуджаныя па справе анархістаў. Сярод гэтых месцаў ёсьць і турма на Віцебшчыне: у наваполацкую калёнію № 10 неўзабаве этапуюць Ігара Аліневіча, якога 24 траўня суд Заводзкага раёну Менску пакараў 8 гадамі пазбаўленьня волі ўзмоцненага рэжыму. Ігар Аліневіч быў абвінавачаны паводле часткі 2 артыкулу 339 КК РБ («хуліганства, зьдзейсьненае групай асобаў») і частак 2 і 3 артыкулу 218 КК (»пашкоджаньне маёмасьці агульнанебясьпечным спосабам і ў асабліва буйным памеры»).

**16.06.2011 Палітвязень Мікіта Ліхавід** чацьверты раз за месяц зьмешчаны ў штрафны ізалятар – на гэты раз адміністрацыя Наваполацкай калёніі абвінаваціла асуджанага за Плошчу ў неданясеньні на сваіх сукамэрнікаў. Такім чынам хлопец у штрафным ізалятары сядзіць ужо 35 дзён.

**01.07.2011** З 1 ліпеня былому **кандыдату ў прэзыдэнты Сяргею Рыжову** забаронены ўваход на «Віцебскі форум 2.0» (»Вольны форум вольнага гораду»). Гэта




здарылася пасьля таго, як палітык разьмясьціў на форуме заклік да грамадзян Беларусі распачаць 4 ліпеня агульнанацыянальны страйк з мэтай адстаўкі Аляксандра Лукашэнкі. Заклікам спадара Рыжова зацікавіўся Віцебскі Дэпартамэнт папярэдніх расьследаваньняў.

Вядома, што апроч самога Рыжова ў дэпартамэнт ужо двойчы выклікаўся адміністратар форуму Сяргей Серабро, ад якога патрабавалі інфармацыю пра IP-адрасы карыстальнікаў.

**20.07.2011 Актывіст руху «За Свабоду!» Юры Салодкі** пабываў у Віцебскай абласной пракуратуры на допыце па факце абразы Аляксандра Лукашэнкі. Тое, ці будзе распачатая крымінальная справа, вызначыцца пасьля лінгвістычнай экспэртызы трох лістоў, адпраўленых з электроннага адрасу Салодкага ў дзяржворганы.

Паводле словаў Юрыя, яму паведамілі, што гэтыя тэксты будуць перададзеныя экспэртам-лінгвістам. Калі яны ўгледзяць ў іх факт абразы Аляксандра Лукашэнкі, то будзе ўзбуджаная крымінальная справа. Юры Салодкі пакуль не затрыманы. Найбліжэйшым часам ён мае намер сустрэцца з адвакатам.

**22.12.2011** Арышт віцебскага **актывіста Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Сяргея Каваленкі. Каваленку** арыштавалі ў межах распачатай супраць яго справы паводле арт. 415 Крымінальнага кодэксу («Ухіленьне ад адбываньня пакараньня ў выглядзе абмежаваньня волі»). Актывісту пагражае да трох гадоў пазбаўленьня волі.

**07.01.2012 Кіраўніка віцебскай суполкі «Моладзі БНФ» Аляксандра Кузьняцова** 9 студзеня а 15-й гадзіне выклікалі ў 9-е ўпраўленьне АБЭЗ (па Віцебскай вобласьці) да сьледчага Барысава С. В. У позьве не было пазначана, зь якой нагоды і ў якасьці каго выклікаюць Аляксандра. Ігнараваньне гэтых пунктаў у позьве, а таксама тое, што яна не была ўручаная належным чынам, зьяўляецца грубым парушэньнем з боку праваахоўнікаў.

Пазьней стала вядома, што Аляксандра Кузьняцова выклікалі ў якасьць сьведкі па крымінальнай справе, заведзенай супраць Алеся Каліты, Сержука Семянюка і Максіма Губарэвіча.

**12.01.2012 Адвакат Андрэя Саньнікава Андрэй Варвашэвіч** зноў спрабаваў дабіцца спатканьня са сваім падабаронным у калёніі «Віцьба-3», але ў спатканьні чарговы раз было адмоўлена. Агністыкаў (начальнік калёніі) зноў адмовіў у сустрэчы на той падставе, што ідзе праверка, ці не пагражае Саньнікаву небясьпека.

**18.02.2012** 17 лютага ў Глыбоцкай калёніі адбылася сустрэча **Зьмітра Дашкевіча** з адвакатам. Сустрэча праходзіла ў нэрвовай атмасфэры: Дашкевіча перапынялі


Зьміцер Дашкевіч

супрацоўнікі калёніі і пагражалі навогул спыніць сустрэчу. Аднак палітвязень пасьпеў паведаміць, што супрацоўнікі калёніі спрабавалі сілай завесьці яго ў камэру да зьняволенага зь нізкім сацыяльным статусам, так званага «апушчанага».

Паводле негалосных правілаў, якія існуюць сярод зэкаў, гэта аўтаматычна перавяло б самога Дашкевіча ў такі статус. Зьміцер адмаўляўся ад гэтага, за што яго зьмясьцілі ў ШЫЗА.

**24.02.2012** У Віцебску скончыўся працэс над **сябрам КХП-БНФ Сяргеем Каваленкам**. Судзьдзя Алена Жук прызнала яго вінаватым і пакарала зьняволеньнем у калёніі агульнага рэжыму тэрмінам 2 гады і 1 месяц.

Судовую залю напоўнілі пераапранутымі супрацоўнікамі ворганаў, не пусьцілі нікога са сваякоў, блізкіх і знаёмых палітвязьня і журналістаў недзяржаўных мэдыяў.

**09.04.2012** Адміністрацыя калёніі «Віцьба-3» не пусьціла адваката наведаць **Сяргея Каваленку**. Прычына, такога стаўлення да абаронцы – мэдычныя працэдуры.

**15.04.2012** Супраць **Сяргея Рыжова**, **прэтэндэнта на ўдзел у прэзыдэнцкіх выбарах** 2010 году, хочуць завесьці крымінальную справу. Яго выклікалі ў суд Першамайскага раёну Віцебску па справе аб нявыплаце алімэнтаў. Аднак, як адзначае сам Рыжоў, ужо ад даўжэйшага часу ён ня можа знайсьці працу, бо яму адмаўляюць у працаўладкаваньні паводле палітычных матываў. Судовыя ворганы ініцыявалі выканаўчую вытворчасьць, і яму пагражае да паўгода пазбаўленьня волі.

**18.06.2012** Упраўленьне сьледчага камітэту Кастрычніцкага раёну Віцебску правярае скаргу **Алены Каваленкі**. Пра гэта жонка палітвязьня Сяргея Каваленкі дазналася, бо яе выклікаў сьледчы дзеля дачы тлумачэньняў. Алена паскардзілася ў пракуратуру на супрацоўнікаў Віцебскага СІЗА-2 за тое, што яны зьнялі на відэа яе мужа і выклалі гэтыя кадры ў інтэрнэт. Таксама Алена Каваленка скардзілася на тое, што Сяргея няправільна выводзілі са стану працяглай галадоўкі.

Алена Каваленка кажа, што таксама павінны быць праверания дзеяньні лекара, які нашкодзіў здароўю палітвязьня.

## Факты парушэньняў грамадзянскіх і палітычных правоў


Сяргей Парсюкевіч

**10.01.2011 Актывіст «Маладой Беларусі» Алесь Галавань** распавёў, што выйшаў зь Першамайскага РАУС Віцебску, дзе адбывалася гутарка з супрацоўнікамі КДБ. Паводле спадара Галаваня, прыкладна а 18:30, калі ён знаходзіўся недалёка ад свайго дому, яго паклікалі з машыны супрацоўнікі міліцыі ў цывільным і прапанавалі паехаць разам зь імі ў Першамайскі РАУС. У пастарунку давялося з гадзіну пачакаць, а потым актывіста паклікалі на гутарку з двума супрацоўнікамі КДБ.

Алесь Галавань распавёў, што пытаньні тычыліся яго знаходжаньня ў Менску 19 сьнежня. Супрацоўнікаў КДБ таксама цікавіла, хто яшчэ зь Віцебску езьдзіў туды або зьбіраўся паехаць. Спадар Галавань сказаў, што з пэўнасьцю можа гаварыць толькі пра сябе, а яго самога затрымалі і асудзілі за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі на 10 сутак, якія ён адбыў у жодзінскай турме. Пакуль актывіста не было, у яго дома правяліператрус. Як патлумачыла маці Алесю Галаваню, міліцыянты спрабавалі знайсьці ягоны пашпарт, але так і не знайшлі.

**12.01.2011 Тацьцяну Севярынец** дапыталі пра Плошчу. Тацьцяна паведаміла, што допыт доўжыўся больш за паўтары гадзіны. Інфармацыю пра сустрэчу з сынам, якая зьявілася на некаторых інтэрнэт-сайтах, яна катэгарычна абвергла. Сьледчага КДБ цікавіла, дзе Тацьцяна Севярынец знаходзілася 19 сьнежня. Пра сустрэчу са зьняволеным у СІЗА КДБ **Паўлам Севярынцам** гаворкі не было.

Тацьцяна Севярынец працягваць размову адмовілася, бо сьпяшалася на вакзал: паколькі на цягнік, каб паехаць у 20:40 у Варшаву, яна спазьнілася, то хацела хаця б здаць свой білет. Але супрацоўнік КДБ так і не вярнуў ёй пашпарт. Тацьцяна Севярынец патэлефанавала сьледчаму, які яе дапытваў, каб знайсьці таго, у каго застаўся дакумэнт. Але сьледчы сказаў, што ня ведае, хто гэта быў.

**13.01.2011** У віцебскага **актывіста кампаніі «Гавары праўду»** супрацоўнікі КДБ забралі сыстэмны блёк кампутара і некалькі агітацыйных улётак за Някляева і Саньнікава.

**Сяргей Парсюкевіч** распавёў, што ператрус у ягонай кватэры працягваўся з паўтары гадзіны. Спачатку супрацоўнікі КДБ прапанавалі яму добраахвотна здаць наркотыкі і зброю, а потым – усё, што тычыцца падзеяў 19 сьнежня ў Менску.

У выніку канфіскавалі некалькі ўлётак і сыстэмны блёк кампутара. 19 сьнежня Сяргей Парсюкевіч у Менску ня быў, і ён лічыць, што гэта добра вядома ў КДБ. Бо ў той дзень за ім сачылі і ўрэшце разам зь няпоўнагадовым сынам Дзянісам



Канстанцін Халмачоў

затрымалі на аўтавакзале. У пастарунку спачатку заявілі, што ён затрыманы па падазрэньні ў забойстве, а потым – у рабаўніцтве.

На некалькі гадзінаў актывіста адпусьцілі, але пасьля зноў затрымалі – ужо на ўласнай машыне, заявіўшы, што да яе ёсьць прэтэнзіі. Яшчэ некалькі гадзінаў Сяргей Парсюкевіч мусіў правесьці ў ДАІ, і адпусьцілі яго ўжо амаль ноччу.

**13.01.2011** У час выбарчай кампаніі **Алена Фаміна** была даверанай асобай Дзьмітрыя Вуса, 19 сьнежня была назіральніцай на выбарчым участку. Але ператрус у яе праводзілі як у «сьведкі масавых непарадкаў у Менску».

Алена Фаміна распавяла, што чацьвёра супрацоўнікаў КДБ праводзілі ў яе ператрус цягам дзьвюх з паловай гадзін. У выніку забралі сыстэмны блёк кампутара, ноўтбук, некалькі «флэшак» і дыскаў.

Тлумачэньні наконт таго, што 19 сьнежня яна знаходзілася ў Віцебску і назірала на выбарах, да ўвагі прынятыя не былі. Супрацоўнікі КДБ паведамілі ёй, што заўтра актывістка мусіць зьявіцца на гутарку ў абласную ўправу КДБ, але час выкліку не ўдакладнілі — сказалі, што пра гэта патэлефануюць дадаткова.

**13.01.2011** Пасьля ператрусу ў гарадоцкага актывіста **Леаніда Аўтухова** супрацоўнікі КДБ канфіскавалі 20 DVD-дыскаў і дзьве «флэшкі». Кампутар зьнесьлі яшчэ раней — месяц таму яго забралі судовыя выканаўцы ў кошт нясплачаных штрафаў за ўдзел у апазыцыйных акцыях.

Трое супрацоўнікаў віцебскай управы КДБ, адзін зь якіх назваўся адказным па Гарадоцкім раёне, шукалі аргтэхніку ня толькі ў прыватнай хаце актывіста, але нават у лазьні і ў пуні. Знойдзеныя бел-чырвона-белыя сьцягі і ўлёткі іх не зацікавілі.

Супрацоўнікі КДБ сказалі, што загад на ператрус у Леаніда Аўтухова яны атрымалі зь Менску. Ператрус яны праводзілі ў межах крымінальнай справы аб масавых беспарадках 19 сьнежня, хоць ім і вядома, што актывіст з Гарадка не выяжджаў.

Спадар Аўтухоў у дзень выбараў быў назіральнікам. І заўважыў, што ўсе спробы перасоўваньня на ўласным аўто пільна адсочваюцца невядомымі ў цывільным, якія суправаджаюць яго на іншай машыне. Таму дасьведчанасьць супрацоўнікаў КДБ яго не зьдзівіла.

**14.01.2011** На размову са сьледчым кіраўніка віцебскага выбарчага штабу Андрэя Саньнікава забралі з дому і пад прымусам завезьлі на службовай


Уладзімер Сіманковіч

машыне.

**Уладзіслаў Варанецкі** распавёў, што яго дапыталі пра падзеі ў Менску 19 сьнежня. Хлопец даў падпіску пра неразгалошваньне таямніцы сьледзтва, таму падрабязнасьцяў не паведамляў.

З супрацоўнікамі КДБ за апошні час актывіст размаўляў ужо другі раз. Упершыню яны выклікалі хлопца на гутарку, якая праходзіла ў дэканаце тэхналягічнага ўнівэрсытэту. Паводле Ўладзіслава Варанецкага, супрацоўнікі КДБ прапанавалі яму дапамогу, каб аднавіцца на вучобе, — калі ён адмовіцца ад заняткаў палітыкай і пойдзе на супрацоўніцтва. Ад такой прапановы хлопец адмовіўся.

**15.01.2011 Аляксандра Кузьняцова**, **кіраўніка віцебскай суполкі «Моладзі БНФ»**, а ў часе выбарчай кампаніі — даверанную асобу Рыгора Кастусёва, гвалтам зацягнулі ў службовую машыну. Пра гэта распавяла знаёмая актывіста, на вачох у якой усё адбылося. Невядомыя асобы выцягнулі Аляксандра Кузьняцова зь ягонай машыны, павалілі на сьнег, а потым зацягнулі ў іншую машыну. Гэта адбылося каля 10-й раніцы.

Бліжка паўдня актывіст ужо быў даступны па мабільным тэлефоне і распавёў пра некаторыя акалічнасьці здарэньня. Як высьветлілася, супрацоўнікі КДБ, якія абралі такі спосаб затрыманьня, завезьлі яго ў абласную ўправу і дапыталі пра падзеі 19 сьнежня ў Менску.

Аляксандар Кузьняцоў даў падпіску пра неразгалошваньне таямніцы сьледзтва, і таму падрабязнасьцяў допыту не распавядаў. Зазначыў толькі, што на падставе артыкула 27 Канстытуцыі ён адмовіўся сьведчыць супраць сябе, і проста не адказваў на многія пытаньні.

**17.01.2011** У Віцебскую абласную ўправу КДБ быў выкліканы **Канстанцін Халмачоў**. Спадар Халмачоў у час выбарчай кампаніі працаваў у ініцыятыўных групах некалькіх дэмакратычных кандыдатаў. У КДБ ад яго запатрабавалі даць падпіску аб неразгалошваньні таямніцы сьледзтва, таму зьмест размовы ён камэнтаваць ня стаў.

Адно што заўважыў: гаворка вялася пра падзеі 19 сьнежня ў Менску і падрыхтоўку да масавай акцыі пратэсту.

**18.01.2011** Сьледчых цікавілі падзеі 19 сьнежня ў Менску, у якіх ні спадар Сіманковіч, ні спадар Сьцяпанаў удзелу ня бралі. Таксама пытаньні да актывістаў тычыліся і дзейнасьці выбарчых штабоў Рымашэўскага і Саньнікава.

**Уладзімер Сіманковіч** быў намесьнікам кіраўніка віцебскага штабу Віталя




Рымашэўскага. Ён распавёў, што на большасьць пытаньняў сьледчых КДБ адказваць адмовіўся, скарыстаўшы сваё права ня сьведчыць супраць сябе, гарантаванае артыкулам 27 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

**Яўгена Сьцяпанава**, сябра ініцыятыўнай групы Андрэя Саньнікава, таксама дапытвалі пра падзеі 19 сьнежня. Хоць сьледчыя ведалі, што ў той дзень машыну, у якой ехалі спадар Сьцяпанаў і Ўладзіслаў Варанецкі, кіраўнік віцебскага выбарчага штабу Саньнікава, затрымала ДАІ. Такім чынам, у менскай акцыі Яўген Сьцяпанаў удзелу ня браў, але ў КДБ яго апытвалі і наконт ягонага ўдзелу ў выбарчай кампаніі.

**19.01.2011** Спадарыня Сагідуліна ў час выбарчай кампаніі была даверанай асобай Уладзімера Някляева і каардынавала працу выбарчага штабу ў Віцебскай вобласьці.

Яна распавяла, што на допыт яе выклікалі праз тэлефон, але перад пачаткам допыту, ужо ў будынку КДБ, уручылі афіцыйную позву. Актывістку папярэдзілі, што гаворка пойдзе пра падзеі 19 сьнежня ў Менску, але ж **Лідзія Сагідуліна** там не была.

Іншых падрабязнасьцяў гутаркі са сьледчым актывістка не паведамляе, бо ў яе ўзялі падпіску пра неразгалошваньне таямніцы сьледзтва. Яна мяркуе, што ёй задавалі прыкладна тыя самыя пытаньні, што і іншым актывістам — нават тым, якія ў Менск на акцыю пратэсту ня езьдзілі.

**24.01.2011** Заяву на імя старшыні Чыгуначнага райвыканкаму падпісалі віцебскія давераныя асобы і кіраўнікі выбарчых штабоў зьняволеных кандыдатаў — Андрэя Саньнікава, Уладзімера Някляева, Мікалая Статкевіча, Аляксея Міхалевіча, а таксама давераная асоба Дзьмітрыя Вуса віцебская актывістка **Алена Фаміна** і **Тацьцяна Севярынец**, каардынатарка выбарчага штабу Віталя Рымашэўскага, маці зьняволенага палітыка Паўла Севярынца.

Свае подпісы пад зваротам у райвыканкам паставілі і некалькі віцебскіх дэмакратычных актывістаў, у тым ліку **сябар Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Ян Дзяржаўцаў**. У час выбарчай кампаніі ён выступаў за байкот прэзыдэнцкіх выбараў, але цяпер лічыць неабходным падтрымаць рэпрэсаваных уладамі былых кандыдатаў.

Акцыю прапануюць правесьці 13 лютага ў Парку культуры і адпачынку чыгуначнікаў — гэтае месца адмыслова вызначана райвыканкамам для масавых імпрэзаў. Адказнасьць за парадак і чысьціню бярэ на сябе асабіста **Хрыстафор**

**Жаляпаў**, **віцебскі каардынатар руху «За свабоду»** — ягонае пісьмовае абавязаньне прыкладаецца да заявы ў райвыканкам.

Яшчэ адзін з арганізатараў, **Аляксей Гаўруцікаў**, распавёў, што лісты, у якіх прапануецца правесьці акцыі салідарнасьці паўсюдна, ужо разасланыя сябрам партыі «Народная Грамада» і БСДП (Грамада), а таксама прадстаўнікам руху «За свабоду» ў розныя гарады Беларусі.

**27.01.2011** Паводле Вікторыі Чыж, запрашэньні на размову ў КДБ спачатку былі праз тэлефон. Незадоўга да дня прэзыдэнцкіх выбараў **актывістка «Моладзі БНФ» Вікторыя Чыж** страціла працу. Як ёй стала вядома, таксама не без уплыву супрацоўнікаў КДБ. І здарылася гэта якраз падчас агітацыйнай кампаніі. Яна працавала на Смаленскім кірмашы.

**31.01.2011** На допыце ў КДБ пабывала віцебская актывістка **Алена Фаміна**. Падчас мінулай выбарчай кампаніі яна была даверанай асобай Дзьмітрыя Вуса, а ў дзень выбараў — назіральніцай на адным зь віцебскіх выбарчых участкаў.

Але ў абласной управе КДБ яе дапытвалі пра падзеі 19 сьнежня ў Менску. Спадарыню Фаміну выклікалі на допыт, нягледзячы на тое, што яна хворая на пнэўманію.

**03.02.2011** Падчас мінулай выбарчай кампаніі **Ўладзіслаў Варанецкі** быў даверанай асобай Андрэя Саньнікава. За гэта спэцслужбы яму пагражаюць.

Пасьля падзеяў 19 сьнежня Ўладзіслава Варанецкага не аднойчы дапытвалі супрацоўнікі Віцебскай абласной управы КДБ. Не без уплыву гэтага ведамства, на думку актывіста, цяпер яму пагражае звальненьне з працы.

Сп. Варанецкі працуе на Віцебскім заводзе электравымяральных прыбораў. Пра звальненьне яго папярэдзіў начальнік цэху, назваўшы нават прыкладную дату — калі актывіст, студэнт-завочнік, вернецца на вытворчасьць пасьля гэтай сэсіі.

Праблема працаўладкаваньня для спадара Варанецкага стаіць дужа востра: з папярэдняга месца працы яго таксама звольнілі за палітычныя погляды. Перад пачаткам апошняй выбарчай кампаніі ён працаваў кіроўцам у таксі «107». Але яго адтуль таксама звольнілі і таксама сказалі: выбачай! «Выклікалі, сказалі, што ў фірму тэлефанавалі наконт мяне і што я звольнены, бо ім такія работнікі не патрэбныя — датычныя да нейкіх палітычных спраў».

Разам са спадаром Варанецкім з таксі «107» быў звольнены яшчэ адзін віцебскі актывіст, **кіраўнік суполкі «Моладзь БНФ» Аляксандар Кузьняцоў**. Падчас выбараў ён быў кіраўніком мясцовага штабу Рыгора Кастусёва. Пасьля падзеяў 19 сьнежня яго хацелі дапытаць у Першамайскім райаддзеле міліцыі. Актывіст адмовіўся ісьці туды бяз позвы.

Аляксандар Кузьняцоў згадвае, што пасьля мінулай адмовы ісьці на допыт бяз позвы 15 студзеня некалькі чалавек, не прадставіўшыся, выцягнулі яго з машыны і паклалі тварам у сьнег. А потым зацягнулі ў іншую машыну без нумароў ды гвалтам адвезьлі на допыт у абласную ўправу КДБ.

**04.02.2011** Судзьдзя Алена Цыганкова Чыгуначнага райсуду г. Віцебску апраўдала


Віктар Калесьнік

апазыцыянэра **Барыса Хамайду**, якога месяц таму затрымалі за несанкцыянаванае пікетаваньне. Тады ён абвясьціў бестэрміновую акцыю «2011 год — год нацыянальнага сьцягу», прысьвечаную 20-годзьдзю беларускай незалежнасьці, і выйшаў пад бел-чырвона-белым сьцягам распаўсюджваць незалежную прэсу.

Судзьдзя пастанавіла, што ў гэтым учынку Барыса Хамайды няма складу правапарушэньня.

Міліцыянты заявілі, што судзьдзя Цыганкова «не разабралася» і што яе рашэньне можа быць абскарджанае ў Віцебскім абласным судзе.

**07.02.2011 Старшыня суполкі партыі БНФ** з райцэнтру Гарадок, **актывіст кампаніі «Гавары праўду» Леанід Аўтухоў** трапіў на допыт, калі панёс у мясцовы райаддзел міліцыі дакумэнты, каб замяніць стары пашпарт.

19-га сьнежня Леанід Аўтухоў быў назіральнікам на выбарах у Гарадку. Ад’ехаць у Менск не атрымалася: яго перасьледавалі невядомыя асобы, якія суправаджалі ягоную машыну да позьняга вечара.

7-га лютага Леаніда Аўтухова зноў выклікалі ў Гарадоцкі раённы суд, каб нагадаць пра запазычанасьць:

«Каб пагасіць штраф, кожны месяц плачу 10 тысяч, плюс яшчэ кампутар канфіскавалі, прадалі ў кошт штрафу за 360 тысяч. Засталося яшчэ 1 мільён 66 тысяч!»

У судзе актывісту зноў сказалі, што ён расплачваецца занадта марудна і што за затрымку яму можа пагражаць новае адміністрацыйнае пакараньне.

**10.02.2011** Судовую справу апазыцыянэра **Барыса Хамайды**, затрыманага за тое, што ён распаўсюджваў незалежную прэсу пад вялікім бел-чырвона-белым сьцягам, разьбірала судзьдзя Чыгуначнага райсуду Алена Грабянчук.

Міліцыянты склалі на Барыса Хамайду пратакол за парушэньне артыкулу 23.34 адміністрацыйнага заканадаўства — яго абвінавацілі ў арганізацыі несанкцыянаванага пікету. Але судзьдзя ў самым пачатку працэсу, які распачаўся па затрыманьні, заявіла, што «ня варта сьпяшацца» і прызначыла дату наступнага паседжаньня — 10 лютага.

Спадарыня Грабянчук пыталася ў Барыса Хамайды, ці прыцягваў увагу мінакоў нацыянальны сьцяг — бо ні плякатаў, ні іншых атрыбутаў у апазыцыянэра не было. Аднак сьведкі-міліцыянты настойвалі, што каля так званага «сіняга дому», дому № 28 па вуліцы Леніна, адбываўся менавіта несанкцыянаваны пікет.

Вынік судовага разгляду 10 ліпеня - судзьдзя Грабянчук скасавала справу, бо ня



Аляксандар Калінцаў

ўбачыла ў дзеяньнях апазыцыянэра складу правапарушэньня. Такім чынам, міліцыянты ўжо другі раз затрымліваюць Барыса Хамайду зь бел-чырвона-белым сьцягам, вінавацячы ў несанкцыянаваным пікетаваньні, а судзьдзі прызнаюць, што пікету не было.

Спадар Хамайда мяркуе, міліцыянты распрацавалі новую тактыку: штораз завозіць яго ў пастарунак, далей ад вачэй мінакоў — каб тыя ня бачылі бел-чырвона-белага сьцягу. Апраўдальная судовая пастанова на супрацоўнікаў міліцыі ня дзейнічае: яны ўсё адно складаюць пратаколы за несанкцыянаванае пікетаваньне.

**16.02.2011** Віцебскі абласны суд не задаволіў скаргу наваполацкіх актывістаў **Віктара Калесьніка** і **Аляксандра Калінцава**, на якіх былі накладзеныя штрафы за правядзеньне несанкцыянаванай акцыі салідарнасьці з удзельнікамі Плошчы.

На судовым паседжаньні на працягу трох хвілін судзьдзя Віцебскага абласнога суду Ірына Смалякова разгледзела скаргу. Сказала, што ў нашай краіне такія дзеяньні — гэта правапарушэньне, і пакінула пастанову Наваполацкага гарадзкога суду бязь зьменаў.

**16.02.2011** Каля 12:00 некалькі супрацоўнікаў КДБ прыйшлі з пастановай на ператрус у дом №5 па вуліцы 1-й Сеньненскай. У гэтым доме, дзе віцебскія актывісты ладзяць грамадзкія імпрэзы, знаходзяцца **Хрыстафор Жаляпаў**, даверанaя асоба Аляксея Міхалевіча і **віцебскі каардынатар «За Свабоду»**, а таксама **актывіст руху «За Свабоду» Валер Пятроў**.

Спадар Жаляпаў да 11-й раніцы быў выкліканы на допыт у віцебскую абласную ўправу КДБ. Адтуль на службовай машыне яго прывезьлі на ператрус: Хрыстафор Жаляпаў – уласьнік прыватнага дому, дзе разьмясьціўся «Эўрапейскі клюб». Там праводзяцца навучальныя сэмінары, сустрэчы з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі ды іншыя імпрэзы.

Ператрус скончыся тым, што забралі кампутары й друкаваныя выданьні, а каардынатара руху «За свабоду» Хрыстафора Жаляпава дапыталі.

**17.02.2011** Кіраўнік выбарчага штабу Андрэя Саньнікава звольнены з працы.

**Уладзіслаў Варанецкі**, кіраўнік віцебскага выбарчага штабу Андрэя Саньнікава, быў дапытаны супрацоўнікамі КДБ ужо двойчы. 17 лютага яго звольнілі з працы. Хлопец рабіў на Віцебскім заводзе электравымяральных прыбораў.

Спадар Варанецкі кажа, што начальнік цэху папярэджваў пра звальненьне яшчэ загадзя. Але чакаў, пакуль хлопец, студэнт-завочнік, вернецца з сэсіі. Цяпер



Тамара Карызна

актывісту давядзецца шукаць новую працу, прычым ужо другі раз за апошнія месяцы. Якраз напярэдадні агітацыйнай кампаніі Ўладзіслава Варанецкага звольнілі з транспартнай фірмы «Наталі», дзе ён працаваў кіроўцам таксі. Як яму тады патлумачылі, «апазыцыянэры на працы нікому не патрэбныя».

**18.02.2011** У віцебскую абласную ўправу КДБ выклікалі **актывістку руху «За свабоду» Тамару Карызну**, якая падчас выбарчай кампаніі працавала ў камандзе кандыдата Аляксея Міхалевіча.

Тамару Карызну статус сьведкі абурыў: яна не была ў Менску 19 сьнежня. Тады размова са сьледчым пайшла пра перадвыбарчую дзейнасьць Аляксея Міхалевіча. Іншых падрабязнасьцяў актывістка не паведамляе, бо дала падпіску пра неразгалошваньне таямніцы сьледзтва.

**23.02.2011** Віцебскі абласны суд задаволіў скаргу міліцыянтаў, нязгодных з рашэньнем Чыгуначнага раённага суду, які не знайшоў у дзеяньнях апазыцыянэра складу правапарушэньня.

Судзьдзя Віцебскага абласнога суду Ірына Смалякова вырашыла, што справу **Барыса Хамайды** зноў будзе разглядаць Чыгуначны раённы суд. Такім чынам, апраўдальная пастанова, вынесеная 4-га лютага судзьдзёй Аленай Цыганковай, скасаваная.

**23.02.2011 Актывіста «Маладой Беларусі» Алеся Галаваня** разам з бацькамі-пэнсіянэрамі выклікалі ў Першамайскі РАУС Віцебску, каб паразмаўляць пра менскія падзеі 19-га сьнежня. Алесь Галавань быў тады затрыманы і адбыў 10 сутак арышту ў жодзінскай турме № 8. Размаўляць зь міліцыянтамі ён не пайшоў, бо афіцыйнай позвы яму не ўручылі.

Алесю Галаваню 28 гадоў, і «прафіляктычныя гутаркі» міліцыянтаў з бацькамі ён расцэньвае не як захады дзеля ягонага выхаваньня, а як псыхалягічны ціск на яго і бацькоў-пэнсіянэраў.

**28.02.2011** Судзьдзя Чыгуначнага райсуду Ўладзіслаў Шыкароў прызнаў віцебскага актывіста вінаватым у арганізацыі і правядзеньні несанкцыянаванага пікету і аштрафаваў спадара Хамайду на 30 базавых велічынь, або 1 000 050 рублёў.

Віцебскага апазыцыянэра чарговы раз затрымалі, калі ён пад бел-чырвона-белым сьцягам распаўсюджваў незалежныя выданьні каля так званага "сіняга дому" — дому № 28 па вуліцы Леніна. Гэта было ўжо трэцяе затрыманьне з таго часу, як апазыцыянэр абвясьціў акцыю «2011 год — год нацыянальнага сьцягу», прысьвечаную 20-м угодкам беларускай незалежнасьці.


Барыс Хамайда

Паводле міліцэйскіх пратаколаў **Барыса Хамайду** тройчы судзілі ў Чыгуначным райсудзе. Але судзьдзі Алена Цыганкова і Алена Грабянчук апраўдалі апазыцыянэра, не знайшоўшы ў ягоных дзеяньнях складу правапарушэньня. Судзьдзя Ўладзіслаў Шыкароў пагадзіўся зь меркаваньнем міліцыянтаў, якія затрымлівалі спадара Хамайду, і пастанавіў, што той праводзіў несанкцыянаваную акцыю.

З улікам таго, што Барыса Хамайду затрымліваюць і караюць за падобныя дзеяньні ўжо не ўпершыню, суд вырашыў пакараць затрыманага мільённым штрафам.

Ранейшыя апраўдальныя судовыя пастановы супрацоўнікі Чыгуначнага РАУС пачалі абскарджваць у абласным судзе.

**05.03.2011** Для правядзеньня масавых акцый гарвыканкамам вызначана па адным месцы ў кожным з трох раёнаў абласнога цэнтру. Прадстаўнікі апазыцыйных партый і рухаў прапануюць дадаць у кароткі «дазвольны» сьпіс яшчэ 10 гарадзкіх аб’ектаў — плошчаў і паркаў.

Ліст у гарвыканкам падпісалі васьмёра віцебскіх актывістаў, у тым ліку даверанымя асобы кандыдатаў у прэзыдэнты мінулай выбарчай кампаніі.

Юрыст **Аляксей Гаўруцікаў**, патлумачыў агульную пазыцыю апазыцыянэраў:

«Нам ужо двойчы адмаўлялі ў правядзеньні мітынгаў салідарнасьці з палітвязьнямі ў Парку культуры і адпачынку чыгуначнікаў. Бо якраз у тыя дні, калі плянавалася наша акцыя, парк аказваўся “занятым” спартовымі ці забаўляльнымі імпрэзамі. Адпаведна, гэта немэтазгодна, калі ў кожным раёне ёсьць толькі адно месца для правядзеньня масавых акцыяў. Да таго ж усе гэтыя месцы дужа аддаленыя ад цэнтру. Таму мы прапануем уладам пашырыць “дазвольны” сьпіс, уключыўшы ў яго плошчу Леніна, плошчу Свабоды, плошчу Перамогі, Прывакзальную плошчу — усяго 10 новых месцаў».

У лісьце да ўладаў актывісты таксама просяць перагледзець парадак заключэньня дамоваў на абслугоўваньне масавых мерапрыемстваў. Бо раённыя адміністрацыі патрабуюць пісьмовых узгадненьняў наконт мэдычнага абслугоўваньня, паслугаў ЖКГ і міліцэйскай аховы падчас акцыяў. А ўсе згаданыя структуры ў сваю чаргу не заключаюць дамоваў, пакуль не атрыманы дазвол на правядзеньне мерапрыемства. Такім чынам, лічаць актывісты, найперш рашэньне мусяць прымаць у выканкамах.

Заяўнікі пішуць, што яны хацелі б прысутнічаць на паседжаньні гарвыканкаму, калі будзе разглядацца іхная заява. Адначасова зь ёй віцебскія апазыцыянэры накіравалі ў тры раённыя адміністрацыі новыя заяўкі на правядзеньне масавых


Павал Севярынец

акцыяў — да Дня Волі. У кожным раёне арганізатары гатовыя правесьці імпрэзы ў вызначаных уладамі месцах, але яны не выключаюць, што й там 25 сакавіка ўсё будзе «занята».

**14.03.2011** Тыдзень таму маці **Паўла Севярынца** падала сьледчаму заяву аб дазволе на сустрэчу Паўла са сьвятаром для споведзі. 14 сакавіка **Таццяна Севярынец** даведалася пра вынік.

«Атрымала ліст ад сьледчага Санько, які адмаўляе у нашай сустрэчы з Паўлам і адносна сустрэчы са сьвятаром піша, што гэта не ў яго кампэтэнцыі».

Пра неабходнасьць зьвярнуцца з заявай да сьледчага адносна сустрэчы сына са сьвятаром, паводле Таццяны Севярынец, ёй сказалі ў кіраўніцтве Беларускай праваслаўнай царквы.

**17.03.2011** Судзьдзя Ўладзіслаў Шыкароў зноў прызнаў апазыцыянэра вінаватым у арганізацыі несанкцыянаванага пікету — за тое, што **Барыс Хамайда** выйшаў у цэнтар Віцебску зь бел-чырвона-белым сьцягам. Месяц таму судзьдзя таго ж Чыгуначнага райсуду не знайшла ў дзеяньнях Барыса Хамайды складу праваапарушэньня.

Адміністрацыйны пратакол, складзены міліцыянтамі на затрыманага 3 студзеня апазыцыянэра, разглядаўся цяпер паўторна. Кіраўніцтва Чыгуначнага райаддзелу міліцыі не задаволіла рашэньне судзьдзі Алены Цыганковай, якая апраўдала Барыса Хамайду. Віцебскі абласны суд задаволіў скаргу міліцыянтаў, і справу перадалі на разгляд іншаму судзьдзі.

Судзьдзя Ўладзіслаў Шыкароў пагадзіўся з супрацоўнікамі міліцыі. Ён прызнаў, што Барыс Хамайда праводзіў каля так званага «сіняга дома» — дому № 28 па вуліцы Леніна — несанкцыянаваны пікет, таму што бел-чырвона-белы сьцяг прыцягваў увагу мінакоў і сьведчыў пра пэўныя палітычныя погляды віцебскага актывіста.

Спадар Шыкароў прысудзіў Барысу Хамайду штраф памерам 30 базавых велічынь, што складае 1 мільён 50 тысяч рублёў.

**23.03.2011** Цягам апошняга месяца тры мільённыя штрафы на віцебскага апазыцыянэра наклаў судзьдзя Чыгуначнага райсуду Ўладзіслаў Шыкароў. 23 сакавіка за выхад у цэнтар Віцебску зь бел-чырвона-белым сьцягам ён чарговым разам пакараў **Барыса Хамайду** на 1 мільён 50 тысяч рублёў.

Барыс Хамайда кажа, што штрафы сплачваць не зьбіраецца, бо ня хоча падтрымліваць уласнымі грашыма дзейную ўладу. У свае 64 гады ён знарок не афармляе



Сяргей Каваленка

пэнсію, каб зь яе не маглі вылічваць грошы ў кошт судовых пакараньняў. А вось акцыю «2011 год — год нацыянальнага сьцягу» працягваць будзе, нягледзячы на міліцэйскі і судовы перасьлед.

**23.03.2011 Віцебскі каардынатар руху «За свабоду» Хрыстафор Жаляпаў** быў на допыце ў абласной управе КДБ у якасьці сьведкі па справе аб масавых непарадках 19 сьнежня. Пазьней яго выклікалі на прафілактычную гутарку да намесьніка кіраўніка Чыгуначнага РАУС.

Паводле спадара Жаляпава, у КДБ яго распытвалі пра пасьлявыбарчыя падзеі як даверaную асобу кандыдата ў прэзыдэнты Рыгора Кастусёва і сябра ініцыятыўнай групы кандыдата ў прэзыдэнты Аляксея Міхалевіча. 19 сьнежня віцебскі актывіст займаўся назіраньнем на выбарах і ў Менск ня езьдзіў.

Аднак Хрыстафора Жаляпава выклікалі ў абласную ўправу КДБ ужо двойчы.

У Чыгуначны райаддзел міліцыі спадара Жаляпава выклікалі як аднаго з заяўнікаў пікету да Дня Волі. Пікет быў замоўлены на вечар 25 сакавіка ў Парку культуры і адпачынку чыгуначнікаў. Але з Чыгуначнай раённай адміністрацыі актывісты атрымалі адмову: праводзіць мітынг ім было забаронена на той падставе, што якраз тым самым часам сваю акцыю «Разам — супраць сухотаў» у парку будзе ладзіць аддзел аховы здароўя.

У райаддзеле міліцыі Хрыстафору Жаляпаву яшчэ раз нагадалі пра забарону, папярэдзіўшы, што ў выпадку самавольнага правядзеньня акцыі ўдзельнікаў прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасьці.

**24.03.2011** Віцебскага актывіста, затрыманага 24 сакавіка з трыма бел-чырвонабелымі сьцягамі, вінавацяць у хуліганстве і арганізацыі несанкцыянаванага пікету.

Суд адбудзецца 25 сакавіка а 9 раніцы ў Чыгуначным раённым судзе Віцебску. Пратаколы на **Сяргея Каваленку** склалі ў Чыгуначным РАУС пасьля затрыманьня каля так званага «сіняга дому» ў цэнтры Віцебску.

Празь некалькі гадзін Сяргея Каваленку адпусьцілі з пастарунку, паведаміўшы, што 25 сакавіка ён мусіць зьявіцца ў Чыгуначны раённы суд.

**25.03.2011** Віцебскі апазыцыянэр **Барыс Хамайда** вырашыў адзначыць Дзень Волі напісаньнем дыктоўкі каля так званага «сіняга дому» — дому № 28 па вуліцы Леніна, дзе ён распаўсюджвае незалежную прэсу. Спадару Хамайду перашкодзілі міліцыянты: ім не спадабаўся бел-чырвона-белы сьцяг, які ўзьняў актывіст.

Барыс Хамайда заявіў, што працягне пісаць дыктоўку ў пастарунку — будзе перапісваць яе з кнігі. Разам зь ім у Чыгуначны РАУС па сваёй волі пайшла Анта-


Сяргей Рыжоў

ніна Піванос, украінка па нацыянальнасьці, якая на знак салідарнасьці зь беларускім апазыцыянэрам пісала дыктоўку на сваёй роднай мове, перакладаючы «Ліст з-пад шыбеніцы» Кастуся Каліноўскага на ўкраінскую.

**25.03.2011** Чацьверты раз за гэты месяц судзьдзя Чыгуначнага райсуду Ўладзіслаў Шыкароў аштрафаваў віцебскага апазыцыянэра Б. Хамайду на 1 мільён 50 тысяч рублёў. Гэтым разам — за напісаньне агульнанацыянальнай дыктоўкі пад бел-чырвона-белым сьцягам.

**Барыс Хамайда** вырашыў адзначыць Дзень Волі напісаньнем дыктоўкі каля так званага «сіняга дому», але пісаць дыктоўку яму перашкодзілі міліцыянты. Барыс Хамайда працягваў пісаць дыктоўку і ў пастарунку — перапісваў «Ліст з-пад шыбеніцы» Кастуся Каліноўскага з кнігі, пакуль на яго складалі пратакол.

Судзьдзя Чыгуначнага райсуду Ўладзіслаў Шыкароў ня толькі аштрафаваў апазыцыянэра на 30 базавых велічынь. Ён пастанавіў, каб у спадара Хамайды быў сканфіскаваны бел-чырвона-белы сьцяг і ўсе прылады для яго мацаваньня.

**28.03.2011** Жыхар Віцебску **Сяргей Рыжоў**, які спрабаваў удзельнічаць у прэзыдэнцкіх выбарах у якасьці кандыдата, але ня быў зарэгістраваны, цяпер стварае новую партыю «Белая Русь». Тое, што яе назва выклікае асацыяцыю з праўладным грамадзкім аб’яднаньнем, стваральніка БКП «Белая Русь» не бянтэжыць.

Паводле Сяргея Рыжова, гэтая назва ёмістая і шматсэнсоўная. І адрозьненьні паміж грамадзкім аб’яднаньнем «Белая Русь» і Беларускай кансэрватыўнай партыяй «Белая Русь» павінны неўзабаве ўсе ўсьвядоміць, лічыць стваральнік.

Сяргей Рыжоў распавёў, што сяброў партыі ў Віцебску — ужо 25 чалавек. Цікавасьць да яе выказалі жыхары Магілёва і Менску, а таксама асобных райцэнтраў Віцебскай вобласьці. Спадар Рыжоў лічыць сябе сустаршынём, бо кіраўніцтва партыі яшчэ фармуецца і мае быць калегіяльным. Афіцыйна рэгістраваць партыю, на думку яе стваральніка, ня мае сэнсу. Таксама партыя ня будзе браць удзелу ў наступных парлямэнцкіх выбарах «да вяртаньня Беларусі ў канстытуцыйнае рэчышча 1994 году».

Галоўныя партыйныя прынцыпы, паводле Сяргея Рыжова, гэта: «Кансэрватызм, хрысьціянскія каштоўнасьці і нацыяналістычная ідэя».

**01.04.2011** Віцебскі **актывіст КХП БНФ Сяргей Каваленка** на волі пабыў толькі 5 хвілін. Калі ён выйшаў з турмы пасьля сямі сутак арышту, яго зноў затрымала міліцыя. У Першамайскім райаддзеле міліцыі на Сяргея Каваленку склалі пратакол за парушэньне рэжыму, за што яму далі яшчэ 15 сутак арышту.




Папярэдні арышт Сяргею Каваленку быў прысуджаны 25 сакавіка — за тое, што актывіст выйшаў у цэнтар Віцебску з трыма бел-чырвона-белымі сьцягамі. Суд Чыгуначнага раёну прызнаў яго вінаватым у арганізацыі несанкцыянаванага пікету, а таксама ў дробным хуліганстве — нібыта падчас затрыманьня спадар Каваленка нецэнзурна лаяўся.

**27.04.2011 Віцебскага каардынатара руху «За свабоду» Хрыстафора Жаляпава** праз тэлефон тэрмінова выклікалі ў міліцэйскі пастарунак. Ён мусіў прыйсьці на сустрэчу, прызначаную на 17:00 гадзін 26 красавіка. Аднак актывіст адмовіўся зьявіцца ў Першамайскі РАУС на гутарку наконт «недапушчальнасьці правядзеньня несанкцыянаванай акцыі», бо не было афіцыйнай позвы. Сам актывіст праз мэдыі выказаў меркаваньне, што яго выклікалі ў міліцыю дзеля таго, каб ён ня змог трапіць на акцыю, прысьвечаную 25-м угодкам аварыі на Чарнобыльскай АЭС, якая мусіла распачацца а 17:30 на плошчы Свабоды. Зладжаная ў Віцебску акцыя не была дазволена ўладамі. Мясцовыя актывісты падавалі заяўку ў адміністрацыю Чыгуначнага раёну, каб правесьці жалобны мітынг у парку Чыгуначнікаў, але атрымалі адмову.

**03.05.2011** У Віцебску адбылося чарговае палітычна матываванае звальненьне. Гэтым разам быў звольнены з працы **кіраўнік па Віцебскай вобласьці руху «Маладая Беларусь» Алесь Галавань**. Алесь працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў 11-й сярэдняй школе.

**05.05.2011** За санкцыянаваны пікет глыбоцкі актывіст **Яраслаў Берніковіч** прысуджаны да штрафу ў памеры 20 базавых велічыняў, або 700 тысяч рублёў. Такое рашэньне прыняў судзьдзя раённага суду Глыбокага Станіслаў Трапук. Яраслава Берніковіча аштрафавалі як арганізатара пікету, зладжанага 19 сакавіка на знак салідарнасьці з палітвязьнямі – удзельнікамі акцыі пратэсту супраць фальшаваньня вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў.

Нягледзячы на тое, што пікет быў дазволены ўладамі, больш як празь месяц пасьля яго правядзеньня – 27 красавіка – на актывіста склалі міліцэйскі пратакол. Міліцыянты паказалі актывісту заяву, напісаную ад імя старшыні райвыканкаму Алега Морхата, у якой той прасіў міліцыю даць прававую ацэнку дзеяньням арганізатара акцыі. Як адзначалася ў напісанай чыноўнікам заяве, акцыя скончылася на 10 хвілін пазьней за дазволены час, падчас яе выкарыстоўваліся агітацыйныя матэрыялы, не пазначаныя ў заяўцы, ды быў усталяваны намёт. Менавіта ўсталяваньне намёту і было прызнана правапарушэньнем, за якое арганізатара дазволенага пікету пакаралі штрафам.

**07.05.2011** Маці палітвязьня П. Севярынца **Таццяна Севярынец** вымушаная была




зьвярнуцца ў гарадзкую пракуратуру Менску са скаргай на дзеяньні міліцыянтаў. Інцыдэнт адбыўся ў будынку суду Фрунзэнскага раёну сталіцы, дзе праходзіць працэс над былым кандыдатам у прэзыдэнты Віталём Рымашэўскім. Да Тацьцяны Яўгенаўны падыйшоў маёр міліцыі Максім Грышчанка і пачаў зрываць завязаную ў яе на шыі бел-чырвона-белую стужку. Пры гэтым міліцыянт грубіў кабеце, пагражаў ёй затрыманьнем.

**26.05.2011** Як толькі на «Нафтан» быў прызначаны новы генэральны дырэктар, пяршоўка Незалежнага прафсаюзу аб’яднаньня зьвярнулася да яго з просьбай аб сустрэчы. На ёй меркавалася вырашыць пытаньне, што зайшло ў тупік, пра заключэньне калектыўнай дамовы паміж наймальнікам і працаўнікамі ААТ «Нафтан», якія ўваходзяць у Незалежны прафсаюз.

З боку наймальніка ў сустрэчы ўдзельнічаў генэральны дырэктар Уладзімер Трацьцякоў, дырэктар заводу «Палімір» Алег Жэбін, і намесьнік генэральнага дырэктара па ідэалягічнай працы Мікалай Калбасенка. З боку Незалежнага прафсаюзу прысутнічалі **старшыня пяршоўкі Іван Сьвятоха** і два ягоныя намесьнікі – **Генадзь Варона** і **Ніна Турчына**. Уладзімер Трацьцякоў прапанаваў Незалежнаму прафсаюзу супрацоўнічаць, але не пагадзіўся ані на заключэньне асобнай калектыўнай дамовы, ані на падпісаньне дадатковага пагадненьня да таго, што ўжо дзее. Паводле заканадаўства, наймальнік ня мае права адмовіць у вядзеньні перамоваў. З гэтай нагоды «незалежныя» спрабавалі зьвярнуцца ў пракуратуру. Аднак наваполацкія дагледачы ня ўгледзелі парушэньня закону ў дзеяньнях адміністрацыі «Нафтану» і параілі прафсаюзу зьвярнуцца ў інспэкцыю працы і абласны арбітраж.

**27.05.2011** Пасьля футбольных спаборніцтваў, у якіх узяла ўдзел мясцовая каманда **грамадзянскай кампаніі «Наш Дом»**, у Талачынскі гарвыканкам пачалі выклікаць бацькоў футбалістаў. Чыноўнікі казалі, што юнакам трэба адмовіцца ад знаёмства з актывістам кампаніі **Мікалаем Петрушэнкам** і не гуляць у форме зь лягатыпам кампаніі. Мясцовы апазіцыйны актывіст Мікалай Петрушэнка з гэтай нагоды зьвярнуўся да дэпутата Аршанскага гарсавету Сяргея Барвянкова, каб той зрабіў дэпутацкі запыт у рэгіянальны аддзел КДБ.

**02.06.2011** Паводле **Ўладзіслава Токарава**, **старшыні гарадзкой арганізацыі СПБ**, ён зьехаў у Польшчу пасьля таго, як 28 траўня ў ягонай кватэры правялі пeратрус, а яго самога затрымалі на вуліцы і дапыталі ў Дэпартамэнце фінансавых расьсьледаваньняў.

У. Токараў кажа, што прыйшлі і забралі два ноўтбукі і кампутар. Таксама забралі



Уладзіслаў Токараў

ўсе дакумэнты па грамадзкай арганізацыі – СПБ. Спадар Токараў ня стаў чакаць арышту і зьехаў у Польшчу. На яго думку перасьлед звязаны з актыўнай дзейнасцю ў Віцебску Саюзу палякаў Беларусі.

**08.06.2011** Віцебскага актывіста, **прадстаўніка віцебскага моладзевага руху «Вольны шлях» Аляксандра Кузьняцова** выклікалі на камісію за парушэньне правілаў паркоўкі. Супрацоўнікам ДАІ не спадабалася, што за лабавым шклом прычэплена бел-чырвона-белая стужка і значок «Жыве Беларусь!» Параіўшыся з начальствам, прадстаўнікі ДАІ заявілі, што за такое аштрафаваць ня могуць, але пакараюць за іншае – за паркоўку ў «зялёнай зоне».

**14.06.2011 Каардынатар віцебскага моладзевага руху «Вольны шлях» Аляксандар Кузьняцоў** і **актывіст кампаніі «Гавары праўду»** з Гарадка **Леанід Аўтухоў** зьбіраліся 16 чэрвеня правесьці пікеты са зборам подпісаў за адстаўку ўраду, які ня можа вывесьці Беларусь зь цяжкага эканамічнага становішча. Райвыканкамы адмовілі абодвум арганізатарам.

Мясцовыя актывісты абвясьцілі, што абмяркоўваць такія жыцьцёва важныя рэчы, як падвышэньне цэнаў, абясцэньваньне беларускіх грошай і праблемы з валютай трэба публічна. Таму праводзіць пікеты ды зьбіраць подпісы зьбіраліся на цэнтральнай плошчы Гарадка і каля летняга амфітэатру ў Віцебску.

У пісьмовых адмовах, якія атрымалі Леанід Аўтухоў і Аляксандар Кузьняцоў, гаворыцца, што гэтыя месцы не ўваходзяць у пералік тэрыторыяў, вызначаных уладамі для правядзеньня масавых мерапрыемстваў.

**29.06.2011** Экс-прэтэндэнт на ўдзел у прэзыдэнцкіх выбарах адмовіўся адказваць на пытаньні ў сьледчай управе папярэдняга расьсьледаваньня МУС Віцебскага аблвыканкаму. **Сяргея Рыжова** выклікалі туды, каб апытаць наконт заклiку распачаць 3 ліпеня агульнабеларускі бестэрміновы страйк. Спадар Рыжоў кажа, што ў Дэпартамэнце папярэдніх расьсьледаваньняў яму патлумачылі яго правы, і ён адмовіўся размаўляць са сьледчым, скарыстаўшы 27 артыкул Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які дае кожнаму грамадзяніну права ня сьведчыць супраць самога сябе.

**13.07.2011** Зь **сябрам аргкамітэту БХД Зьмітром Літвінам** зь Віцебску не працягнуты кантракт на прадпрыемстве «Белвэст». Прычынай звальненьня сталі размовы Зьмітра са сваімі калегамі і запрашэньне іх далучыцца да маўклівых акцыяў па серадах.

Як патлумачыў Зьмітру Літвіну майстар цэху Івашнёў Ігар Пятровіч, звальняюць яго менавіта з-за размоваў зь сябрамі па працы наконт акцыяў па серадах, пра што


Настасься Сотнікава

стала вядома майстру. Зьміцер пацьвердзіў, што зарэгістраваны «Вконтакте» і дзяліўся інфармацыяй зь людзьмі, бо гэта ж пасьля працы. Вось майстар і заявіў: «Ідзі, далей мітынгуй!»

**14.07.2011** А 19:00 напярэдадні маўклівай акцыі пратэсту на пл. Перамогі ў Віцебску затрыманая **кіраўніца «Віцебскай моладзі БХД» Настасься Сотнікава**.

Супрацоўнікі міліцыі ў цывільным затрымалі яе быццам бы для высьвятленьня асобы, даставілі ў апорны пункт Кастрычніцкага райаддзелу па вуліцы Жасткова. Праз 3 гадзіны яна была адпушчана зь міліцыі без складаньня пратаколу.

**16.07.2011 Абласны каардынатар руху «За свабоду» Хрыстафор Жаляпаў** просіць Міністэрства юстыцыі правесьці паўторную юрыдычную экспэртызу рашэньня Віцебскага гарвыканкаму ад 10.07.2009 г. № 811 «Аб масавых мерапрыемствах у Віцебску», а таксама ініцыяваць разгляд урадам Беларусі пытаньня пра адмену п. 3 рашэньня Віцебскага гарвыканкаму, каб прывесьці яго ў адпаведнасьць з заканадаўствам і міжнароднымі нормамі.

На падставе юрыдычна сумнеўнага рашэньня Віцебскага гарвыканкаму чыноўнікі сёлета ўжо забаранілі чатыры акцыі. Віцебчукі кажуць, што такая ўнікальная сытуацыя, калі можна адвольна, бяз дай прычыны не дазволіць любое масавае мерапрыемства, склалася толькі ў іх горадзе.

Хрыстафор Жаляпаў упэўнены, што практыка прымяненьня рашэньня Віцебскага гарвыканкаму № 811 супярэчыць арт. 35 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і ч. 2 артыкулу 19 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох, а таксама не адпавядае ч. 4 арт. 6 Закону «Аб масавых мерапрыемствах», у якім вызначаны парадак арганізацыі і правядзеньня акцыяў.

Віцебскі гарвыканкам на запыт актывістаў адмовіўся уносіць праўкі ў сваё рашэньне № 811. Галоўнае ўпраўленьне юстыцыі аблвыканкаму, куды дасылалася скарга, таксама пакінуў нарматыўны акт бязь зьменаў.

**29.07.2011** Віцебскія ўлады забаранілі чарговую акцыю салідарнасьці са зьняволенымі за ўдзел у падзеях 19 сьнежня 2010 году. Дэмакратычныя актывісты гораду зьбіраліся правесьці яе 27 ліпеня. Павінны былі адбыцца вулічнае шэсьце і сход. Шэсьце павінна было пачацца ад плошчы Перамогі і прайсьці па ходніках на вуліцах Генэрала Белабародова, Будзённага і Някрасава да парку культуры і адпачынку Чыгуначнікаў, дзе мусіў прайсьці сход.

Арганізатарам мерапрыемства выступіў **Хрыстафор Жаляпаў**. На гэты раз актывісты заключылі ўсе неабходныя дамовы з гарадзкімі службамі, але гарвыканкаму не спадабалася праходжаньне шэсьця побач з падземным


Хрыстафор Жаляпаў

пераходам на плошчы Перамогі. Нагадаем, што акцыю салідарнасьці са зьняволенымі за ўдзел у падзеях 19 сьнежня 2010 году ў Віцебску спрабуюць правесьці ня першы раз, і ня першы раз яе забараняюць. Напрыклад, у лютым мерапрыемству перашкодзіла «Беларуская лыжня-2011».

**05.08.2011 Хрыстафору Жаляпаву** адмовілі ў правядзеньні мітынгу ў парку культуры і адпачынку Чыгуначнікаў. Гэтым разам міліцыя, хуткая дапамога і Віцебская жыльлёва-камунальная гаспадарка з розных прычынаў адмовіліся абслугоўваць масавае мерапрыемства.

Чыгуначны аддзел унутраных спраў ня змог знайсьці вольных супрацоўнікаў для аховы правапарадку на мітынгу, бо ўсе яны быццам бы задзейнічаныя ў месцах масавага адпачынку грамадзян, дзіцячых летніках і на праваслаўным фэсьце «Адыгітрыя».

Вольнай брыгады хуткай дапамогі таксама не знайшлося. Усе задзейнічаныя на абслугоўваньні футбольнага матча жаночага чэмпіянату па футболе паміж камандамі «Унівэрсытэт» і «Менск», спартовых мерапрыемствах у летніку «Дружба», а таксама на праваслаўным фэсьце «Адыгітрыя».

Самую цікавую адмову прыслалі зь Віцебскай жыльлёва-камунальнай гаспадаркі — яны патлумачылі, што на аснове дамовы прыбіраньне робяць прадпрыемствы «Гардармост» і «Віцебск Зелянбуд» штодзённа, а таксама пасьля санкцыянаваных мерапрыемстваў, а таму дадатковую дамову яны заключыць ня могуць.

Такім чынам адміністрацыя Чыгуначнага раёну Віцебску з чыстым сумленьнем адмовіла Жаляпаву ў правядзеньні мітынгу з-за таго, што ён не заключыў дамоваў на абслугоўваньне масавага мерапрыемства.

**24.08.2011** Паводле пададзенай заяўкі, 25 жніўня арганізатары меркавалі «адзначыць 20-годзьдзе наданьня акту незалежнасьці Беларусі канстытуцыйнага характару і выказаць салідарнасьць з асуджанымі за ўдзел у мірнай акцыі 19 сьнежня 2010 году на плошчы Незалежнасьці ў Менску з патрабаваньнем іх неадкладнага вызваленьня».

У лісьце, які атрымаў з Чыгуначнай раённай адміністрацыі **віцебскі каардынатар руху «За свабоду» Хрыстафор Жаляпаў**, прычынай забароны імпрэзы названа адсутнасьць дамоваў на абслугоўваньне імпрэзы службамі ЖКГ, міліцыяй і мэдыкамі.

**01.10.2011** Віцебскі **актывіст аргкамітэту па стварэньні партыі БХД Усевалад**


Усевалад Жураўлёў

**Жураўлёў** на пачатку навучальнага году апынуўся перад пагрозай адлічэньня з тэхналягічнага ўнівэрсытэту. Другакурсьніка зьбіраліся адлічыць за ўдзел у акцыях маўклівага пратэсту: пасьля адной зь іх яго затрымалі, адправілі на «суткі», а потым судзілі. Такім чынам ён прапусьціў тры дні практыкі, і літаральна некалькі гадзінаў не пасьпеў адпрацаваць да 1 верасьня. Гэта й стала падставай для адлічэньня.

**03.10.2011** З 2008 году так і ня змог уладкавацца на працу **старшыня Гарадоцкай суполкі партыі БНФ**, **актывіст кампаніі «Гавары праўду» Леанід Аўтухоў**. Яму на дзяржаўнае прадпрыемства ўладкавацца немагчыма.

**05.10.2011** Ініцыятары Народнага сходу занесьлі запрашэньне ў Віцебскі гарвыканкам. Імпрэзу мяркуюць правесьці не на плошчы ў цэнтры гораду, а ў звычайным віцебскім двары, дзе ў звычайных гараджанаў ёсьць шмат пытаньняў да чыноўнікаў.

Арганізатары запрашаюць жыхароў Віцебску сабрацца 8 кастрычніка ў двары дамоў №2 і №4 па вуліцы Багдана Хмяльніцкага. Гэта амаль у самым цэнтры гораду, недалёка ад плошчы Свабоды. Тут мясцовыя жыхары пакутуюць на дробныя праблемы: да прыкладу, у двары часам утвараецца несанкцыянаваная паркоўка для аўтамабіляў – калі на бліжэйшых аўтастаянках бракуе месца для машын. Яшчэ адно пытаньне – гэта вялікая яміна ў двары, ужо да паловы занесеная апалым восеньскім лісьцем.

**07.10.2011 Хрыстафор Жаляпаў** падаў скаргу ў Чыгуначны райсуд, і працэс прызначаны на 13 кастрычніка. На яго выклікаюць супрацоўнікаў адміністрацыі Чыгуначнага раёну, якія 8 разоў запар адмовілі віцебскім актывістам у правядзеньні вулічных акцыяў, а таксама прадстаўнікоў ЖКГ, хуткай дапамогі і міліцыі. Хрыстафор Жаляпаў распавёў, што сьведкамі ў судзе выступяць і іншыя заяўнікі, якія са сьнежня мінулага году спрабавалі правесьці ў Віцебску мітынгі і пікеты.

**07.10.2011 Старшыню прафкаму** аднаго з прадпрыемстваў Віцебску хочуць прыцягнуць да адказнасьці за тое, што ён просіць міліцыю прад'явіць заканадаўчы акт, які абавязвае ўсіх мужчын здаваць адбіткі пальцаў. Суд адбудзецца 12 кастрычніка. **Валер Стаўроў** не адмаўляецца здаваць адбіткі пальцаў, але просіць міліцыю прад'явіць закон, які абавязвае яго гэта зрабіць.

Паводле нормаў існуючага заканадаўства ён гэтага рабіць не павінен. Да яго міліцыянты ўжо некалькі разоў прыходзілі дадому і пагражалі непрыемнасьцямі на працы. Нарэшце, мясцовае РАУС перадало матэрыялы на Стаўрова ў суд.




На Валера міліцыянты склалі пратакол паводле артыкулу 23.4 КаАП РБ і перадалі матэрыялы ў суд. 12 кастрычніка ў судзе Віцебскага раёну будуць разглядаць яго справу і судзіць нібыта за непадпарадкаваньне законным патрабаваньням супрацоўнікаў міліцыі. Валер працуе інжынэрам на адным з прадпрыемстваў Мінпраму і адначасова ўзначальвае прафкам.

**08.10.2011** У Віцебску затрымалі актывіста **Сяргея Каваленку**. Пра гэта паведаміла яго жонка. А 8-й раніцы дамоў да Каваленкаў прыйшлі міліцыянты і запатрабавалі, каб Сяргей ішоў зь імі. Канкрэтнай прычыны затрыманьня яны не патлумачылі. Найхутчэй, мае месца «прэвэнтыўная мера» перад Народным сходам.

**08.10.2011** Напярэдадні «Народнага сходу» невядомыя разьбілі шкло ў аўтамабілі **шэф-рэдактара «Віцебскага кур'ера» Вадзіма Баршчэўскага**. Ягоны сын значыўся ва ўлётках, як каардынатар сходу па Віцебску. Вадзім Баршчэўскі зьвязвае спробу вывесьці аўтамабіль са строю зь сёньняшнім мерапрыемствам. Ён лічыць, што ўлады не зацікаўленыя ў прысутнасьці на сходзе незалежных журналістаў і аб'ектыўным асьвятленьні падзеяў.

Машына ўначы знаходзілася ў двары. Выкрадзены невялікі прыбор крэномэтар і атляс аўтамабільных дарогаў. Міліцыя, якая прыехала на месца здарэньня, не змагла аформіць пратакол на месцы, і Вадзіму Баршчэўскаму давялося прайсьці з міліцыянтамі ў РАУС. У суме – афармленьне заняло каля 2-х гадзін, хаця звычайна працэдура займае ня больш за паўгадзіны. Апроч таго, супрацоўнікі міліцыі ня сталі здымаць адбіткаў пальцаў, хаця зламысьнікі маглі «насьлядзіць» у салёне, адразаючы правады прыбору.

**08.10.2011** У Віцебску затрыманы **старшыня Гарадоцкай суполкі Партыі БНФ Леанід Аўтухоў**. Супрацоўнікі ДАІ спынілі яго аўтамабіль і заявілі, што патрабуецца тэхнічны дагляд. Колькі часу на гэта спатрэбіцца – міліцыянты не ўдакладнілі.

**10.10.2011** Віцебская моладзь зьбіралася зладзіць флэш-моб, каб прадэманстраваць сваю нязгоду з пабудовай АЭС у Беларусі. Да адной з патэнцыйных удзельніц увечары 10 кастрычніка зьявіліся міліцыянты ды пачалі запалохваць дзяўчыну ды яе маці. 22-гадовая Ксенія апавяла, што двое супрацоўнікаў міліцыі нават не назвалі сябе, адно што адзін зь іх заявіў, што ён участковы.

Ідэя правесьці флэш-моб зьявілася яшчэ два тыдні таму, з гэтай нагоды створана адмысловая старонка ў сацыяльнай сетцы «Вконтакте». Паводле прапановы арганізатараў, усе ахвотныя зьбіраюцца на вуліцы Леніна каля Ратушы, і ў пэўны час зь іхных мабільных тэлефонаў мусіць прагучаць запіс аб'явы Прыпяцкага


Народны сход: Т. Севярынец, І. Яскевіч, В. Спаткай

гарадзкога радыё пра аварыю на Чарнобыльскай АЭС.

**11.10.2011** Леаніда Аўтухова спыніла ДАІ, калі ён вяртаўся зь віцебскага Народнага сходу. Супрацоўнікі інспэкцыі заявілі, што ён парушыў правілы дарожнага руху, выяжджаючы зь месца сустрэчы. Спадар Аўтухоў лічыць, што прэтэнзіі да яго маюць палітычныя падставы. Актывіст, які адмыслова прыехаў з райцэнтру Гарадок у Віцебск, каб узяць удзел у Народным сходзе, рыхтуе скаргу ў абласную ўправу ўнутраных справаў Віцебскага аблвыканкаму на дзеяньні супрацоўнікаў ДАІ.

Сьведкі – чатыры чалавекі – гэта пасажыры ў машыне спадара Аўтухова. А машына ў яго прыкметная: сьпераду вісіць сьцяжок Эўразьвязу, а ў салёне – бел-чырвона-белая стужка і лёзунг «За Някляева!»: **Леанід Аўтухоў – старшыня раённай суполкі партыі БНФ** і **актывіст кампаніі «Гавары праўду»**.

Такім чынам, пасьля Народнага сходу ў Леаніда Аўтухова забралі правы і выдалі часовы талён на праезд, які дзейнічае цягам 30 дзён. Дзеяньні ДАІ ён лічыць незаконнымі, таму будзе скардзіцца вышэйшаму міліцэйскаму начальству. Тым больш што ягоны стаж кіроўцы – больш за 26 гадоў, і за гэты час ён ня зьдзейсьніў ніводнага сур’ёзнага парушэньня ПДР. Але апошняя прэтэнзія з боку ДАІ можа пацягнуць за сабой забарону на кіраваньне аўтамабілем тэрмінам да двух гадоў.

**12.10.2011** Чыноўнікі ўсе ж прынялі дакумэнт. **Арганізатары Народнага сходу** пакінулі свае адрасы, каб атрымаць адказ ад уладаў. **Тацьцяну Севярынец** і **Валера Спаткая**, якія прынесьлі пісьмовыя патрабаваньні ўдзельнікаў сходу да мясцовых уладаў, спачатку накіравалі ў агульны аддзел выканкаму. Але там заявілі, што дакумэнт складзены «не па форме».

Тым часам, на удзельнікаў Народнага сходу распачаўся ціск. 10 кастрычніка двое супрацоўнікаў міліцыі прыйшлі да 22-гадовай удзельніцы сходу, якая прапанавала ўнесьці ў рэзалюцыю пункт пра бясплатны праезд для віцебскіх студэнтаў, якія такой ільготы ня маюць. Міліцыянты заявілі, што ведаюць пра ўдзел дзяўчыны ў флэш-мобах, што зьнялі яе на відэа падчас Народнага сходу і што раяць ёй «зьнізіць грамадзкую актыўнасьць».

**13.10.2011** Недзе а 8-й гадзіне раніцы да апазыцыянэра дамоў нечакана ўваліліся супрацоўнікі ворганаў аховы правапарадку. Яны загадалі **Сяргею Каваленку** паехаць зь імі. Сяргея завезьлі ў Першамайскі РАУС г. Віцебску, дзе пратрымалі амаль 10 гадзін. Пасьля без складаньня пратаколу Каваленка быў адпушчаны.

Неабгрунтаваным лічыць затрыманьне Сяргея Каваленкі **праваабаронца Павал Левінаў**. Існуе крымінальна-выканаўчая інспэкцыя. Супрацоўнікі міліцыі, сапраў-




ды, маюць права прэвэнтыўна затрымаць асобу. Але рабіць гэта яны могуць, толькі калі ёсьць важкія падставы меркаваць, што затрыманьне прадухіліць магчымае правапарушэньне з боку гэтай асобы.

**25.10.2011** На Віцебскую **абласную каардынатарку аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» Тацьцяну Севярынец** гарадзкія ўлады зьбіраюцца падаць у суд за арганізацыю Народнага Сходу ў Віцебску. Пра гэта ёй паведамілі 25 кастрычніка старэйшы лейтэнант Казючыц Павал Мікалаевіч і маёр Паўлаў, якія сказалі ёй чакаць позву ў суд. У дачыненьні да Тацьцяны Севярынец склалі пратакол за «арганізацыю несанкцыянаванага ўладамі масавага мерапрыемства».

**01.11.2011** Былы **прэтэндэнт на ўдзел у прэзыдэнцкіх выбарах 2010 году**, віцебскі прадпрымальнік **Уладзімер Правальскі** лічыць, што Аляксандар Лукашэнка павінен пакінуць сваю пасаду. Ён зьвярнуўся да выбаршчыкаў з прапановай падпісаць калектыўную заяву на імя прэзыдэнта. У заяве грамадзяне мусяць запатрабаваць ад Лукашэнкі падаць у адстаўку. Збор подпісаў пад заявай будзе завершаны ў гадавіну леташніх прэзыдэнцкіх выбараў. 19 сьнежня дакумэнт мяркуецца перадаць у адміністрацыю прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь.

**03.11.2011** Віцебская актывістка **Тацьцяна Севярынец** распавяла, што атрымала ліст зь Першамайскага райсуду, дзе гаворыцца, што супраць яе завялі выканаўчую справу. Судовая выканаўца Кацярына Ткачонак піша, што спадарыня Севярынец дагэтуль ня выплаціла штраф, прысуджаны ёй у ліпені за арганізацыю несанкцыянаванай акцыі.

Насамрэч штраф быў выплачаны яшчэ 20 ліпеня. Урэшце судовая выканаўца паабяцала, што зробіць запыт у гарвыканкам, ці паступалі грошы на адпаведны разьліковы рахунак.

**03.11.2011** Леаніда Аўтухова азнаёмілі з рашэньнем камісіі ДАІ. Яго пазбавілі магчымасьці кіраваць аўтамабілем на цэлы год ды яшчэ далі штраф памерам 280 тысяч рублёў. Бо, паводле пратаколу, ён груба парушыў правілы дарожнага руху, вяртаючыся 8 кастрычніка з Народнага сходу, які праходзіў у Віцебску.

Рашэньне ДАІ спадар Аўтухоў лічыць палітычна матываваным і зьбіраецца абскардзіць у судзе.

**07.11.2011** У лютым 2011 г. Вярхоўны Суд пакінуў бязь зьменаў апраўдальны прысуд Магілёўскага абласнога суду ў дачыненьні да непаўнагадовых Аляксандра Логінава і Аляксандра Напаюка, якіх вінавацілі ў забойстве 31-гадовага беспрацоўнага Д. Сідарава. У судзе былі даказаныя факты фальсыфікацыі справы супра-




цоўнікамі віцебскай міліцыі, а таксама аказаньня ціску на падазраваных у часе папярэдняга сьледзтва.

У траўні па фактах прымяненьня незаконных мэтадаў дазнаньня супрацоўнікамі Першамайскага РАУС Віцебску была распачатая крымінальная справа. З моманту вызваленьня падлеткаў іх бацькі, а таксама паўсотні жыхароў Віцебску напісалі каля 150 лістоў у Генпракуратуру і Адміністрацыю Лукашэнкі з патрабаваньнем справядлівага пакараньня для сьледчых.

**09.11.2011** 4 лістапада на **аднаго з кіраўнікоў Віцебскай арганізацыі руху «Маладая Беларусь» Тараса Сургана** быў учынены напад, калі ён вяртаўся дадому з працы. Невядомыя маладыя людзі зьнянацку падышлі да Тараса, папрасілі закурыць і пачалі зьбіваць. Тарас ня змог нічога супрацьпаставіць ім. Яго зьбілі і парэзалі нажом невядомыя, пасьля чаго ўцяклі.

Цягам усяго допыту жонка Тараса безвынікова тэлефанавала супрацоўнікам міліцыі і патрабавала адпусьціць Тараса дадому і дапытваць яго там. Толькі пасьля завяршэньня допыту ў ЛАУС на транспарце актывіста адпусьцілі. У той час, калі Тарас знаходзіўся ў міліцыі, да яго дадому прыйшлі супрацоўнікі міліцыі і правяліператрус. Паказальна тое, што ніякай санкцыі наператрус у іх не было, а Тарас праходзіць па справе як пацярпелы. Была канфіскаваная ўся вопратка, у якой быў апрануты Тарас у момант падзеяў. 8 лістапада опэрупаўнаважаны капітан міліцыі Шарычкоў І. П. прыехаў да Тараса дадому і хацеў гвалтоўна забраць Тараса ў аддзел для нефармальнай гутаркі, але Тарас адмовіўся і зьвярнуўся па тэлефоне да мясцовых праваабаронцаў. Пасьля гэтага супрацоўнік міліцыі адступіў.

Тарас зьвязвае гэтыя падзеі з тым, што апошнім часам на актывістаў Віцебскай арганізацыі руху «Маладая Беларусь» узмацніўся ціск з боку міліцыі і спэцслужбаў па розных напрамках: раней двух актывістаў «Маладой Беларусі» звольнілі з працы па палітычных матывах, былі адміністрацыйныя арышты і затрыманьні.

**10.11.2011** У Віцебску быў затрыманы **кіраўнік абласной філіі ствараная апазыцыйнай Беларускай кансэрватыўнай партыі «Белая Русь» Аляксандар Кірылаў**, паведаміў БелаПАН былы прэтэндэнт на пасаду прэзыдэнта Беларусі, кіраўнік аргкамітэту па стварэньні партыі Сяргей Рыжоў.

Паводле ягоных словаў, Кірылаў быў затрыманы супрацоўнікамі АМАПу ў будынку ўпраўленьня па працы, занятасьці і сацыяльнай абароне Віцебскага гарвыканкаму, куды прыйшоў для вырашэньня пытаньня свайго працаўладкаваньня. Кірылава суправадзілі ў Кастрычніцкі РАУС Віцебску, ён абвінавачваецца ў абразе чыноўнікаў і супраціве супрацоўнікам міліцыі.

**11.11.2011** Спадара **Барыса Хамайду** затрымалі на звычайным месцы, дзе ён штодня распаўсюджвае незалежныя выданьні – каля дому № 28 па вуліцы Леніна. Супрацоўнікі міліцыі заявілі, што зь ім хоча пагаварыць кіраўніцтва Чыгуначнага РАУС.

Але ў пастарунку размаўляць давялося з прадстаўнікамі аддзелу міліцыі грамадзкай бясьпекі. Апазыцыянэру прапанавалі падпісаць пісьмовае папярэджаньне, што ён ня будзе праводзіць мітынгаў і ня выйдзе ў горад зь бел-чырвона-белым сьцягам.

**11.11.2011 Аляксандра Кірылава** вінавацяць у нецэнзурных абразах службовых асобаў — кіраўніка і супрацоўнікаў віцебскага цэнтру занятасьці.

11 лістапада актывіст зьвярнуўся да мэдыкаў, і яны зафіксавалі цялесныя пашкоджаньні.

Кірылава затрымалі 10 лістапада ў будынку віцебскага Цэнтру занятасьці, дзе ён стаіць на ўліку як беспрацоўны. У Кастрычніцкім РАУС на яго склалі пратакол за хуліганства, але вінаватым сябе актывіст ня лічыць.

**12.11.2011** Адбылося затрыманьне **Сяргея Каваленкі**. Гэтым разам міліцыянты схапілі Каваленку ля палацу спорту, куды апазыцыянэр прывёў сына на трэніроўку. Падчас затрыманьня Сяргей Каваленка здолеў затэлефанаваць свайму брату, каб той забраў ягонага сына з трэніроўкі. Чым выклікана затрыманьне – незразумела, бо відавочна, што спадар Каваленка не зьбіраўся ўдзельнічаць у Народным сходзе, паколькі знаходзіўся на момант пачатку акцыі ў зусім іншым месцы.

Даведаўшыся пра затрыманьне, жонка Сяргея Каваленкі запатрабавала сустрэчы з мужам. Аднак міліцыянты не далі ёй такой мажлівасьці, бо, кажуць, сёньня непрацоўны дзень, і таму няма каму такую сустрэчу санкцыянаваць. Каб адстаяць правы мужа, спадарыня Алена мае намер зьвярнуцца ў раённую і абласную пракуратуры.

Апроч таго, **Алена Каваленка** паскардзілася на дзеяньні міліцыянтаў зь Першамайскага РАУС віцебскаму **прадстаўніку Беларускага Хэльсынскага Камітэту Паўлу Левінаву**. Праваабаронца патэлефанаваў дзяжурнаму па УУС Віцебскага аблвыканкаму і папрасіў умяшацца ў сытуацыю, што склалася. Сьпярша дзяжурны прапанаваў зьвярнуцца да работнікаў пракуратуры, але потым паабяцаў апэратыўна разабрацца.

**13.11.2011** Актывіста з райцэнтру Гарадок пазбавілі правоў на адзін год, а таксама аштрафавалі на 280 тысяч. Спадар Аўтухоў лічыць, што падставы пакараньня палітычныя: калі ён вяртаўся дахаты 8 кастрычніка з Народнага сходу ў Віцебску, яго машыну спынілі супрацоўнікі ДАІ – як высьветлілася, паводле загаду свайго кіраўніцтва. Актывіста прызналі парушальнікам правілаў дарожнага руху, і гэта ён спрабуе аспрэчыць праз суд.

На падставе таго, што дакумэнты пра ягонае правапарушэньне складзеныя зь відавочнымі хібамі, а дасьледаваньне інцыдэнту праведзенае ня ў поўным аб'ёме, **Леанід Аўтухоў** патрабуе адмяніць пастанову ЧасВАП начальніка АДАІ Гара-




доцкага РАУС Рымшы А.А. ад 3 лістапада 2011 і спыніць справу аб адміністрацыйным правапарушэньні.

**15.11.2011** Актывісты кампаніі «Гавары праўду» вырашылі прымусіць мясцовыя ўлады выправіць шматлікія недапрацоўкі і агрэхі ў добраўпарадкаваньні двароў. Так на працягу некалькіх тыдняў яны сабралі і 15 лістапада перадалі ў гарвыканкам подпісы грамадзян наконт дзвюх праблемаў дваровых тэрыторыяў: па вул. Церашковай (дамы № № 14, 14 корпус 1 і дом № 16) і вул. Чкалава (дом № 32 корпус 2). У першым выпадку сабрана і перададзена 200 подпісаў жыхароў, у другім – 320.

**17.11.2011** У Віцебску супрацоўнікамі міліцыі была затрыманая **актывістка «Нашага Дому» Тамара Кандакова**. Актывістку затрымалі падчас распаўсюду газэты «Віцебскі Кур'ер» па адрасе – вуліца Церашковай, дом 28, корпус 1. Тамара Піліпаўна была дастаўленая ў РАУС Кастрычніцкага раёну, дзе міліцыянты склалі пратакол, у якім пазначана, што яна «незаконна распаўсюджвала сродак масавай інфармацыі – газэту «Віцебскі Кур'ер», ня маючы на тое адпаведнага дазволу». Пасьля складаньня пратаколу актывістку адпусьцілі.

**24.11.2011** Каля 20 гадзін да сябра **КХП БНФ Сяргея Каваленкі** ў дом прыйшлі супрацоўнікі РАУС Першамайскага раёну Віцебску. Яны заявілі, што Каваленка зьдзейсьніў адміністрацыйнае правапарушэньне – нібыта ён аблаяў матам супрацоўнікаў міліцыі.

**05.12.2011** Юры Панфілаў, нядаўна прызначаны на пасаду старшыні Чыгуначнай раённай адміністрацыі Віцебску, забараніў праводзіць пікет да ўгодкаў Усеагульнай Дэклярацыі правоў чалавека 10 сьнежня. Заяўку на пікет падавала **Алена Фаміна**, давераная асоба Дзьмітрыя Вуса на мінулых прэзыдэнцкіх выбарах. Падчас пікету яна меркавала запісаць ахвотных у ініцыятыўную групу прыхільнікаў прапановы спадара Вуса, каб унесьці зьмены ў выбарчае заканадаўства.

Меркавалася, што пікетоўцаў будзе ўсяго двое. Але кіраўнік адміністрацыі адмовіў на той падставе, што ініцыятарка не падала дамовы зь міліцыяй – наконт аховы ўдзельнікаў, з хуткай дапамогай – каб каля пікету дзяжурыла машына, і са службай ЖКГ – каб пасьля мерапрыемства зрабілі «генэральнае прыбіраньне».

**05.12.2011 Каардынатар руху «За свабоду» Хрыстафор Жаляпаў** выступіў арганізатарам масавых мерапрыемстваў, прысьвечаных мінулагоднім падзеям 19 сьнежня. Заяўка на правядзеньне акцыяў ужо накіраваная ў Віцебскі гарвыканкам. Мэта правядзеньня вулічнага шэсьця і сходу – дэманстрацыя салідарнасьці з асуджанымі за ўдзел у мірнай акцыі 19 сьнежня 2010 году на плошчы Незалежнасьці гораду Менску, а таксама патрабаваньне іх неадкладнага


Леанід Аўтухоў

вызваленьня.

**07.12.2011** Віцебскія сябры аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» 7 сьнежня сабралі і пераслалі **Валеру Ганчарэнку**, інваліду другой групы, хвораму на адкрытую форму сухотаў, грашовыя ахвяраваньні – 300 тысяч рублёў.

**12.12.2011** Леанід Аўтухоў, **актывіст кампаніі «Гавары праўду»** з Гарадка, старшыня раённай суполкі Партыі БНФ, ужо чацьверты год беспрацоўны. «Я бяз працы з апошніх выбараў у Палату прадстаўнікоў.

Леанід Аўтухоў зьняверыўся і ў судовай сыстэме. Паводле 7 артыкулу Дэклярацыі правоў чалавека, усе людзі роўныя перад законам, аднак суд не аднавіў яго на працы чатыры гады таму. А нядаўна яшчэ й пазбавіў правоў кіроўцы — падтрымаў рашэньне ДАІ, згодна зь якім Леанід Аўтухоў быў прызнаны злосным парушальнікам правілаў дарожнага руху. Адметна, што затрымалі яго за парушэньне ПДР якраз тады, як ён вяртаўся з Народнага сходу, і ў сьпіну ён пачуў: «Больш езьдзіць ня будзеш!»

Актывісты лічаць, што пра падобныя парушэньні правоў трэба як мага шырэй паведамляць грамадзкасьці. Але зрабіць гэта амаль немагчыма: незалежнай прэсы практычна няма, а на інфармацыйныя пікеты дазволу атрымаць не ўдаецца.

**14.12.2011** З Чыгуначнай раённай адміністрацыі атрымаў забарону на пікет салідарнасьці з палітвязьнямі **актывіст Эўрапейскай Беларусі Ўладзіслаў Варанецкі**. Паводле актывіста, ён падаваў заяўку на пікет у Парку культуры і адпачынку чыгуначнікаў.

Парк культуры і адпачынку чыгуначнікаў — адно з афіцыйна вызначаных уладамі месцаў для правядзеньня масавых мерапрыемстваў. Але прадстаўнікам апазыцыі за ўвесь 2011 год там не дазволілі правесьці ніводнай акцыі.

**16.12.2011 Прыхільніка Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі Валера Ганчарэнку**, які 12 сьнежня абвясьціў галадоўку ў Багушэўскім абласным сухотным шпіталі, 16 сьнежня забралі ў міліцыю. Пра гэта прэсавай службе БХД паведаміў сусед Валера Ганчарэнкі па палаце. Паводле яго словаў, Валера забралі прыкладна а 16-й гадзіне. Прычыны затрыманьня яму невядомыя. Пры гэтым ён адзначыў, што мэдпэрсанал шпіталю на затрыманьне ніяк не рэагаваў, як, у прынцыпе, і на саму галадоўку.

**16.12.2011** На афіцыйную размову наконт недапушчальнасьці правядзеньня акцыяў выкліканыя Хрыстафор Жаляпаў, Аляксей Гаўруцікаў і Ян Дзяржаўцаў, якія падавалі ў гарвыканкам заяўкі на правядзеньне шэсьця і сходу да ўгодкаў



Максім Гайкоў

Плошчы. **Аляксей Гаўруцікаў**, даверaная асоба Мікалая Статкевіча, і **сябра КХП БНФ Ян Дзяржаўцаў** атрымалі ў Віцебскай абласной пракуратуры пісьмовыя папярэджаньні наконт адміністрацыйнай адказнасьці за парушэньне закону пра масавыя акцыі. **Віцебскі каардынатар руху «За свабоду» Хрыстафор Жаляпаў** мусіць зьявіцца ў пракуратуру раніцай 19 сьнежня.

**18.12.2011** Каб дайсьці праўды, работніцы ААТ «Віцебскмясамалпрам» паспрабавалі запісацца на асабісты прыём да старшыні аблвыканкаму Аляксандра Косінца. Аднак у запісу на прыём ім адмовілі. Тады жанчыны пайшлі ў рэдакцыю дзяржаўнай абласной газэты «Народнае слова», дзе распавялі пра свае беды. Галоўная рэдактарка Вера Мурашкіна ўважліва выслухала работніц, паспачувала ім і паабяцала дапамагчы разабрацца ў сытуацыі. І пэўным чынам «дапамагла». Але ніякай карысьці такая «дапамога» работніцам не прынесла.

Ліст з адзнакай «Аб разглядзе калектыўнага звароту» быў атрыманы жанчынамі неўзабаве пасьля іх паходу ў рэдакцыю. Прычым прыйшоў ён не з газэты, у якую зьярталіся, а зь Віцебскага аблвыканкаму. З адказу чыноўнікаў вынікае, што начальніца аддзелу выканкаму па рабоце са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб Алена Раманоўская, на дзеяньні якой работніцы паскардзіліся ў газэту, зрабіла правільна, адмовіўшыся запісаць іх на асабісты прыём да спадара Косінца. Дапамога «Народнага слова» на гэтым скончылася.

**19.12.2011** У дні, калі адбываюцца маштабныя апазыцыйныя акцыі, прэвэнтыўна затрымліваць спадара Каваленку стала ўжо «традыцыяй». Але гэтым разам супрацоўнікі Першамайскага РАУС заявілі, што актывісту, пакаранаму «хатняй хіміяй», можа быць зьменены рэжым пакараньня – на турэмнае зьняволеньне.

Яго забралі з дому ў інспэкцыю па выкананьні пакараньняў – нібыта каб пагаварыць пра скаргі, якія ён напісаў у абласную пракуратуру. Аднак па тэлефоне **Сяргей Каваленка** сказаў, што гаворкі пра скаргі нават не было. Сьледам за ім у інспэкцыю зьявіліся супрацоўнікі Першамайскага РАУС. Як кажа актывіст, рыхтуюць дакумэнты на зьмену рэжыму ўтрыманьня паводле артыкулу 415 Крымінальнага кодэксу.

**20.12.2011 Каардынатара праваабарончага праекту «ГейБеларусь» на Віцебшчыне Максіма Гайкова** супрацоўнікі спэцслужб сустрэлі на выхадзе з пад'езду дому. Людзі ў цывільным, якія прадставіліся супрацоўнікамі КДБ, спыталі ў актывіста, ці не плянуе ён правядзеньне гей-параду ў абласным горадзе, і задалі шэраг іншых пытаньняў адносна дзейнасьці арганізацыі і самога актывіста.

Яшчэ адну актывістку – гетэрасэксуальную заснавальніцу «ГейБеларусі» зь

Віцебску – выклікала намесьніца дэкана ўнівэрсытэту, у якім тая навучаецца. Заснавальніцу абвінавацілі ў тым, што яна падрывае асновы маральнасьці дзяржавы і займаецца прапагандай нездаровага ладу жыцьця. Намесьніца дэкана папярэдзіла віцебскую ЛГБТ-актывістку аб адказнасьці за арганізацыю незаконных публічных акцыяў і аб магчымых гутарках са спэцслужбамі.

**22.12.2011** Адбыўся арышт **віцебскага актывіста Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Сяргея Каваленкі**. Каваленку арыштавалі ў межах распачатай супраць яго справы паводле арт. 415 Крымінальнага кодэксу («Ухіленьне ад адбываньня пакараньня ў выглядзе абмежаваньня волі»). Актывісту пагражае да трох гадоў пазбаўленьня волі.

**02.01.2012 Аднаго зь віцебскіх лідэраў руху «Маладая Беларусь» Тараса Сургана** выклікалі ў Чыгуначны РУУС для прафіляктычнай размовы. Пасьля таго, як Тарас выйшаў з Чыгуначнага РУУС і прайшоў 300 мэтраў, ён быў затрыманы супрацоўнікамі спэцназу і зноў дастаўлены ў Чыгуначны аддзел міліцыі.

У выніку супрацоўнікі міліцыі склалі пратакол паводле артыкулу 17.1 КаАП і напісалі ў ім, што Тарас нібыта спраўляў «малую патрэбу». Тараса пратрымалі двое сутак у ІЧУ, у тым ліку навагоднюю ноч, і толькі 2-га студзеня адбыўся суд. Судзьдзя суду Чыгуначнага раёну В. Цыганкова прысудзіла Тарасу Сургану штраф у памеры 2-х базавых адзінак.

**10.01.2012** Працягваецца ціск на **кіраўніка арганізацыйнага камітэту па стварэньні апазыцыйнай партыі «Белая Русь» Сяргея Рыжова**. Ужо больш за год ён ня можа знайсьці працы, і адмаўляецца яму ў мэдычнай дапамозе. Сяргей Рыжоў адзначае, што цяпер ціск пашырыўся і на чальцоў ягонай сям’і.

Цяпер рэпрэсіі прымяняюцца і ў адносінах да ягонай сястры, якой не далі бальнічнага ліста пасьля хірургічнай апэрацыі. Яна павінна была на наступны дзень выйсьці на працу, але а 3-й гадзіне ночы страціла прытомнасьць. Дактары «хуткай дапамогі» адмовілася даставіць яе ў больніцу. С. Рыжоў наконт гэтага падаў скаргу ў раённую пракуратуру.

**11.01.2012** Хворы на сухоты **актывіст Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі Валер Ганчарэнка**, які сваёй дзейнасьцю прыцягнуў увагу грамадзкасьці да праблемаў сухотнай лякарні ў Багушэўску, паспрабаваў уцячы адтуль, але быў злоўлены на вакзале ў Віцебску і зьмешчаны ў псыхіятрычнае аддзяленьне. Зараз ён знаходзіцца ў калідоры пад няспынным наглядам санітараў. Пра гэта стала вядома ад іншых пацыентаў шпіталю.

12 сьнежня ён абвясьціў галадоўку і адмовіўся ад прыёму мэдыкамэнтаў. На восьмы дзень галадоўкі ён быў зьмешчаны ў псыхіятрычнае аддзяленьне. Валеру Ганчарэнку пачалі ўзмоцнена калоць заспакойлівыя псыхатропныя рэчывы.

Пацыенты шпіталю таксама распавялі, што адміністрацыя ўстановы аховы здароўя пазабірала ў іх мабільныя тэлефоны, паперу, асадкі, а таксама забараніла ім камунікаваць са зьнешнім сьветам. Да таго ж, хворыя ўжо даўно не атрымліваюць неабходныя лекі. Галоўурач Натальля Уладзімераўна Лясная кажа, што яны вельмі дарагія. Яна вельмі абураная, што да яе ўстановы прыцягнутая пільная ўвага грамадзтва.


Алена Каваленка

**13.01.2012** Увечары 13 студзеня машыну рэдактара «Віцебскага кур'еру» Алега Баршчэўскага затрымалі супрацоўнікі ДАІ. За рулём знаходзілася **журналістка** газэты **Юлія Канаплёва**. Праваахоўнікі склалі 2 адміністрацыйныя пратаколы: за нібыта брудны нумар (хаця быў моцны сьнегапад), а таксама за нібыта пратэрмінаваны часовы талён (пасьля суду справу працягнулі на месяц замест належных 2-х і зусім не перагледзелі яе).

Мэта чапляньня ДАІшнікаў – канфіскаваць наклад чарговага нумару «Віцебскага кур'еру».

**14.01.2012** У дзень, калі адбываўся разгляд яго справы Сяргея Каваленкі, віцебская міліцыя ўсяляк спрабавала абмежаваць доступ актывістаў грамадзянскай супольнасьці ў суд, каб яны не змаглі падтрымаць палітвязьня.

Так, па дарозе ў суд Першамайскага раёну супрацоўнікі ДАІ чатыры разы спынялі машыну **былога палітвязьня Сяргея Парсюкевіча**, у выніку чаго ён спазьніўся на судовае паседжаньне на гадзіну.

Яшчэ трое маладзёнаў былі затрыманыя перад пачаткам суду за тое, што яны нібыта пераходзілі вуліцу ў неналежным месцы – за 10 мэтраў ад пешаходнага пераходу. Прычым затрыманьне рабіў АМАП! Маладых людзей пратрымалі ў міліцэйскім пастарунку тры гадзіны, пасьля чаго выпусьцілі.

**25.01.2012** Каля 21:00 у раёне дому № 41 па Маскоўскім праспэкце ў Віцебску затрымалі **Алену Каваленку**, і жонку яго малодшага брата **Хрысьціну Каваленку**.

Затрымалі іх за тое, што яны нібыта расклейвалі ўлёткі з інфармацыяй пра Сяргея. У жанчын запатрабавалі прад'явіць асабістыя рэчы для надгляду. Калі зрабіць гэта яны адмовіліся, іх схапілі і адвезьлі ў Першамайскі РАУС Віцебску. Момант затрыманьня міліцыянты здымалі на відэа.

Жанчын абвінавачваюць у зьдзяйсьненьні правапарушэньня паводле часткі 2 артыкулу 22.9 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях (парушэньне заканадаўства аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі). За гэта ім пагражаюць штрафы памерам ад 20 да 50 базавых велічынь.

**03.02.2012** **Хачатур Хачатуран** зь Віцебску разам з групай жыхароў абласнога цэнтру зьвярнуўся з шэрагам пытаньняў да генэральнага пракурора Аляксандра Канюка. Спадар Хачатуран дабіваецца пакараньня для сьледчых, што сілай змушалі падлеткаў, сярод якіх яго сын Аляксандар Логінаў, абгаварыць сябе і пры-

знацца ў зьдзяйсьненьні забойства. Сьледчы накіраваў яго сына без суправаджальных дакумэнтаў на абсьледаваньне ў псыхіятрычную лякарню «Навінкі», дзе той правёў больш за месяц.

Адказ прыйшоў ад намесьніка генпракурора Аляксея Стука. Бацькоў падлеткаў і тых, хто падпісаўся ў іх абарону, гэты адказ абурае.

У прыватнасьці, А. Стук адзначае, што за парушэньні крымінальна-працэсуальнага заканадаўства, дапушчаныя пры расьсьледаваньні і ажыцьцяўленьні пракурорскага нагляду за ім па крымінальнай справе па факце забойства Сідарава Д. А. шэраг пракурорскіх работнікаў прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасьці, прынятыя да іх меры ўзьдзеяньня адпавядаюць цяжару зьдзейсьненых правін, падстаў для прыцягненьня іх да больш строгай адказнасьці няма.

**17.02.2012 Рэдактара сайта «ННВ» Сяргея Серабро** выклікалі ў транспартную міліцыю г. Віцебску. Прычына выкліку – інфармацыя пра вывешаны 8 лютага бел-чырвона-белы сьцяг, а таксама фотаздымкі, зьмешчаныя на незалежным сайце «Народныя Навіны Віцебска». Сяргей Серабро – аўтар інфармацыі, дзе паведамлялася, што сьцяг быў вывешаны на знак салідарнасьці са зьняволеным у СІЗА сябрам КХП БНФ Сяргеем Каваленкам, і што вывесілі яго браты Сурганы, актывісты «Маладой Беларусі».

Падчас тэлефоннай размовы з начальнікам транспартнай міліцыі сп. Серабро зазначыў, што хоча скарыстацца правам журналіста не выдаваць крыніцы канфідэнцыйнай інфармацыі, пакуль справа пра бел-чырвона-белы сьцяг не дайшла да суду. Начальнік міліцыі сказаў, што гэта трэба занатаваць, і што журналіста ўсё адно чакаюць для тлумачэньняў.

**21.02.2012** Групу **маладафронтаўцаў** па дарозе ў Віцебск спынілі супрацоўнікі ДАІ. У машыне ехалі **Сітнік Павал**, **Мускі Міхась**, **Крамянецкі Зьміцер**, **Васільеў Раман**, **Яроменак Уладзімер**. У Віцебску маладафронтаўцы плянавалі падтрымаць на судзе палітвязьня Сяргея Каваленку.

А дзясятай гадзіне раніцы ДАІшнікі перапісалі пашпартныя дадзеныя, разабралі й абшукалі машыну і, паводле словаў маладафронтаўцаў, самі ня ведалі, да чаго яшчэ «дакалупацца», толькі ўсьміхаліся. Усе маладафронтаўцы былі затрыманыя і дастаўленыя ў РАУС Віцебскага раёну, дзе на іх былі складзеныя пратаколы паводле артыкулу 17.1 КаАП –дробнае хуліганства.

**23.02.2012** Заяўкі на 15 пікетаў у падтрымку Сяргея Каваленкі падаваў у раённыя адміністрацыі гораду **Ян Дзяржаўцаў**, **кіраўнік адной зь віцебскіх суполак КХП-БНФ**. Пікеты мусілі адбывацца ў розных раёнах гораду цягам пяці дзён, пачынаючы з 21 лютага – са дня, калі распачаўся суд над Каваленкам. Аднак улады правядзеньне ўсіх 15-ці меркаваных пікетаў забаранілі.

Фармальная прычына забароны: заяўнікі не заключылі дамоваў аб абслугоўваньні масавага мерапрыемства работнікамі ЖКГ, мэдыкамі і міліцыянтамі; апроч таго, заяўкі на частку пікетаў нібыта былі пададзеныя пазьней за вызначаныя заканадаўствам тэрміны.



Зьміцер Вайцюшкевіч

Ян Дзяржаўцаў накіраваў скаргі ў адпаведныя раённыя суды Віцебску.

**26.02.2012** Каля 19 гадзін вечара ў Віцебску па адрасе вул. Церашковай, дом 14 корп. 1 супрацоўнікамі міліцыі была затрыманая добраахвотная **памочніца грамадзянскай кампаніі «Наш дом» Ганна Гадлеўская**. Валянтэрка распаўсюджвала бясплатную газэту «Наш Дом инфо». Нумар «Інструкцыя па эксплюатацыі дэпутата» прысьвечаны правам выбаршчыкаў і абавязкам дэпутата і падрыхтаваны ў межах кампаніі «Дэпутатаў – да адказу!»

Супрацоўнік міліцыі быў бяз формы, ён паказаў пасьведчаньне і выклікаў па тэлефоне нарад міліцыі. Супрацоўнікі міліцыі, якія прыбылі, даставілі актывістку ў Кастрычніцкі РАУС, склалі пратакол аб адміністрацыйным парушэньні нібыта за незаконны распаўсюд інфармацыйнай прадукцыі. Міліцыянты канфіскавалі ў актывісткі 430 асобнікаў газэты. У РАУС Ганну Гадлеўскую пратрымалі амаль 3 гадзіны: міліцыянты доўга пералічвалі газэты.

**27.02.2012** У Віцебску канцэрт **Зьмітра Вайцюшкевіча** прайшоў на паддашку.

Заплянаваны у Віцебскай філярмоніі канцэрт Зьмітра Вайцюшкевіча 26 лютага быў перанесены ў прыватны клюб.

Клюб мае камэрную сцэну, таму аб’яўлены раней прыезд WZ-аркестры не адбыўся. Нягледзячы на зьмену месца і часу канцэрту, заля была перапоўненая, а слухачы засталіся задаволеныя.

**01.03.2012** З ініцыятывы **віцебскай каардынатаркі аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» Тацьцяны Севярынец** у Багушэўскую абласную сухотную лякарню адасланы адвакацкі запыт наконт **актывіста БХД Валера Ганчарэнкі**. У запыце ўздымаецца пытаньне наконт законнасьці ўтрыманьня актывіста ў псыхіятрычным аддзяленьні. Ранейшыя звароты Тацьцяны Севярынец ў віцебскую пракуратуру не далі якога-небудзь плёну.

**05.03.2012** Віцебскі актывіст **Віктар Рамнёў** зьвярнуўся ў абласны суд са скаргай на пастанову судзьдзі суду Віцебскага раёну Тацьцяны Ліпскай ад 23 лютага.

Ён лічыць, што судзьдзя неправамерна наклала на яго адміністрацыйнае спагнаньне ў выглядзе штрафу ў памеры пяцідзесяці базавых велічынь (1 750 000 рублёў) з канфіскацыяй 10 000 асобнікаў зарэгістраванай у Смаленску газэты «Віцебскі кур’ер» і 24 000 асобнікаў выданьня «Наш дом».



Віктар Рамнёў

Сваёй пастановай, на думку Рамнёва, судзьдзя парушыла ягонае права на вольнае выказваньне свайго меркаваньня, якое ўключае ў сябе права на распаўсюд інфармацыі.

**06.03.2012** Віцебскі гарвыканкам забараніў ладзіць акцыі 25 сакавіка. Арганізатары, якія заплянавалі ў Дзень Волі шэсьце і гарадзкі сход, зьвярнуліся ў суд, каб аспрэчыць забарону на правядзеньне акцыі. 25 сакавіка віцебскія актывісты думалі правесьці невялікае шэсьце па цэнтры гораду і сход на плошчы Свабоды.

Заяўнікам адмовілі, бо яны не прад'явілі дамоваў на абслугоўваньне мерапрыемства са службай ЖКГ, міліцыяй і хуткай дапамогай. Атрымаўшы такую адмову, актывісты зьвярнуліся са скаргай у Міністэрства ўнутраных спраў на абласную ўправу МУС, бо іхны пісьмовы зварот наконт заключэньня дамовы супрацоўнікі міліцыі праігнаравалі.

Віцебская гарадзкая служба ЖКГ адмовілася скласьці дамову на 25 сакавіка, патлумачыўшы, што тэрыторыю, дзе заплянаваныя акцыі, прыбірае прадпрыемства «Гардармост».

**07.03.2012** На трасе Смаленск – Віцебск 4 сакавіка віцебская міліцыя затрымала частку накладу газэты «Наш Дом инфо». Выпуск газэты быў прысьвечаны перамогам грамадзянскай кампаніі «Наш Дом» у 2011 годзе. На ўезьдзе ў Віцебск аўтамабіль, за рулём якога знаходзіўся супрацоўнік выдавецкага дому «Зубр», спыніў супрацоўнік ДАІ Я. В. Салаўёў.

Пад маркай праверкі дакумэнтаў, інспэктар пацікавіўся ў кіроўцы, што перавозіцца ў аўтамабілі. Пачуўшы фразу «асабістыя рэчы», супрацоўнік ДАІ забыўся аб сваіх прамых абавязках і прыняў рашэньне «пакалупацца» ў асабістых рэчах вадзіцеля. Убачыўшы ў багажніку газэты, стаў тэлефанаваць начальству. Пасьля гэтага папрасіў вадзіцеля праехаць у РАУС Віцебскага раёну для далейшых разьбіральніцтваў.

Ужо ў аддзяленьні, пры панятых і журналістах, міліцыянты зрабілі канфіскацыю друкаванай прадукцыі. Працэдура, якую зьдзяйсьняў А. В. Барбаровіч, праходзіла з грубымі парушэньнямі адміністрацыйна-працэсуальнага кодэксу. Перад пачаткам складаньня пратаколу кіроўцу не патлумачылі працэдуру, яго правы і абавязкі, а таксама не папярэдзілі пра тое, што супрацоўнікамі міліцыі будуць рабіцца фотаздымкі. Панятыя таксама не атрымалі ніякіх тлумачэньняў і ня мелі магчымасьці паўнавартасна назіраць за працэдурай, бо стаялі ў некалькіх мэтрах ад аўтамабіля.



Вольга Карач

Пасьля канфіскацыі накладу супрацоўнік міліцыі зрабіў поўны і падрабязны надгляд аўтамабіля (ніша запаскі, бардачок, дадатковыя сэкцыі для захоўваньня рэчаў) на наяўнасьць наркотыкаў і зброі, але пратакол надгляду не складаў. Навогул, канфіскацыю накладу міліцыя абгрунтавала тым, што супрацоўнік выдавецкага дому нібыта парушыў Закон аб СМІ, незаконна распаўсюджваючы газэту. Але наклад не распаўсюджваўся, а ўсяго толькі перавозіўся ў аўтамабілі з усімі суправаджальнымі накладнымі. Апроч таго, супрацоўнікі міліцыі ўсяляк намагаліся перашкодзіць прысутным журналістам рабіць фота-і відэаздымкі, нават пасьля прад'яўленьня дакумэнтаў і журналісцкіх пасьведчаньняў. Пасьля канфіскацыі газэтаў супрацоўнікі міліцыі зь незразумелых прычынаў не дазвалялі забраць з тэрыторыі РАУС сам аўтамабіль.

**12.03.2012** АВІР Кастрычніцкага раёну Віцебску адмовіўся выдаць даведку, якая пацьвярджае, што л**ідэрка грамадзянскай кампаніі «Наш дом» Вольга Карач** можа свабодна пакідаць межы Рэспублікі Беларусь. У АВІРы спасылаліся на нейкую «забарону, атрыманую тыдзень таму» выдаваць падобныя даведкі навогул. Вусна АВІР паведаміць таксама нічога ня мог з прычыны «непрацуючага кампутара». У сувязі з гэтым Вользе Карач давялося зьвярнуцца ў пракуратуру Віцебскай вобласьці па тлумачэньні.

**14.03.2012 Лідэр адной зь віцебскіх суполак Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Ян Дзяржаўцаў** падаў скаргі ў аблвыканкам і пракуратуру на дзеяньні чыноўніка, які парушыў Закон Рэспублікі Беларусь «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асобаў», што ўступіў у сілу 22 студзеня бягучага году.

Надоечы апазыцыянэр атрымаў ад намесьніка кіраўніка адміністрацыі Першамайскага раёну Аляксандра Красакова адмовы на свае заяўкі на правядзеньне пікетаў. Артыкул 18 згаданага вышэй закону патрабуе ад службовых асобаў адказваць на звароты грамадзян на той мове, на якой гэтыя звароты пададзеныя. Аднак спадар Красакоў праігнараваў гэтае патрабаваньне закону і адказаў на лісты, пададзеныя на беларускай мове, па-расейску.

Невядома, што стала прычынай, зь якой намесьнік кіраўніка раённай адміністрацыі, які курыруе ідэалягічную работу, пагардліва паставіўся да закону – ці то няведаньне законаў, ці то невалоданьне мовай тытульнай нацыі краіны, ці то нянавісьць да гэтай мовы. Але ёсьць надзея, што неўзабаве ён зьменіць падыход да сваёй працы: парушэньне заканадаўства аб зваротах грамадзян, згодна з артыкулам 9.13 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях, караецца



Пятро Сарапеня

штрафам у памеры ад чатырох да дваццаці базавых велічынь.

**15.03.2012** 14 сакавіка супрацоўнікі ДАІ спынілі машыну, якой кіраваў Сяргей Парсюкевіч. У машыне, апроч кіроўцы, знаходзіліся **Алена Каваленка** зь сямімесячнай дачкой і яшчэ трое віцебскіх актывістаў. На думку Сяргея Парсюкевіча, праверка ДАІ была толькі нагодай, каб усіх даставіць у Першамайскі РАУС.

У межах распачатай адміністрацыйнай справы міліцыянты Першамайскага РАУС правялі агляд ягонай машыны. **Актывіст кампаніі «Гавары праўду» Сяргей Парсюкевіч** не выключае, што затрыманьне неяк зьвязанае з падзеямі 10 сакавіка, калі Алена Каваленка разам зь дзецьмі стаяла ў пікеце за вызваленьне мужа. У гэтай акцыі ўзялі ўдзел і некалькі віцебскіх актывістаў, у тым ліку спадар Парсюкевіч.

**24.03.2012** Улады Віцебску забаранілі ладзіць пікеты 25 сакавіка. Заяўкі ў раённыя адміністрацыі на правядзеньне імпрэзаў на 94-ыя ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці БНР падаваў **сябра КХП БНФ Пятро Сарапеня**. Усяго сябрамі партыі меркавалася зладзіць тры пікеты – па адным у кожным з раёнаў гораду. Варта нагадаць, што гэта не адзіныя акцыі, прымеркаваныя да Дня Волі, забароненыя ўладамі Віцебску.

Сваю забарону на правядзеньне пікетаў кіраўніцтва раённых адміністрацыяў Віцебску патлумачыла дзьвюма прычынамі. Па-першае, заяўнік не прыклаў да заявак на акцыі дамоваў на абслугоўваньне гэтых мерапрыемстваў службамі ЖКГ, міліцыі і «хуткай дапамогі». Патрабаваньне наяўнасьці такіх дамоваў зьмяшчаецца ў рашэньні гарвыканкаму № 881 ад 10 ліпеня 2009 году. Гэтае патрабаваньне не ўдалося выканаць яшчэ нікому, бо згаданыя службы зазвычай адмаўляюцца заключаць патрэбныя дамовы. Па-другое, заяўкі, як сьцьвярджаецца ў адказах адміністрацыяў Першамайскага і Кастрычніцкага раёнаў, былі пададзеныя пазьней за вызначаны заканадаўствам тэрмін.

Гэтую прычыну Пятро Сарапеня лічыць надуманай і недарэчнай: ён зьвярнуўся па дазвол на правядзеньне пікетаў 10 сакавіка, г. зн. за 15 дзён да акцыі, што адпавядае артыкулу 5 закону «Аб масавых мерапрыемствах», які абвяшчае: «Заява падаецца ў пісьмовай форме не пазьней як за 15 дзён да меркаванай даты правядзеньня масавага мерапрыемства».

**25.03.2012** 25 сакавіка каля 11:30 раніцы на аўтавакзале Гарадка быў затрыманы **актывіст кампаніі «Гавары праўду» Леанід Аўтухоў**, які зьбіраўся ўзяць удзел у сьвяткаваньні Дня Волі ў Віцебску. Дзяжурны па РАУС падпалкоўнік Машчараў




Ігар Уладзімеравіч адмовіўся растлумачыць прычыну затрыманьня.

А 14:15 спадар Леанід патэлефанаваў у рэдакцыю сайту «Гавары праўду» і сказаў, што яго выпусьцілі з будынку РАУС на волю. Перад гэтым міліцыянты ўзялі зь яго і яго жонкі пісьмовыя тлумачэньні.

**11.04.2012** У Віцебску ўшанавалі памяць загінулых падчас тэракту ў Менску. Група моладзі ўсклала крывава-чырвоныя кветкі, перавязаныя чорнымі стужачкамі, да Вечнага агню ля манумэнту Перамогі ў Віцебску. Маладзёны меркавалі правесьці акцыю памяці ля падземнага пераходу недалёка ад знаку нулявога кілямэтру на плошчы Перамогі. Але высьветлілася, што гэтае месца знаходзіцца пад пільным наглядам праваахоўных органаў.

Кветкі да Вечнага агню ля «трох штыкоў» ўсклала родная **сястра расстралянага паводле справы аб тэракце Ўладзіслава Кавалёва Тацьцяна**. Ля Вечнага агню запалілі зьнічкі памяці. Падчас акцыі памяці супрацоўнікі міліцыі затрымалі некалькі чалавек, у тым ліку **журналіста «Віцебскага Кур'еру» Зьмітра Казакевіча**. Пасьля праверкі дакумэнтаў іх адпусьцілі.

**11.04.2012** У Віцебску скандалам завяршыўся мітынг, прысьвечаны Міжнароднаму дню вызваленьня вязьняў фашыстоўскіх канцлягераў. Па традыцыі 11 красавіка былыя вязьні фашысцкага лягера сьмерці КЛ313 СД, у народзе званага «5-ы полк», сабраліся на мітынг памяці. Былыя малалетнія вязьні зьбіраюцца разам і ўспамінаюць страшныя ваенныя гады. На мітынгу выступілі афіцыйныя асобы. Вязьням слова ніхто ня даў. Мала таго, улады падзялілі вязьняў на «правільных» і «няправільных».

«Няправільнымі» выявіліся вязьні, якім аказвае дапамогу і падтрымку грамадзянская кампанія «Наш дом». Нават вянок актывісты змаглі ўскласьці толькі з трэцяй спробы, у літаральным сэнсе пераадольваючы супраціў спэцслужбаў. Склалася ўражаньне, што КДБ пераблытала мітынг памяці з несанкцыянаваным мітынгам пратэсту. Супрацоўнікі КДБ перасьледавалі актывістаў і «няправільных» вязьняў нават пасьля мітынгу. Толькі калі ўсе разышліся, доблесныя агенты пакінулі свой баявы пост.

Дадамо, што на «правільных» і «няправільных» падзялілі ня толькі былых вязьняў, але і журналістаў. Так, незалежным журналістам забаранілі рабіць на мітынгу фотаздымкі. Хаця прадстаўнікі дзяржаўных выданьняў здымалі бесьперашкодна. Супрацоўнік у цывільным папярэдзіў **журналіста «Віцебскага Кур'еру» Зьмітра Казакевіча**, што, як толькі ён пачне фатаграфаваць, яго затрымаюць. На пытань-


Любоў Кавалёва

не карэспандэнта, на падставе якога права яго затрымаюць, чалавек са спружынкай у вушох адказаў: «Вы неафіцыйны журналіст…»

**19.04.2012 Сябра КХП БНФ Ян Дзяржаўцаў** прапанаваў адміністрацыям трох раёнаў Віцебску далучыцца да арганізацыі акцыяў. Аднак чыноўнікі запрашэньне праігнаравалі, і акцыі забаранілі – спасладіся на тое, што актывіст падаў заяўкі са спазьненьнем і не заключыў дамоваў з хуткай дапамогай, ЖКГ і міліцыяй.

Ян Дзяржаўцаў прапанаваў уладам далучыцца да пікетаў ад безвыходнасьці. За апошнія паўтара гады раённыя адміністрацыі не дазволілі ніводнага пікету, што хацелі зладзіць актывісты. Прычына – адсутнасьць тых самых дамоваў. А заключыць іх амаль немагчыма: калі адна служба пагаджаецца, дык іншая знаходзіць прычыны, каб адмовіцца. То ў хуткай дапамогі не хапае машын, то ўсе супрацоўнікі міліцыі занятыя на іншым мерапрыемстве.

**26.04.2012** Супрацоўнікі міліцыі спрабавалі перашкодзіць сустрэчы расейскіх журналістаў з **маці расстралянага** Уладзіслава Кавалёва. Сустрэча была запланаваная ў яе кватэры, але супрацоўнікі міліцыі пільнавалі журналістаў каля пад'езду. **Любові Кавалёвай** прапанавалі даць відэаінтэрвію для праграмы «Чалавек і закон».

Але як толькі здымачная група выйшла з таксоўкі, ім перагарадзілі шлях супрацоўнік міліцыі і АМАПавец. Толькі калі ў сытуацыю умяшалася сп. Кавалёва, журналістаў адпусцілі і вярнулі ім дакументы.

**26.04.2012** На 26-я ўгодкі аварыі на Чарнобыльскай АЭС Віцебская грамадзкасьць — ліквідатары аварыі і дэмакратычныя актывісты — сабраліся каля Крыжа Эўфрасіньні Полацкай на Ўсьпенскай горцы. Пасьля кароткіх прамоваў і ўспамінаў удзельнікаў ліквідацыі наступстваў аварыі ў Чарнобылі прысутныя спусьціліся на бераг Заходняй Дзьвіны і пусьцілі па вадзе жалобны «Вянок памяці». Гэта ўжо традыцыйная штогадовая жалобная акцыя да ўгодкаў чарнобыльскай трагедыі, якая праводзіцца ў Віцебску.

Тутэйшыя міліцыянты лічаць яе апазыцыйнай і пільна сочаць за ўдзельнікамі. Увечары 26 красавіка супрацоўнікі міліцыі і АМАПу дзяжурылі на берагах Дзьвіны і Віцьбы, а ў бліжэйшых дварох стаялі міліцэйскія машыны. Аднак абышлося без затрыманьняў, хаця некалькі дзён таму актывісты зьвярнуліся да гарадзкіх уладаў з адкрытым лістом пра тое, што жалобная акцыя адбудзецца ў любым выпадку.


Аляксандар Кузьняцоў

**01.05.2012 Кіраўніка віцебскай філіі «Моладзі БНФ» Аляксандра Кузьняцова** гадзіну пратрымалі ў пастарунку. Паводле актывіста, 1 траўня яго затрымалі на тралейбусным прыпынку, калі ён зьбіраўся на вакзал. Пры выхадзі з дома, да яго падышлі супрацоўнікі міліцыі, затрымалі. Склалі адміністрацыйны пратакол пра тое, што ён нібыта перайшоў вуліцу ў неналежным месцы, а потым адпусьцілі. У выніку актывіст спазьніўся на цягнік у Менск. Спадар Кузьняцоў зьбіраўся ўзяць удзел ва ўстаноўчым сходзе ініцыятывы былога кандыдата ў прэзыдэнты Дзьмітрыя Вуса па зьмяненьні выбарчага заканадаўства.

**03.05.2012 Жонка палітвязьня Сяргея Каваленкі Алена** з маленькай дачкой Вікай і сынам Валянцінам зладзілі акцыю на пляцоўцы ля пірамiды «Марка-сіці» побач з аўтобусным прыпынкам «Плошча Свабоды». Алена з сынам разгарнулі плякат, на якім вялікімі чырвонымі літарамі было напісана «Дзецям патрэбен бацька!». На плякаце таксама былі разьмешчаныя фотаздымкі Сяргея Каваленкі зь дзецьмі, а насупраць – дзетак бяз бацькі. Пад фота надпіс: «Сыну, 7 год, патрэбна бацькоўскае выхаваньне! Дачцэ, 10 месяцаў, неабходна бацькоўская любоў».

У гэты час (каля 16-й) на прыпынку грамадзкага транспарту было шмат людзей. І, як ні дзіўна, аніводнага супрацоўніка міліцыі. Людзі назіралі з зацікаўленасьцю. Некаторыя падыходзілі да Алены паразмаўляць. На прыпынку нават узьнікла спрэчка паміж пэнсіянэркамі наконт таго, ці справядлівыя ў Беларусі суды. Некалькі маладзёнаў здымалі акцыю на мабільныя тэлефоны. Пікет доўжыўся каля 20 хвілін, пасьля чаго Алена зь дзецьмі сышла дадому.

**08.05.2012** За прагляд апазыцыйнага сайту **кіраўнік інтэрнэт-праекту «Электронны Віцебск» Дзяніс Кудрын** атрымаў удар па нырках і штраф. 8 траўня раніцай кіраўніка інтэрнэт-праекту «Электронны Віцебск» Дзяніса Кудрына, які завітаў ў інтэрнэт-клюб на чыгуначным вакзале Менску, выкінулі адтуль, бо хлопец чытаў навіны з апазыцыйнага сайту «Хартыя ‘97». Жанчына, якая прымала ў яго аплату за карыстаньне інтэрнэтам і запісвала пашпартныя дадзеныя, проста падышла да Дзяніса і сказала: Закрыйце, калі ласка, сайт! Ён, натуральна, пацікавіўся, чаму павінен гэта рабіць?.. Адказу чамусьці не атрымаў. Але літаральна за лічаныя мінуты яна прывяла супрацоўнікаў міліцыі, якія з прымяненьнем сілы выцягнулі яго з інтэрнэт-клюбу, і склалі адміністрацыйны пратакол, у якім значылася, што ён лаяўся матам і абражаў супрацоўніка міліцыі. За гэтыя «дзеянні» судом быў прысуджаны штраф у памеры 500 тысячаў рублёў.

**09.05.2012 Маці віцебскай актывісткі «Эўрапейскай Беларусі» Алены Семенчуковай** Натальлі тэлефанавалі некалькі разоў, у тым ліку намесьнік начальніка


Дзяніс Кудрын

ўпраўленьня аховы правапарадку і прафіляктыкі міліцыі грамадзкай бясьпекі УУС аблвыканкаму падпалкоўнік Андрэй Іваноў. Ён папярэдзіў, што калі яна сама не наведае інспэкцыю па справах непаўнагадовых, дык міліцыя заявіцца дадому. Маўляў, калі гэтак ужо патрэбная павестка – выпішам і павестку. У выніку Натальля Семенчукова пагадзілася на гутарку, якая адбылася ў інспэкцыі па справах непаўнагадовых Кастрычніцкага раёну Віцебску (непаўнагадовым зьяўляецца яе 17-гадовы сын Сяргей, Алене – 21 год). Размаўляў з маці актывісткі інспэктар Вячаслаў Пяткун.

Мяркуючы па аповедзе **Натальлі Семенчуковай**, больш за ўсё інспэктара цікавіла, чаму яе дачка Алена і сын Сяргей знаходзіліся днём 4 траўня каля галоўнага корпусу мэдунівэрсытэту – акурат у той самы час, калі на суседнім будынку быў вывешаны бел-чырвона-белы сьцяг. Маці адказала, што яны цалкам маглі знаходзіцца ў тым месцы, бо менавіта ў гэты час павінны былі рэгістравацца на ЦТ.

Інспэктар спытаў, ці ведае маці штосьці пра дзейнасьць дачкі і пра тое, што Алена прыцягвалася да адміністрацыйнай адказнасьці за арганізацыю несанкцыянаванага пікету. Паказваў таксама фотаздымак **Сяргея Каваленкі** і пытаўся, ці ведае маці, што яе дачка займаецца «вось гэтым». Спытаў, дзе цяпер знаходзяцца дзеці і калі будуць у Віцебску. Пацікавіўся таксама, куды будзе паступаць сын і папрасіў правесьці зь ім гутарку, «таму што ўсё гэта можа сапсаваць ягонае далейшае жыцьцё».

Натальля Семенчукова паабяцала пагутарыць зь дзецьмі. У інспэкцыі яна ніякіх папераў не падпісвала. Літаральна на працягу гадзіны пасьля гутаркі 17-гадоваму Сяргею Семенчукову, які цяпер знаходзіцца ў Гомельскай вобласьці, патэлефанавалі з інспэкцыі па справах непаўнагадовых зь Віцебску і папрасілі, нічога не тлумачачы, зайсьці на гутарку, калі той будзе ў маці.

**09.05.2012 Леанід Аўтухоў**, **актывіст грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду»**, зьвярнуўся да кіраўніцтва Гарадоцкага РАУС, КУВП «Гарадоцкае ПК і ЦС», УА «Гарадоцкая ЦРБ» наконт атрыманьня тыповых дамоваў па абслугоўваньні масавых мерапрыемстваў. Таксама ён просіць пра калькуляцыю адпаведных паслугаў ў Гарадку для правядзеньня шэсьця і мітынгу з удзелам да 50 грамадзян на працягу адной гадзіны. Актывіст хоча даведацца, колькі будуць каштаваць паслугі гэтых арганізацыяў па забесьпячэньні правапарадку, санітарнай чысьціні і мэдычнага абслугоўваньня на вул. Сабалеўскай і ў Вараб’ёвых гарах, дзе мусіць адбыцца шэсьце і мітынг.

Спадар Аўтухоў мае намер рэалізаваць сваё канстытуцыйнае права на пра-

вядзеньне масавых мерапрыемстваў у адпаведнасьці зь дзеючым заканадаўствам. Трэба нагадаць, што дагэтуль Гарадоцкі райвыканкам ніколі не даваў дазволу на правядзеньне масавых мерапрыемстваў – сходаў і пікетаваньняў у Гарадку. Апошнюю адмову актывіст атрымаў, калі падаў заяўку на правядзеньне пікету ў сувязі з гадавінай чарнобыльскай трагедыі. Грамадзтву цікава даведацца, колькі каштуе ў сацыяльнай дзяржаве рэалізацыя канстытуцыйнага права на масавыя мерапрыемствы ў лясным куточку Гарадка.

**07.06.2012 Сябра аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» Таццяна Севярынец** накіравала скаргу ў Камітэт па правох чалавека ААН. У ліпені мінулага году яна была прызнаная вінаватай у арганізацыі ў Віцебску несанкцыянаванага шэсьця падчас акцыяў маўклівага пратэсту і аштрафаваная. Абскарджаньне ў беларускіх судох, уключаючы Вярхоўны суд, нічога не дало – вырак быў пакінуты ў моцы.

Т. Севярынец затрымалі за арганізацыю несанкцыянаванага шэсьця 3 ліпеня 2011 году, якое адбылося ад плошчы Перамогі да Крыжа Эўфрасіньні Полацкай, дзе адбылася малітва. Яна цэлую ноч адседзела ў пастарунку, а раніцай ёй прысудзілі 20 базавых велічынь за арганізацыю несанкцыянаванага шэсьця і выкарыстаньне бел-чырвона-белай сымболікі, да якой залічылі ейны парасон.

**08.06.2012** Былы **прэтэндэнт на пасаду прэзыдэнта Беларусі Сяргей Рыжоў** агучыў ад імя сваёй **партыі «Белая Русь»** заяву з заклікам падтрымаць найноўшую ініцыятыву. Партыя ініцыюе судовы пазоў супраць грамадзяніна Беларусі – Лукашэнкі паводле абвінавачаньня ва ўзурпацыі ўлады. Сяргей Рыжоў не пасьпеў патлумачыць, пра якога грамадзяніна ідзе размова, але праслухоўваньне і зрыў сувязі дазваляе меркаваць, што гэта цяперашні кіраўнік дзяржавы.

**17.06.2012 Сябра КХП-БНФ Ян Дзяржаўцаў** накіраваў ў Віцебскі гарвыканкам скаргу на неналежную работу са зваротамі грамадзян кіраўнікоў адміністрацыяў Кастрычніцкага, Чыгуначнага і Першамайскага раёнаў Віцебску. Палітык лічыць, што згаданыя чыноўнікі парушылі парадак разгляду ягоных зваротаў і таму ў сваёй скарзе просіць прыцягнуць іх да адказнасьці ў адпаведнасьці з заканадаўствам.

6 красавіка ён зьвярнуўся да кіраўнікоў адміністрацыяў раёнаў з прапановай узяць удзел у масавым мерапрыемстве – пікетаваньні. Аднак у парушэньне закону «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб» на яго звароты не далі адпаведных адказаў.

**29.06.2012** Пасьля таго, як на запатрабаваньне ўладаў **аднаго з заснавальнікаў Беларускай Кансэрватыўнай партыі «Белая Русь» Аляксандра Кірылава** выклікалі ў Віцебскі абласны клінічны цэнтар псыхіятрыі і наркалёгіі для «вырашэньня пытаньня аб аказаньні спэцыялізаванай мэдычнай дапамогі», ён зьвярнуўся па тлумачэньні ў міністэрства аховы здароўя. Бо ў ніякай дапамозе з боку згаданай установы аховы здароўя ён ня мае патрэбы, ніколі ня меў псыхічных захворваньняў і ніколі не стаяў на ўліку ў псыхіятраў. Тым больш, няма ніякай пастановы суду аб яго прымусовым лячэньні. Надоечы палітык атрымаў адказ на свой зварот у мінздраў, які вельмі зьдзівіў яго.




Зь ліста за подпісам першага намесьніка міністра аховы здароўя Дзьмітрыя Піневіча вынікае, што Аляксандар Кірылаў 21 ліпеня 2011 году «самастойна зьвярнуўся на прыём ва УАЗ "Віцебскі абласны клінічны цэнтар псыхіятрыі і наркалёгіі"... Па выніках мэдычнага агляду і псыхалягічнага дасьледаваньня быў пастаўлены дыягназ "псыханэўратычны разлад асобы"». У ліпені 2011 году палітык, сапраўды, зьвяртаўся ў лякарню – з мэтай атрыманьня стандартнай даведкі пра стан здароўя, неабходнай для ўладкаваньня на працу. І тады ніякіх захворваньняў псыхіятры ў яго не выявілі. Пра гэта яму выдалі адпаведную даведку. Адкуль цяпер, без ніякіх дадатковых мэдычных аглядаў, зьявіўся дыягназ пра разлад асобы – можна толькі здагадвацца. Таксама як можна толькі здагадвацца, ці намесьнік міністра аховы здароўя «паставіў» дыягназ апазыцыянэру зь нейкай памылкі, або гэта прыкмета адраджэньня ў Беларусі карнай псыхіятрыі, якая, як вядома, шырока практыкавалася за часамі Савецкага Саюзу.

**29.06.2012** Міліцыя затрымала **Сяргея** і **Алену Семенчуковых**. Яны раздавалі ўлёткі мінакам на цэнтральных вуліцах Віцебску. Затрымлівалі актывістаў міліцыянты Ражкоў і Зайцаў. На затрыманых былі апранутыя кашулькі з надпісам «Свабоду Сяргею Каваленку!»

Алену Семянчукову павезьлі ў суд Кастрычніцкага раёну Віцебску. Дзяўчыне пагражае штраф альбо адміністрацыйны арышт.

## Маніторынг судовых працэсаў


М. Дымаў, В. Грыгор'еў, А. Фадзееў, В. Коласаў

**04.07.2011** Чатырох жыхароў Віцебску, затрыманых напярэдадні за тое, што фатаграфавалі акцыю маўклівага пратэсту, судзьдзя Кісьмярошкіна аштрафавала на 70 тысяч кожнага. **Максім Дымаў**, **Віталь Грыгор'еў**, **Аляксандар Фадзееў** і **Васіль Коласаў** былі затрыманыя 3 ліпеня праз дарогу ад плошчы Перамогі, на якой праходзіла акцыя «Рэвалюцыя праз сацыяльную сетку». Хлопцы казалі, што на акцыі не былі — толькі фатаграфавалі яе здалёк.

У Першамайскім РАУС на кожнага склалі пратакол за лаянку матам у грамадзкім месцы, ноч хлопцы правялі ў пастарунку. Раніцай 4 ліпеня судзьдзя Першамайскага райсуду Валянціна Кісьмярошкіна прызнала ўсіх чатырох вінаватымі ў дробным хуліганстве.

**06.07.2011** Суд Кастрычніцкага раёну Віцебску прызнаў **Алега Сургана** вінаватым у дробным хуліганстве. Спадара Сургана затрымалі 3 ліпеня на падыходзе да плошчы Перамогі, дзе праходзіла мінулая акцыя маўклівага пратэсту. Судзьдзя Іна Грабоўская праводзіла працэс у тэрміновым парадку: Алегу Сургану нават не далі часу, каб асабіста замовіць адваката. У суд яго прывезьлі на міліцэйскай машыне, забраўшы з дому. Міліцыянт, які суправаджаў актывіста, патлумачыў, што дзейнічае на загад начальніка міліцыі грамадзкай бясьпекі Кастрычніцкага РАУС Аляксандра Каліноўскага.

Да суду нават не былі падрыхтаваныя матэрыялы справы, але працэс скончыўся за лічаныя хвіліны, кажа Алег Сурган. Як запісана ў міліцэйскім пратаколе, зачытаным на судзе, на нумар «102» было ананімнае тэлефанаваньне, што чалавек, падобны да спадара Сургана, лаецца матам, ідучы да плошчы Перамогі, ды яшчэ лузгае семкі. Абвергнуць словы «ананіма» Алегу Сургану не ўдалося.

**08.07.2011** Судзьдзя Кастрычніцкага райсуду Іна Грабоўская 15 жыхароў Віцебску, затрыманых 6 ліпеня, пакарала штрафамі за ўдзел у несанкцыянаваных пікетах і шэсьці. Сёстры **Алена** і **Тацьцяна Пашэніны**, **Валянціна Ляурда**, **Алена Латушкіна** і **Ўльляна Хлашчанкова** атрымалі штрафы памерам 35 тысяч. **Аляксандар Бажкоў**, **Вадзім Мацьвееў**, **Кірыл Латушкін**, **Максім Станкевіч**, **Максім Казіміранка**, **Усевалад Жураўлёў**, **Зьміцер Пчолкін**, **Яўген Селязьнёў**, **Дзяніс Уладзіміранка** і **Кастусь Халмачоў** мусяць сплаціць у два разы больш — па 70 тысяч.

Такім чынам, дзяўчаты атрымалі па адной базавай велічыні, а хлопцы — па дзьве. Ніякага іншага абгрунтаваньня памеру штрафу, апрача як па гендэрнай прыкмеце, прысутныя на працэсе вызначыць не змаглі: сьведкі-міліцыянты


Алег Сурган

цьвердзілі, што ўсе без выключэньня затрыманыя бралі ўдзел у несанкцыянаваным пікеце і несанкцыянаваным шэсьці.

Сярод іншых штраф за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі атрымаў **актывіст аргкамітэту дзеля стварэньня партыі БХД Зьміцер Пчолкін**. Яго затрымалі каля крыжа на Ўсьпенскай горцы, дзе а 8 вечара штодня праходзіць малітва за палітвязьняў.

Судовая пастанова, відавочна, была гатовая загадзя: судзьдзя нават не выходзіла з залі, перад тым як яе агучыць. Некаторыя з тых, хто атрымаў штрафы, рыхтуюцца абскардзіць рашэньне судзьдзі Іны Грабоўскай у абласным судзе.

**08.07.2011 Актывіст «Маладой Беларусі» Алесь Галавань** рыхтуецца абскардзіць рашэньне судзьдзі Першамайскага райсуду Валянціны Кісьмярошкінай. Яна прысудзіла хлопцу арышт на 6 сутак нібыта за дробнае хуліганства — лаянку матам.

Спадара Галаваня затрымалі 6 ліпеня, яшчэ да пачатку акцыі маўклівага пратэсту. Ён быў аўтарам шэрагу допісаў на віцебскай старонцы «Рэвалюцыя праз сацыяльную сетку».

**10.07.2011** Напачатку фэстывалю «Славянскі Базар» адпраўляць «на суткі» вядомага віцебскага актывіста **Барыса Хамайду**. Ня сталася выключэньнем і сёлетняя фэстывальная імпрэза. Напачатку сьвяточных мерапрыемстваў Барыса Хамайду арыштавалі. Апазыцыянэру далі трое сутак за «арганізацыю несанкцыянаванага пікету».

**11.07.2011** Суд Кастрычніцкага раёну Віцебску прызнаў **кіраўніцу абласной арганізацыі БХД Тацьцяну Севярынец** вінаватай ў арганізацыі несанкцыянаванага шэсьця 3 ліпеня, калі больш за 100 віцьбічаў, пляскаючы ў ладкі, прайшлі па цэнтральных вуліцах горада. Шмат хто зь іх узяў удзел у малітве за Беларусь каля Ўсьпенскага сабору.

Судзьдзя Яўген Буруноў прысудзіў Тацьцяне Севярынец як арганізатарцы «несанкцыянаванага шэсьця» штраф у памеры 20 базавых велічынь (700 000 беларускіх рублёў). Прадстаўніком Тацьцяны Яўгенаўны ў адміністрацыйным працэсе выступіў ейны сын **Павал Севярынец**.

У судзе прагледзелі відэазапісы, зробленыя апэратыўнікамі на плошчы Перамогі, падчас руху людзей па вуліцы Леніна і ўласна падчас малітвы каля Эўфрасіньнеўскага крыжа на Ўсьпенскай горцы. Павал Севярынец наконт гэтых відэазапісаў сказаў, што на іх бачнае толькі парушэньне закону з боку міліцыянтаў, якія іх здымалі: на відэа чутна нецэнзурная лаянка супрацоўнікаў, а пляскаць у ладкі і, тым больш, маліцца, законам пакуль не забаронена.



Аштрафаваныя ўдзельнікі "маўклівай акцыі" 6.7.2011

**22.08.2011** Судзьдзя Віцебскага абласнога суду Смалякова І. В. пакінула бязь зьменаў пастанову суду Кастрычніцкага раёну Віцебску ў дачыненьні да **Тацьцяны Севярынец**, якую за арганізацыю нібыта масавага шэсьця 3 ліпеня аштрафавалі на 700 000 рублёў (20 базавых велічынь). «Рух групы людзей на чале зь Севярынец насіў арганізаваны характар», бо выкарыстоўвалася «атрыбутыка белага і чырвонага колераў», дык што гэты рух «абгрунтавана прызнаны судом масавым мерапрыемствам – вулічным шэсьцем», – абвяшчаецца ў пастанове абласнога суду.

**Абласная каардынатарка аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя»** Тацьцяна Севярынец 11 ліпеня, згодна з рашэньнем судзьдзі суду Кастрычніцкага раёну Віцебску Бурунова Я. І., была пакараная штрафам за тое, што ў дзень афіцыйнага «Дня незалежнасьці» ішла разам зь іншымі людзьмі па вуліцы Леніна. Яе абвінавацілі паводле часткі 2 артыкулу 23.34 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях (парушэньне парадку арганізацыі або правядзеньня масавага мерапрыемства ці пікетаваньня).

Не згадзіўшыся з рашэньнем раённага суду, Тацьцяна Севярынец зьвярнулася з касацыйнай скаргай у Віцебскі абласны суд. У сваёй скарзе актывістка спасылалася на правы і свабоды, гарантаваныя ёй Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і падпісаным краінай Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правох. Згадвалася ў скарзе таксама і Венская канвэнцыя пра права міжнародных дамоваў. Аднак абласны суд застаўся глухі да аргумэнтаў спадарыні Севярынец. Факт выкарыстоўваньня актывісткай «атрыбутыкі белага і чырвонага колераў» у якасьці доказу рацыі судзьдзяў стаўся для віцебскай Фэміды больш важкім за ўсе заканадаўчыя акты Беларусі і нормы міжнароднага права.

**19.09.2011** У Кастрычніцкім райсудзе Віцебску судзьдзя Эдгар Марцірасян разглядзеў справу **Аляксандра Бажкова**, **удзельніка «маўклівых» акцыяў**, якія штосерады ладзіліся ў ліпені. Актывіста абвінавацілі ў зьдзяйсьненьні правапарушэньня паводле артыкулу 23.34 КаАП (парушэньне ўстаноўленага парадку арганізацыі або правядзеньня сходу, мітынгу, вулічнага шэсьця, дэманстрацыі, іншага масавага мерапрыемства або пікетаваньня).

Гэта ўжо ня першы раз, калі Аляксандар Бажкоў прыцягваецца да адміністрацыйнай адказнасьці. Раней, за ўдзел у «Маўклівай рэвалюцыі» 6 ліпеня, яго аштрафавалі на 2 базавыя велічыні – 70 тыс. рублёў.

**12.10.2011** У судзе Віцебскага раёну распачаўся разгляд адміністрацыйнай справы, заведзенай супраць **Валера Стаўрова**. Віцебскі інжынэр абвінавачваецца паводле

артыкулу 23.4 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях – ён нібыта не падпарадкаваўся законным патрабаваньням супрацоўнікаў міліцыі. Менавіта міліцыянты і падалі на Валера ў суд. Да таго яны некалькі разоў наведваліся да яго дадому, патрабуючы тэрмінова прайсьці дактыляскапію.

Судзьдзя Натальля Трацьцякова, якая вядзе справу, пакуль устрымалася ад вынясеньня пастановы. На 13 кастрычніка яна прызначыла яшчэ адно судовае паседжаньне. На гэтае паседжаньне мусяць прыйсьці супрацоўнікі РАУС, каб даць свае тлумачэньні.

**13.10.2011** Галава адміністрацыі Чыгуначнага раёну Віцебску Юры Маскалёў, прадстаўнікі УКПП «Віцебская гарадзкая ЖКГ», Упраўленьня ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкаму, Віцебскай гарадзкой станцыі хуткай і неадкладнай мэдычнай дапамогі – гэтак паважна выглядае сьпіс тых, хто сёньня даваў свае тлумачэньні ў Чыгуначным райсудзе. І гэта – ня лічачы заяўнікаў, па чыёй скарзе адбылося судовае паседжаньне: актывістаў дэмакратычнага руху **Яна Дзяржаўцава**, **Хрыстафора Жаляпава**, **Аляксея Гаўруцікава**.

Нагодай для таго, каб дамагацца справядлівасьці ў судзе, стаўся адказ, які актывісты атрымалі з Адміністрацыі Чыгуначнага раёну. Група грамадзян зьвярталася ў раённую адміністрацыю з заяўкай аб правядзеньні мітынгу 25 жніўня. Мэтай меркаванай імпрэзы было сьвяткаваньне 20-х угодкаў наданьня акту незалежнасьці Беларусі канстытуцыйнага характару і выказваньне салідарнасьці з палітвязьнямі, асуджанымі за ўдзел у мірнай акцыі 19 сьнежня 2010 г. Адміністрацыя, натуральна, – яна гэта робіць заўсёды цягам апошніх гадоў – правядзеньне масавага мерапрыемства забараніла.

Падчас судовага разьбіральніцтва выступілі і прадстаўнікі юрыдычных асобаў, зь якімі так і не ўдалося заключыць дамоваў для правядзеньня мітынгу. Так, прадстаўнік Упраўленьня ўнутраных спраў заявіў, што ўпраўленьне не зьяўляецца камэрцыйнай арганізацыяй і не надае платных паслугаў. Забясьпечваць парадак яны абавязаныя без якіх-кольвек дамоваў, што і робяць. Таму і напісалі ў адказ на просьбу аб дамове зь імі, што лічаць заключэньне гэткай дамовы «немэтазгоднай» – парадак і без дадатковай дамовы будзе забясьпечаны.

14.10.2011 Суд адмовіўся скасаваць рашэньне галавы Адміністрацыі Чыгуначнага раёну, які забараніў актывістам правядзеньне мітынгу. У сваім рашэньні чыноўнікі адміністрацыі спасылаліся на тое, што заяўнікі пікету не заключылі дамовы на абслугоўваньне мітынгу зь міліцыянтамі, мэдыкамі і камунальнікамі, як таго патрабуе рашэньне Віцебскага гарвыканкаму № 881 ад 10 ліпеня 2009 г.

Таксама суд не задаволіў просьбу актывістаў абавязаць згаданыя службы заключыць неабходныя для правядзеньня мітынгу дамовы. У гэтай частцы суд пакінуў скаргу заяўнікаў навогул без разгляду. Такім чынам, згодна з рашэньнем судзьдзі Алены Грабянчук, у Віцебску і надалей будзе практычна немагчыма легальна правесьці якое-небудзь масавае мерапрыемства: дастаткова, каб дворнікі або лекары зь нейкіх прычынаў не захацелі заключыць з арганізатарамі акцыі дамоваў (гэтак звычайна і адбываецца), каб правядзеньне акцыі забаранілі.

**14.10.2011 Праваслаўны вернік** па прозьвішчу **Пічулін**, жыхар пасёлку Копці,


Алена Шандзюкова

зьявіўся перад судом Віцебскага раёну. Яго абвінавачваюць у тым, што ён не падпарадкаваўся «законным» патрабаваньням супрацоўнікаў міліцыі. Міліцыянты вымагалі ад верніка, каб ён здаў адбіткі пальцаў. Але той адмовіўся зрабіць гэта, матывуючы адмову сваімі рэлігійнымі перакананьнямі. Паводле слоў верніка, ён лепш будзе плаціць штрафы (сума якіх досыць вялікая – ад 20-ці да 50-ці базавых велічынь), але ня зробіць нічога, што супярэчыць ягонай веры.

**16.10.2011** Судзьдзя суду Віцебскага раёну Натальля Трацьцякова ня стала караць інжынэра **Валера Стаўрова**, якому пагражаў штраф да 50-ці базавых велічынь. Міліцыянты склалі ў адносінах да яго пратакол, быццам бы ён не падпарадкаваўся іх законным патрабаваньням, і перадалі справу ў суд. Ад Валера Стаўрова вымагалі здаць адбіткі пальцаў, але той адмаўляўся рабіць гэта, пакуль міліцыянты не дакажуць, што іхныя патрабаваньні абапіраюцца на закон.

**17.10.2011** У судзе Першамайскага раёну г. Віцебску распачаўся працэс над **сябрамі мясцовай недзяржаўнай прафсаюзнай арганізацыі РЭП Сьвятланай Азолінай** і **Аленай Шандзюковай**. Грамадзянскі працэс распачаты паводле пазову ААТ «Віцебскмясамалпрам» аб кампэнсацыі шкоды, прычыненай работнікамі наймальніку пры выкананьні працоўных абавязкаў.

Раней, у чэрвені бягучага году, паводле пазову ААТ «Віцебскмясамалпрам» суд Чыгуначнага раёну г. Віцебску пастанавіў спагнаць з кладаўшчыцы складу № 2 С. Азолінай на карысьць гэтага прадпрыемства каля 9,5 мільёнаў рублёў. Касацыйная інстанцыя зьнізіла суму, якая сыскваецца, да 7,35 мільёнаў рублёў.

Цяпер староны чакаюць, чый бок зойме суд, пад старшынствам судзьдзі Першамайскага суду г. Віцебску Сьвятланы Абрамавай.

**26.10.2011** Як высьветлілася цягам судовага паседжаньня па пазове кіраўніцтва ААТ «Віцебскмясамалпрам» аб кампэнсацыі нястачы да сябры прафсаюзу РЭП, былой кладаўшчыцы заводу, матэрыяльна адказныя асобы на прадпрыемстве – толькі кладаўшчыкі, кіроўцы ды прадаўцы. З дырэктарам жа дамова аб матэрыяльнай адказнасьці заключаная не была.

Цягам паседжаньня суду прадстаўнік наймальніка паспрабаваў адказаць на гэтыя пытаньні вусна. Аднак, як сказаў **Валер Місьнікаў**, гэта была асабістая інтэрпрэтацыя, неабгрунтаваная ніякімі фактамі і нормамі права. Прафсаюзны юрыст лічыць, што, калі віна работніка не даказаная, дык у гэткім выпадку неабходна прымяняць закон аб бухуліку і справаздачнасьці, згодна зь якім нястача сьпісваецца за кошт прыбытку прадпрыемства.

**16.11.2011** Вярхоўны Суд не задаволіў скаргу а**ктывіста Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Сяргея Каваленкі** на пастанову суду Кастрычніцкага раёну Віцебску. Пакараньне ў выглядзе трох гадоў абмежаваньня волі без накіраваньня ў папраўчую ўстанову, вынесенае актывісту за вывешваньне 7 студзеня 2010 г. на вяршаліне каляднай ёлкі бел-чырвона-белага сьцягу, прызнана справядлівым.

Адказ на скаргу, дасланы Сяргею Каваленку, падпісаў намесьнік старшыні Вярхоўнага Суду Валер Калінковіч. У ім гаворыцца: «Улічваючы спосаб, час, месца ўчыненьня вамі згаданых дзеяньняў, якія суправаджаліся зьнішчэньнем і пашкоджаньнем элемэнтаў, што складаюць Навагоднюю ёлку, разьмешчаных на ёлцы аздабленьняў, а таксама спрычыніліся да зрыву дзіцячай канцэртнай імпрэзы, суд прыйшоў да абгрунтаванай высновы, што такія дзеяньні зьяўляюцца крымінальна каральным хуліганствам».

У сваёй скарзе Сяргей Каваленка спрабаваў давесьці, што, вывешваючы сьцяг, ён дэманстраваў свае палітычныя перакананьні, і што прыцягненьне яго да крымінальнай адказнасьці зьяўляецца парушэньнем ягоных канстытуцыйных правоў. Аднак Вярхоўны Суд палічыў довады актывіста непераканаўчымі.

**22.11.2011** На зварот **Леаніда Сьвеціка** ў Канстытуцыйны суд, гэтая дзяржустанова, па сутнасьці, ухіліўся ад адказу на пастаўленыя перад ім пытаньні.

Сп. Сьвецік прасіў судзьдзяў Канстытуцыйнага суду даць заключэньне наконт адпаведнасьці пастановы Саўміну ад 10 чэрвеня 2011 году № 753 «Аб некаторых пытаньнях рэгуляваньня вывазу аўтамабільнага паліва з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь» Канстытуцыі і міжнародным прававым актам, ратыфікаваным Беларусьсю, законам, дэкрэтам і ўказам.

Канстытуцыйны суд ня стаў вывучаць аргумэнты праваабаронцы, што да неканстытуцыйнасьці згаданай пастановы. У лісьце, атрыманым Леанідам Сьвецікам, гаворыцца, што канстытуцыйнасьць пастановы Саўміну можа быць правераная толькі ў выпадку звароту ў суд упаўнаважаных ініцыятараў – прыватная асоба такім ініцыятарам не зьяўляецца.

Пастановай № 1554 «Аб унясеньні зьмяненьняў у пастанову Савету міністраў Рэспублікі Беларусь ад 10 чэрвеня 2011 г. № 753» Савет міністраў увёў дадатковыя абмежаваньні на выезд грамадзян за мяжу.

**24.11.2011** Судзьдзя Сьвятлана Абрамава Першамайскага суду Віцебску прыняла рашэньне пакінуць бяз руху пазоўную заяву прафсаюзу РЭП пра матэрыяльнае пакрыцьцё маральнай шкоды, прычыненай былым наймальнікам былым работніцам ААТ «Віцебскмясамалпрам», дыскрэдытацыі дзелавой рэпутацыі і прыніжэньня гонару і годнасьці.

**25.11.2011 Сяргей Каваленка** паўстаў перад судом. У Першамайскім судзе Віцебску С. Каваленка заявіў хадайніцтва аб прыцягненьні да працэсу адваката. Суд задаволіў хадайніцтва і перанёс разьбіральніцтва па справе на 5 сьнежня. Самога Каваленку да наступнага судовага паседжаньня адпусьцілі дахаты. Яго судзяць за брыдкаслоўе.

**28.11.2011** Паводле судовага рашэньня, тром віцебскім актывістам, якім на праця-


Я. Дзяржаўцаў, Х. Жаляпаў, А. Гаўруцікаў

гу годзе не дазволілі правесьці ніводнага пікету, адміністрацыя Чыгуначнага раёну адмаўляла на законных падставах, што і пацьвердзіў 14 кастрычніка Чыгуначны райсуд. Абскардзіць гэта не ўдалося. Але судовая калегія падкрэсьліла, што новы закон пра масавыя мерапрыемствы можа паспрыяць у вырашэньні праблем з аховай пікетаў і абслугоўваньнем міліцыяй і ЖКГ.

**Кіраўнік абласной арганізацыі руху «За свабоду» Хрыстафор Жаляпаў**, давераная асоба Мікалая Статкевіча ў часе мінулай прэзыдэнцкай кампаніі **Аляксей Гаўруцікаў** і **сябар КХП БНФ Ян Дзяржаўцаў** тлумачылі, што адмовы з Чыгуначнай раённай адміністрацыі прыходзяць раз за разам. І факт, які разгледзеў у кастрычніку Чыгуначны раённы суд, – гэта толькі адзін зь дзевяці выпадкаў, калі актывістам адмовілі ў правядзеньні пікету.

**30.112011** У Гарадку адбылося чарговае судовае паседжаньне па скарзе **Леаніда Аўтухова** на дзеяньні ДАІ. На думку міліцыянтаў, Аўтухоў нібыта груба парушыў правілы дарожнага руху. На яго склалі пратакол. Пастановай выконваючага абавязкі начальніка аддзелу ДАІ Гарадоцкага РАУС А. Рымшы спадара Аўтухова аштрафавалі на 280 тысяч рублёў і пазбавілі правоў тэрмінам на адзін год. Адмены гэтай пастановы ён запатрабаваў праз суд.

Суд па скарзе Леаніда Аўтухова мусіў адбыцца яшчэ некалькі дзён таму. Аднак тады на суд не зьявіліся міліцыянты, якія складалі на актывіста пратакол, і было прынятае рашэньне адкласьці судовае разьбіральніцтва да 30 лістапада.

На пачатку чарговага паседжаньня суду Леанід Аўтухоў заявіў адвод судзьдзі. Прычына адводу – судзьдзя ня здатны весьці працэс па-беларуску, а да перакладчыка, якога даў суд, ён ня мае даверу. Пасьля таго, як судзьдзя – старшыня Гарадоцкага райсуду Аляксандар Ляшковіч адмовіў актывісту ў задавальненьні ягонага хадайніцтва, Аўтухоў і сьведкі зь ягонага боку пакінулі судовае паседжаньне.

У выніку судзьдзя Ляшковіч апытаў сьведкаў толькі з боку абвінавачаньня. Рашэньне, прынятае ім – у задавальненьні скаргі адмовіць. Леанід Аўтухоў мае намер гэтае рашэньне абскардзіць.

**30.11.2011** У Кастрычніцкім судзе распачаўся адміністрацыйны працэс над **Ірынай Яскевіч**, якая праводзіла сход у Віцебску, і **Таццянай Севярынец** — яна была сакратаром сходу. Абедзьвюх вінавацяць у правядзеньні несанкцыянаванага масавага мерапрыемства 8 кастрычніка. На самым пачатку працэсу судзьдзя Іна Грабоўская настойліва перапытвала, ці лічаць спадарыні Севярынец і Яскевіч, што сход — гэта таксама масавае мерапрыемства.


Алесь Галавань

Судзьдзя Іна Грабоўская перанесла далейшы разгляд спраў актывістак на 6 сьнежня. Бо яны хадайнічалі, каб у суд былі выкліканыя супрацоўнікі міліцыі, жыхары дамоў па вуліцы Хмяльніцкага, дзе праводзіўся сход, а таксама старшыня гарвыканкаму Віктар Нікалайкін. Яму таксама дасылалі запрашэньне на Народны сход, якое ён праігнараваў.

**05.12.2011** У Першамайскім райсудзе Віцебску распачаўся суд над **Алесем Галаванем**. **Актывіста «Маладой Беларусі»**, сябра ініцыятыўнай групы кандыдата ў прэзыдэнты Алеся Міхалевіча на леташніх выбарах затрымалі напярэдадні ўвечары, калі ён проста ішоў па горадзе. Нехта зь міліцыянтаў, што патрулявалі вуліцы, пазнаў у ім вядомага ў Віцебску грамадзка-палітычнага актывіста. Спадара Галаваня схапілі, склалі пратакол нібыта за знаходжаньне ў грамадзкім месцы ў нецьвярозым стане. Ноч Алесь правёў у міліцэйскім пастарунку.

Напачатку судовага паседжаньня Алесь Галавань заявіў адвод судзьдзі. Прычына заяўленага недаверу – судзьдзя Валянціна Кісьмярошкіна раней неаднаразова ўжо судзіла Алеся Галаваня і ягоных паплечнікаў і заўсёды выносіла абвінаваўчыя пастановы, якія, на думку актывіста, зьяўляліся несправядлівымі. Судзьдзя Кісьмярошкіна адхіліла заяўлены адвод. Судовы працэс працягнуўся.

Алесь Галавань заявіў суду два хадайніцтвы. Па-першае, ён папрасіў даць яму дадатковы час, каб заключыць дамову з адвакатам. Па-другое, было выказанае патрабаваньне прыцягнуць да суду перакладчыка на беларускую мову, бо абвінавачаны паводле адміністрацыйнага артыкулу не зусім добра валодае расейскай. Судзьдзя Кісьмярошкіна задаволіла гэтыя хадайніцтвы і перанесла далейшае разьбіральніцтва на 15 сьнежня.

**05.12.2011** Суды над **віцебскім актывістам Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі – БНФ Сяргеем Каваленкам** перанесеныя. 5 сьнежня над ім павінны былі прайсьці два судовыя працэсы. «Першы павінен быў адбыцца ў судзе Першамайскага раёну Віцебску за дробнае хуліганства – нібыта я аблаяў матам супрацоўнікаў міліцыі. Судзіць мяне павінны былі яшчэ 25 лістапада, але я запатрабаваў адваката. Суд перанеслі на 5 сьнежня, аднак у судзе не аказалася перакладчыка зь беларускай мовы на рускую. Судзьдзя чамусьці не разумее беларускай мовы. Таму суд перанесьлі на 9 сьнежня на 10:00», – сказаў актывіст.

Другое паседжаньне павінна было прайсьці ў судзе Кастрычніцкага раёну Віцебску. «Мяне супрацоўнікі міліцыі абвінавацілі ў вывешваньні бел-чырвона-белых сьцягоў на будынках гандлёвага цэнтру «Эўропа», крамы «5-ы элемэнт» і на адным з карпусоў Віцебскага тэхналягічнага ўнівэрсытэту. У дачыненьні да мяне


Тацьцяна Севярынец

склалі пратакол па артыкуле 23.34 адміністрацыйнага кодэксу Беларусі (парушэньне парадку правядзеньня масавых мерапрыемстваў або пікетаваньня). Аднак у судзе высьветлілася, што супрацоўнікі міліцыі зьмянілі свае прэтэнзіі. Замест часткі другой артыкулу, якая кажа аб адказнасьці арганізатара акцыі, яны мне перапісалі абвінавачаньне на частку трэцюю гэтага артыкулу – парушэньне, зьдзейсьненае паўторна. У сувязі з гэтым суд узяў перапынак да 13 сьнежня да 14:30», – паведаміў Каваленка.

Актывіст лічыць усе прэтэнзіі неабгрунтаванымі.

**06.12.2011** За арганізацыю Народнага сходу 8 кастрычніка **Ірына Яскевіч** аштрафаваная на 770 тысяч рублёў, а **Тацьцяна Севярынец**, якая была сакратаром сходу, на 875 тысяч рублёў — з улікам таго, што яе прыцягваюць да адміністрацыйнай адказнасьці за падобнае правапарушэньне ўжо паўторна. Суд над арганізатаркамі Народнага сходу распачаўся яшчэ 30 лістапада, на іх былі складзеныя пратаколы за парушэньне закону пра масавыя мерапрыемствы.

Судзьдзя Кастрычніцкага райсуду Іна Грабоўская, не зважаючы на тлумачэньні спадарыняў Севярынец і Яскевіч, што яны кіраваліся законам пра мясцовыя сходы, арганізацыя якіх не падпадае пад дзеяньне ніякага іншага закону, прызнала іх вінаватымі. Ірыну Яскевіч суд аштрафаваў на 22 базавыя велічыні, а Тацьцяну Севярынец — на 25 базавых велічыняў.

Абедзьве актывісткі зьбіраюцца абскардзіць рашэньне спадарыні Грабоўскай у абласным судзе.

**09.12.2011** 9 сьнежня ў судзе Першамайскага раёну Віцебску працягвалася судовае разьбіральніцтва па справе **Сяргея Каваленкі**. **Актывіст КХП БНФ** заявіў сьведку са свайго боку – былога інспэктара крымінальна-выканаўчай інспэкцыі АУС Першамайскага раёну Віталя Дубаўца. Каваленка спадзяецца, што паколькі заяўлены ім сьведка ў цяперашні час не працуе ў інспэкцыі, дык ён ужо не баіцца начальства і ў судзе, мабыць, скажа праўду. Судзьдзя Вольга Іванова перапыніла працэс і прызначыла наступнае паседжаньне на 14:00 22 сьнежня.

Таксама Каваленка падаў заяву ў Пракуратуру Віцебскай вобласьці з патрабаваньнямі прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасьці кіраўніка крымінальна-выканаўчай інспэкцыі АУС Першамайскага раёну Зінаіду Хлыстову за абразу.

**12.12.2011** Затрыманыя ўвечары 11 сьнежня **Ўладзіслаў Варанецкі** і **Іван Салохін** атрымалі судовае папярэджаньне за тое, што вывесілі на мосьце імя Блахіна расьцяжку «Свабоду палітвязьням!» Абодва актывісты адзначаюць некарэктныя


Іван Салохін

паводзіны супрацоўнікаў міліцыі падчас затрыманьня. Мінулую ноч ім давялося правесьці ў віцебскім ізалятары часовага ўтрыманьня пад вартай.

У ІЧУ хлопцаў пратрымалі ноч, а потым адвезьлі ў Чыгуначны райсуд. Паводле аповеду актывістаў, судзьдзя Алена Цыганкова не дала ім часу, каб заключыць дамову з адвакатам на абарону ў судзе – сказала, што «ўсё адно ў вас на адваката няма грошай». Ад прапановы выклікаць дзяжурнага адваката хлопцы адмовіліся самі.

Паводле артыкулу 23.34 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях актывістаў прызналі вінаватымі ў парушэньні парадку правядзеньня масавых вулічных акцыяў. З улікам таго, што ў суд яны трапілі ўпершыню, судзьдзя Алена Цыганкова палічыла магчымым абмежавацца папярэджаньнем.

**13.12.2011** 13 сьнежня зноў судзілі віцебскага **актывіста Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Сяргея Каваленку**. У якасьці доказу віны Каваленкі міліцыянты, якія складалі на яго пратакол, прыклалі дыск зь відэаролікам, на якім бачна, як нехта вывешвае бел-чырвона-белыя сьцягі над гандлёвым домам «Эўропа» і крамай «5-ы элемэнт». Твару таго, хто ўсталёўвае сьцягі, на роліку, узятым з Інтэрнэту, разабраць немагчыма. Прагледзеўшы відэазапіс, судзьдзя Кастрычніцкага райсуду Іна Грабоўская прыняла рашэньне перанесьці разьбіральніцтва па справе на 26 сьнежня.

**14.12.2011** Мясцовыя актывісты меркавалі правесьці акцыі салідарнасьці з палітвязьнямі, якія апынуліся ў зьняволеньні пасьля падзеяў у Менску год таму. Але віцебскі гарвыканкам не дазволіў ні сходу каля «Сіняга дому» на вуліцы Леніна, ні шэсьця да плошчы Свабоды. Як паведаміў адзін з заяўнікаў **Аляксей Гаўруцікаў**, які быў даверанай асобай Мікалая Статкевіча падчас мінулай прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі, забарона грунтуецца на тым, што актывісты не прыклалі да заяўкі дамовы зь міліцыяй, ЖКГ і «хуткай дапамогай».

**15.12.2011** На 15 сьнежня быў прызначаны судовы разгляд справы **Алеся Галаваня**. **Віцебскі актывіст «Маладой Беларусі»** абвінавачваецца ў знаходжаньні ў грамадзкім месцы ў нецьвярозым стане. Аднак Алесь Галавань на паседжаньне суду не зьявіўся, таму судзьдзя Валянціна Кісьмярошкіна прыняла рашэньне перанесьці разьбіральніцтва на іншы дзень. Дату наступнага судовага паседжаньня судзьдзя не паведаміла.

**16.12.2011** Віцебскага **актывіста КХП БНФ Сяргея Каваленку**, які цяпер адбывае тры гады «хатняй хіміі», могуць пакараць дадатковым арыштам на паўгода. Пра гэта ён паведаміў прэс-службе БХД. Як распавёў актывіст, паводле атрыманай ім інфармацыі, да яго могуць ужыць арт. 415 Крымінальнага кодэксу пасьля таго, як


Аляксандар Кірылаў

яго асудзяць па сфабрыкаваных у міліцыі адміністрацыйных справах.

**17.12.2011 Аляксандар Кірылаў** — жыхар Віцебску, паплечнік былога прэтэндэнта на ўдзел у прэзыдэнцкіх выбарах Сяргея Рыжова, **прыхільнік стварэньня Беларускай кансэрватыўнай партыі «Белая Русь»**. Актывіста асудзілі за хуліганства. Судзьдзя Кастрычніцкага райсуду Ірына Закрэўская разьбірала адміністрацыйную справу, распачатую 10 лістапада.

У той дзень Аляксандар Кірылаў наведаў цэнтар занятасьці, дзе стаіць на ўліку як беспрацоўны. Паводле пратаколу, складзенага ў Кастрычніцкім РАУС, спадар Кірылаў быў затрыманы, бо нецэнзурна абражаў кіраўніка і супрацоўнікаў віцебскага цэнтру занятасьці.

Кірылаву не далі папярэдне азнаёміцца са справай, ніводнае ягонае хадайніцтва не было задаволенае, у тым ліку наконт выкліку сьведак, якія маглі б засьведчыць яго невінаватасьць. Штраф памерам 350 тысяч — гэта істотная сума для беспрацоўнага.

**20.12.2011** Замест Першамайскага райсуду, дзе павінен пачацца працэс над віцебскім актывістам, **Сяргея Каваленку** адвезьлі ў РАУС, каб скласьці пратаколы на новую крымінальную справу. Вядома, што судзіць яго павінны нібыта за парушэньне рэжыму адбываньня ўмоўнага пакараньня – актывіст пакараны «хатняй хіміяй» за вывешваньне бел-чырвона-белага сьцягу на навагодняй ёлцы ў пачатку 2010 году.

За якое парушэньне складаюць пратаколы, сваякам не сказалі. Падчас допыту, які ідзе ў Першамайскім РАУС, прысутнічае адвакат, наняты сям'ёй актывіста. Сяргей Каваленка пасьпеў сказаць жонцы толькі тое, што яго, хутчэй за ўсё, затрымаюць на трое сутак, і што ён абвясьціў галадоўку.

**21.12.2011** Віцебскі абласны суд пакінуў бязь зьменаў прысуд, вынесены за правядзеньне Народнага сходу 8 кастрычніка **абласной каардынатарцы Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі Тацьцяне Севярынец** і яе паплечніцы **Ірыне Яскевіч**. Такое рашэньне прыняла судзьдзя Смалякова.

6 сьнежня судзьдзя Іна Грабоўская прысудзіла Тацьцяне Севярынец штраф у памеры 25 базавых велічыняў (875 тысячаў рублёў) за арганізацыю несанкцыянаванай акцыі паводле артыкулу 23.34 КаАП, а яе паплечніцы па правядзеньні Народнага сходу Ірыне Яскевіч – 22 базавых.

**26.12.2011 Распаўсюдніца незалежнай газэты «Віцебскі кур'ер» Тамара Піліпаўна Кандакова** падала ў Віцебскі абласны суд скаргу на пастанову суду Каст-



Георгі Станкевіч

рычніцкага раёну г. Віцебску. 15 сьнежня 2011 году судзьдзя Іна Грабоўская наклала на яе спагнаньне ў выглядзе штрафу на суму 700 000 рублёў і канфіскавала 151 асобнік газэты «Віцебскі кур'ер».

Тамара Піліпаўна з рашэньнем Грабоўскай ня згодная, бо суд разглядаў «Віцебскі Кур'ер» як замежны сродак масавай інфармацыі. Аднак гэта не адпавядае рэчаіснасьці.

Газэта «Віцебскі Кур'ер» зарэгістраваная ў г. Смаленску. А паколькі Беларусь і Расея складаюць адзіную саюзную дзяржаву, то наданьне судзьдзёй Грабоўскай расейскаму СМІ статусу замежнага сродку масавай інфармацыі – ёсьць ня што іншае, як дэманстратыўны выступ гэтай судзьдзі супраць палітыкі кіраўніка беларускай дзяржавы.

**26.12.2011** Працэс у Кастрычніцкім райсудзе праходзіў без **Сяргея Каваленкі**, на якога быў складзены пратакол за вывешваньне бел-чырвона-белага сьцяга на віцебскай краме «Пяты элемэнт». Судзьдзя Іна Грабоўская спыніла справу з-за адсутнасьцю даказальнай базы.

**28.12.2011** Першамайскі райсуд Віцебску працягвае разбор справы, ініцыяванай паводле заявы супрацоўнікаў інспэкцыі па выкананьні пакараньняў. Яны сьцьвярджаюць, што 24 лістапада **Сяргей Каваленка** іх абразіў, калі прыйшоў адзначацца ў інспэкцыю. Наведваньне інспэкцыі — гэта ягоны абавязак, бо актывіст адбывае ўмоўнае пакараньне за тое, што вывесіў ў 2010 годзе бел-чырвона-белы сьцяг на навагодняй ёлцы. Але актывіст сьцьвярджае, што нікога не абражаў, і што на яго ўзводзяць паклёп, таму і абвясьціў галадоўку пратэсту.

**08.01.2012 Рэдактара і выдаўца самвыдатаўскай рэгіянальнай газэты «Крывінка» Георгія Станкевіча** аштрафавалі за парушэньне парадку распаўсюду выданьня. На знак пратэсту супраць парушэньня ягоных правоў спадар Станкевіч пакінуў залю суду, і пастанову судзьдзя Вольга Белавус вынесла ў ягоную адсутнасьць. У ягоную адсутнасьць яму прысудзілі штраф памерам 40 базавых велічынь.

Працэс праходзіў з парушэньнямі: судзьдзя не задаволіла хадайніцтва пра прысутнасьць адваката на працэсе, заявіўшы, што можа запрасіць дзяжурнага адваката замест таго, чые паслугі былі ўжо аплачаныя. Але і дзяжурнага адваката чакаць ня сталі.

Прысутнасьць перакладчыка была толькі намінальнай: у суд запрасілі настаўніцу беларускай мовы, якая не валодае навыкамі сынхроннага перакладу.

Судовую пастанову Георгі Станкевіч лічыць незаконнай і зьбіраецца абскардзіць.

**12.01.2012** Судзьдзя Вольга Іванова прызнала **актывіста КХП БНФ Сяргея**




**Каваленку** вінаватым у зьдзяйсьненьні дробнага хуліганства і пакарала яго штрафам у памеры чатырох базавых велічынь.

Такі прысуд судзьдзя вынесла нягледзячы на тое, што падчас судовага разьбіральніцтва выявіліся шматлікія супярэчнасьці паміж паказаньнямі сьведак, якія сьцьвярджалі, нібыта Сяргей Каваленка лаяўся матам у будынку інспэкцыі па выкананьні пакараньняў. Яны па-рознаму апісалі характар, месца, акалічнасьці правапарушэньня, якое быццам бы зьдзейсьніў сябра апазыцыйнай партыі. На ўсё гэта паспрабаваў зьвярнуць увагу судзьдзі адвакат Пётар Каваленка, які заявіў, што віна актывіста не даказаная. Але судзьдзя засталася глухой да ягоных аргумэнтаў.

**16.01.2012** Падчас чарговага разгляду грамадзянскай справы наконт пакрыцьця шкоды, нанесенай дзяржаўнаму ААТ «Віцебскмясамалпрам» былой работніцай, судзьдзя Сьвятлана Варатынская адмовіла ў адводзе судзьдзі па заяве прадстаўніка прафсаюзу работнікаў радыёэлектроннай прамысловасьці (РЭП). Разгляд справы адбываўся ў судзе Чыгуначнага раёну Віцебску. Пытаньне, якое вырашалася ў судзе, важнае з пункту гледжаньня абароны эканамічных правоў працоўных – сяброў незалежных прафсаюзаў. Дзяржава, у асобе ААТ «Віцебскмясамалпрам», вырашыла праіндэксаваць суму нястачы, нібыта прычыненай кладаўшчыцай, што была прызначаная да выплаты раней.

Гэтае жаданьне папоўніць скарбонку за кошт свайго працаўніка зьвязанае з тым, што ў 2011 годзе ў краіне адбылася двухразовая інфляцыя, якая істотна ўскладніла фінансавы стан прадпрыемства. Пры гэтым, у 2011 годзе заробак «вінаватай» працаўніцы дзяржаўнае ААТ «Віцебскмясамалпрам» аніяк не індэксавала.

Прафсаюз РЭП, які выступае абаронцам свайго сябра, лічыць патрабаваньне кампэнсацыі з боку дзяржпрадпрыемства незаконным і несправядлівым. Незаконным, бо віна работніцы не была даказаная. Несправядлівым з-за таго, што матэрыяльнае становішча кладаўшчыцы, якое ўжо пагоршылася, ускладніцца яшчэ больш. Бо сума выплаты паводле пазову, у адпаведнасьці з паўторным рашэньнем суддзі, раптам узрасла з 7,35 да 11,0 мільёнаў рублёў.

**30.01.2012** 27 студзеня ў Кастрычніцкім райсудзе Віцебску чарговае судовае паседжаньне па адміністратыўнай справе **Пятра Іванова**.

Нарэшце прадстаўнік праваахоўных ворганаў Максім Секушэнка зьявіўся ў судзе. І менавіта зь яго апытаньня пачалося разьбіральніцтва. Падчас гэтага судовага дзеяньня, якое доўжылася досыць працяглы час, на большасьць пытаньняў, зададзеных Пятром Івановым і ягоным адвакатам, міліцыянт адказваў адным і




тым жа сказам: «Я ня памятаю», – гэтая фраза з вуснаў праваахоўніка прагучала ў залі суду некалькі дзясяткаў разоў.

Выслухаўшы ўдзельнікаў судовага працэсу, судзьдзя Іна Грабоўская тут жа, без усялякага перапынку, абвясьціла рашэньне. Яна вынесла адстаўному афіцэру абвінаваўчы прысуд і пакарала яго штрафам у памеры 140 000 тысяч рублёў – 4 базавыя велічыні.

**15.02.2012** У Віцебскім абласным судзе паведамілі, што супрацоўнік УУС Аблвыканкаму **Руслан Сініцын** прызнаны вінаватым у службовай халатнасьці. Ён асуджаны на 3 гады пазбаўленьня волі з адбываньнем пакараньня ў папраўчай калёніі ва ўмовах пасяленьня. Сініцын таксама пазбаўлены права займаць пасады, зьвязаныя з праходжаньнем службы ў органах унутраных спраў, тэрмінам на 5 гадоў і права займацца экспэртна-крыміналістычнай дзейнасьцю тэрмінам на 5 гадоў. Прысуд уступіў у сілу 27 студзеня.

Справа ў адносінах да Сініцына была заведзеная паводле арт. 428 КК («Службовая халатнасьць»). Міліцыянт ня ўзяў у 2009 адбіткі пальцаў у прызыўніка Дзьмітрыя Канавалава, якога летась прызналі вінаватым у зьдзяйсьненьні выбухаў у Менску і Віцебску.

Экспэрт ня толькі не правёў дактыляскапію, але і выдаў маладому чалавеку даведку аб тым, што той прайшоў такую працэдуру раней. І такім чынам прызыўнік ня быў правераны на датычнасьць да выбуху ў Менску 4 ліпеня 2008 г. Згодна з матэрыяламі крымінальнай справы, менавіта адбіткі пальцаў Дзьмітрыя Канавалава былі выяўленыя на выбуховым прыстасаваньні, якое не спрацавала ў 2008-м.

**23.02.2012** Суд Віцебскага раёну прысудзіў арышты **Раману Васільеву**, **Міхаілу Мускаму**, **Зьмітру Крамянецкаму** і **Ўладзімеру Яроменку**, якія 21 лютага ехалі на суд да Сяргея Каваленкі.

Кіроўца машыны **Павал Сітнік**, **актывіст аргкамітэту па стварэньні партыі БХД**, атрымаў штраф у тры базавыя велічыні (105 тысяч рублёў).

**23.02.2012** 23 лютага працягваўся суд над віцебскім **актывістам КХП-БНФ Сяргеем Каваленкам**. Дзясяткі чалавек, якія прыйшлі падтрымаць Сяргея ў судзе, сярод якіх журналісты недзяржаўных мэдыяў, не былі дапушчаныя ў залю судовых паседжаньняў. З прымяненьнем сілы іх выгналі з будынку суду. Падчас судовага паседжаньня судзьдзя не задаволіла ніводнага хадайніцтва Каваленкі. Яго стан пагоршаў, цягам дня ў суд двойчы прыяжджала хуткая дапамога.

У дачыненьні да тых, хто прыйшоў на суд над Сяргеем Каваленкам, міліцыянты прымянілі беспрэцэдэнтныя меры засьцярогі. Ад кожнага наведвальніка, які




хацеў патрапіць у будынак Першамайскага райсуду Віцебску, патрабавалі прайсьці праз мэталяшукальную рамку, пільна надглядалі яго асабістыя рэчы. Людзей змушалі расшпільваць верхнюю вопратку, абшуквалі, некаторыя нават мусілі зьняць абутак. Міліцыянты старанна правяралі пашпарты тых, хто прыйшоў, перапісвалі дадзеныя пашпартоў у журнал.

Колькасьць супрацоўнікаў праваахоўных органаў у калідоры суду значна павялічылася ў параўнаньні з папярэднімі днямі. Кіравалі дзеяньнямі міліцыянтаў намесьнік начальніка міліцыі грамадзкай бясьпекі УУС Віцебскага аблвыканкаму Ігар Скарыновіч і намесьнік начальніка аховы правапарадку і прафіляктыкі міліцыі грамадзкай бясьпекі УУС Віцебскага аблвыканкаму Андрэй Іваноў.

**28.02.2012** Партыйцы, журналісты, праваабаронцы, сваякі падсуднага і шараговыя грамадзяне напісалі паўсотні скаргаў на тое, што іх не пусьцілі на суд над віцебскім актывістам, які праходзіў з 21 па 24 лютага. «Кніга заўвагаў і прапановаў» цяпер запоўненая, трэба заводзіць новую і пісьмова адказваць кожнаму, хто запісаў свае прэтэнзіі. Многія скаргі тычыліся таго, што з 23 лютага працэс над Каваленкам практычна стаў закрытым. На яго не дапусьцілі нават сваякоў падсуднага апазыцыянэра, пра што і напісала скаргу ягоная жонка, **Алена Каваленка**.

Афіцыйнай прычынай, зь якой людзей не пускалі ў судовую залю, была адсутнасьць месцаў. У другі дзень, пасьля таго, як жонка актывіста разгарнула бел-чырвона-белы сьцяг і дастала плякат «Свабоду беларусу Сяргею Каваленку», суд перанесьлі з самай вялікай залі № 8, разлічанай на 50 месцаў, у залю № 6, меншую ўдвая. У трэйці дзень суду яе запоўнілі «асобамі ў цывільным», сярод якіх не было ніводнага знаёмага падсуднаму чалавека. Тых, хто прыйшоў выказаць салідарнасьць зь **Сяргеем Каваленкам**, выдалілі нават з судовага будынку.

З разлікам на тое, што і ў апошні дзень суду месцаў «ня хопіць», пэнсіянэрка **Антаніна Піванос** прыйшла са сваім раскладным зэдлікам: «Мне сказалі, што няма месцаў. Я сказала, што маю сваё. Мяне не пусьцілі зноў. Таму напісала скаргу, што мае правы парушылі!»

**Сябра КХП БНФ Ян Дзяржаўцаў** напісаў скаргу дома, бо па «Кнігу заўвагаў і прапановаў» 24 лютага ўжо стаяла чарга: «Напісаў на двух аркушах пра ўсё тое беззаконьне, што тут чынілі міліцыянты. Няхай мне адкажа старшыня суду Ўладзімер Бясьсьмертны, на якой падставе супрацоўнікі міліцыі тут ‘гаспадарылі’, зьневажаючы людзей!»

**10.03.2012 Актывіст-юрыст Пётар Іваноў**, наведаўшы адно з судовых паседжаньняў у будынку суду Чыгуначнага раёну Віцебску, быў уражаны тым, наколькі




пагардліва да вызначаных заканадаўствам працэсуальных нормаў ставіцца судзьдзя Ўладзіслаў Шыкароў. Падчас судовага разьбіральніцтва судзьдзя нават не спрабаваў рабіць выгляд, што хоча высьветліць усе акалічнасьці адміністрацыйнай справы, разгляд якой вёў. Ён са скуры вылузваўся, абы толькі завяршыць справу як мага хутчэй. І гэта яму ўдалося: суд, пачатак якога быў прызначаны на 10:30, а 10:20 ужо скончыўся.

Усе хадайніцтвы асобы, у дачыненьні да якой вялася справа, якія маглі б зацягнуць працэс, – аб прыцягненьні перакладчыка на беларускую мову, аб выкліку сьведкі – адхіляліся. Вынік такога судовага «разбору» быў, відавочна, прадвызначаны: цяпер «правапарушальнік», згодна з пастановай судзьдзі Шыкарова, мусіць заплаціць штраф.

Свае заўвагі наконт вядзеньня судовага паседжаньня Ўладзіславам Шыкаровым актывіст выклаў у кнізе заўвагаў і прапановаў. Надоечы з Чыгуначнага райсуду яму прыйшоў адказ. Паводле словаў Пятра Іванова, збольшага гэты адказ – звычайная адпіска. Тым ня менш са слушнасьцю аднаго з пунктаў, на які ён зьвяртаў увагу, судовае начальства вымушанае было пагадзіцца. Праведзенай праверкай, – гаворыцца ў адказе, атрыманым Пятром Івановым, – пацьвердзіўся факт таго, што судзьдзя Шыкароў вёў справу, не апрануўшы мантыю судзьдзі. За гэтае парушэньне ён пазбаўлены месячнай прэміі, адзначаецца ў атрыманым актывістам адказе з суду.

**20.03.2012** Актывістку **Алену Семенчукову**, якую 20 сакавіка затрымалі з плякатам «Свабоду Сяргею Каваленку» у цэнтры Віцебску, асудзілі на штраф памерам 175 тысяч. Судзьдзя Чыгуначнага райсуду Алена Цыганкова прызнала **актывістку «Эўрапейскай Беларусі»** парушальніцай заканадаўства аб масавых мерапрыемствах.

Дзяўчына не адмаўляла, што выйшла з плякатам «Свабоду Сяргею Каваленку«на самую шматлюдную вуліцу гораду. Але яна не пагадзілася, што парушыла гэтым заканадаўства: цьвердзіла, што проста скарыстала сваё права на свабоду выказваньня ўласных перакананьняў, — паведаміў **праваабаронца Павал Левінаў**, які прысутнічаў на судовым працэсе. Штраф памерам 175 тысяч (5 базавых велічыняў) Алена Семенчукова зьбіраецца абскарджваць у абласным судзе.

**20.03.2012** У судзе Кастрычніцкага раёну Віцебску разглядалася скарга прадстаўнікоў дэмакратычнай супольнасьці на рашэньне намесьніка старшыні Віцебскага гарвыканкаму Ўладзімера Шломы аб забароне правядзеньня 25 сакавіка вулічнага шэсьця і сходу. Скаргу ў суд падавалі заяўнікі меркаванай акцыі –


Ян Дзяржаўцаў

**віцебскі каардынатар руху «За свабоду» Хрыстафор Жаляпаў**, **сябра аргкамітэту па стварэньні БСДП «Народная грамада» Аляксей Гаўруцікаў**, **кіраўнік суполкі КХП БНФ Ян Дзяржаўцаў**. Праз суд яны хацелі дамагчыся адмены згаданага вышэй рашэньня гарадзкога чыноўніка, аднак судзьдзя Алена Папкова ў задавальненьні скаргі адмовіла.

Было ў аўтараў звароту ў суд і яшчэ адно патрабаваньне: яны прасілі судзьдзю абавязаць камунальнікаў, мэдыкаў і міліцыянтаў заключаць дамовы на абслугоўваньне масавых мерапрыемстваў зь іх арганізатарамі. Бо адсутнасьць такіх дамоваў ўлады зазвычай выкарыстоўваюць як нагоду для забароны мерапрыемстваў, у выніку чаго цягам апошніх гадоў у Віцебску не была задаволеная ніводная зь дзясяткаў заявак на правядзеньне акцыяў, пададзеных у органы ўлады грамадзкімі актывістамі, апазыцыянэрамі, праваабаронцамі. Гэтае патрабаваньне судзьдзя Папкова вырашыла пакінуць без разгляду.

**28.03.2012** З 23 па 28 сакавіка ў раённых судох Віцебску праходзіла першая сэрыя паседжаньняў па пазовах **сябра КХП БНФ Яна Дзяржаўцава** да раённых адміністрацыяў гораду. Актывіст абскардзіў забарону на правядзеньне пікетаў, вынесеную кіраўніцтвамі адміністрацыяў. 15 пікетаў – па пяць у кожным з раёнаў Віцебску – меркавалася ладзіць штодня, пачынаючы зь першага дня суду над **Сяргеем Каваленкам**.

Судовыя паседжаньні ў Чыгуначным і Кастрычніцкім раёнах прайшлі па аднолькавым сцэнары. Намесьнікі кіраўнікоў адміністрацыяў, якія прымалі рашэньні аб забароне пікетаў, на суд не зьявіліся, спаслаўшыся на занятасьць, замест іх прысутнічалі спэцыялісты-юрысты. Судзьдзі Сьвятлана Варатынская (суд Чыгуначнага раёну) і Алена Папкова (Кастрычніцкі раён) выслухалі пазоўніка і прадстаўнікоў адміністрацыяў, пасьля чаго абедзьве задаволілі хадайніцтвы Яна Дзяржаўцава аб запрашэньні да ўдзелу ў працэсах перакладчыкаў на беларускую мову і перанесьлі судовыя разгляды на 9 красавіка і 30 сакавіка адпаведна.

Перад тым абедзьве не задаволілі хадайніцтвы аб адводзе судзьдзяў, якія актывіст патлумачыў дзьвюма прычынамі: 1) судзьдзі не вядуць працэс па-беларуску; і 2) у прызначэньні гэтых судзьдзяў браў удзел Аляксандар Лукашэнка, які, паводле сьцьверджаньняў Яна Дзяржаўцава, пасьля рэфэрэндуму і разгону Вярхоўнага Савету ў 1996 годзе зьяўляецца нелегітымным прэзыдэнтам, а значыць нелегітымнымі ёсьць і ўсе яго прызначэнцы, дый уся судовая сыстэма краіны.

У судзе Першамайскага раёну таксама гучаў адвод судзьдзі, і таксама ён быў адхілены. Але ўсё астатняе адбывалася па-іншаму. Па-першае, не было нікога з ра-




ённай адміністрацыі. Намесьнік кіраўніка А. Красакоў ня толькі сам праігнараваў суд, але і не паслаў у яго нікога замест сябе. Па-другое, судзьдзя Вольга Ільюшонак, відаць, улічыла досьвед сваіх калегаў: калі працэс распачаўся, і спадар Дзяржаўцаў заявіў, як і ў іншых судох, хадайніцтва аб перакладчыку, судзьдзя абвясьціла, што перакладчыка яна ўжо загадзя запрасіла, ён прысутнічае ў залі і можа зараз жа ўзяцца за працу. Хаця судовае паседжаньне ў Першамайскім райсудзе адбывалася без удзелу адказьніка, судзьдзя вырашыла, што гэта не зьяўляецца перашкодай для ўсебаковага і аб'ектыўнага судовага разбору, і ня стала адкладваць далейшы разгляд справы на іншы дзень. Менш як праз дзьве гадзіны пасьля пачатку суду яна абвясьціла рашэньне: у пазове супраць кіраўніцтва адміністрацыі раёну наконт забароны пікету Яну Дзяржаўцаву адмовіць.

**09.04.2012** У раённых судох Віцебску завяршыліся працэсы па скаргах **сябра КХП БНФ Яна Дзяржаўцава** на рашэньні намесьнікаў кіраўнікоў адміністрацыяў раёнаў аб забароне 15-ці пікетаў у падтрымку палітвязьня Сяргея Каваленкі. Усяго ў трох судох гораду з 23 сакавіка па 9 красавіка адбылося пяць паседжаньняў. Вынік прадказальны: судзьдзі прызналі рашэньні ўладаў адпаведнымі закону і пакінулі скаргі без задавальненьня. Тым часам Ян Дзяржаўцаў падаў у раённыя адміністрацыі чарговыя заяўкі на пікеты.

У кожную з трох адміністрацыяў Віцебску пададзена па дзьве заяўкі на правядзеньне пікетаў у месцах, адведзеных уладамі пад масавыя мерапрыемствы. Тры пікеты (па адным у кожным з раёнаў) мусяць адбыцца 22 красавіка. Іх мэта: данесьці да жыхароў Віцебску стаўленьне да камуністычнай ідэалёгіі, яе згубнай ролі для разьвіцьця Беларусі і злачыннай дзейнасьці камуністаў па зьнішчэньні нацыянальнай культуры, мовы і самаідэнтычнасьці беларускага народу. Яшчэ тры пікеты заплянаваныя на 26 красавіка. На іх мяркуецца распавесьці жыхарам гораду праўду аб наступствах аварыі на Чарнобыльскай АЭС і папярэдзіць пра небясьпеку, якую хавае ў сабе будаўніцтва атамных станцыяў на тэрыторыі Беларусі.

Ян Дзяржаўцаў спадзяецца, што гэтым разам улады ўсё-такі дазволяць яму правесьці імпрэзы. Справа ў тым, што раней, забараняючы масавыя мерапрыемствы, чыноўнікі зазвычай спасылаліся на рашэньне Віцебскага аблвыканкаму № 881 ад 10 ліпеня 2009 году. Згодна з пунктам 3 гэтага рашэньня, у выпадках, калі арганізацыя масавага мерапрыемства адбываецца без удзелу органаў дзяржаўнай улады, яго арганізатары павінны заключыць дамовы з мэдыкамі, міліцыянтамі і камунальнікамі на абслугоўваньне мерапрыемства. Гэтае рашэньне, па сутнасьці, зьяўляецца невыканальным: не было яшчэ выпадку, каб некаму з актывістаў удалося дамагчыся ад лекараў, праваахоўнікаў і сьмецяроў заключэньня па-




трэбных дамоваў. Таму цяпер Ян Дзяржаўцаў, падаючы заяўкі на чарговыя пікеты, прапанаваў старшыням раённых адміністрацыяў далучыцца да арганізацыі гэтых пікетаў.

Такім чынам, калі раённыя ўлады адгукнуцца на прапанову актывіста і возьмуць удзел у меркаваных мерапрыемствах, іх правядзеньне ня будзе абмяжоўвацца патрабаваньнямі пункту 3 рашэньня № 881. У гэтым выпадку ўлады самі мусяць прыцягнуць адпаведныя службы для належнага мэдычнага абслугоўваньня і забесьпячэньня аховы падчас пікетаў, а таксама для прыбіраньня тэрыторыі пасьля іх правядзеньня. Ян Дзяржаўцаў мае надзею, што чыноўнікі станоўча адрэагуюць на яго прапанову, і яму ня прыйдзецца зноў зьвяртацца ў суды, адстойваючы сваё права на публічнае выказваньне думкі, гарантаванае канстытуцыяй.

**18.04.2012** Віцебскі абласны суд не задаволіў касацыйныя скаргі **старшыні партыі «Справядлівы сьвет» Сяргея Калякіна** і **праваабаронцы Валера Шчукіна** на рашэньні суду Аршанскага раёну, які аштрафаваў іх напрыканцы сакавіка на 10 і 34 базавыя велічыні адпаведна. Суд у Віцебску зноў прайшоў фактычна ў закрытым рэжыме.

У будынак суду не прапусьцілі нікога з тых, хто прыйшоў падтрымаць Шчукіна і Калякіна. Вялікая група з журналістаў, грамадзкіх актывістаў і прадстаўнікоў партыяў АГП і «Справядлівы сьвет» чакалі заканчэньня паседжаньняў на парозе будынку суду пад пільным наглядам супрацоўнікаў у цывільным. Затое перад пачаткам паседжаньняў будынак абласнога суду наведаў новы начальнік абласнога КДБ Уладзімер Арчакоў.

У суд людзей не дапусьцілі ўсё з той самай прычыны – «адсутнасьці месцаў» у залі паседжаньняў. Як потым высьветлілася, памяшканьні, у якіх праходзілі слуханьні, сапраўды былі напоўненыя людзьмі, многія зь якіх былі апазнаныя як супрацоўнікі міліцыі.

Адзінай сьветлай плямай было рашэньне абласнога суду паводле скаргі віцебскай актывісткі **Алены Семенчуковай**, якая аспрэчыла памер штрафу, што прызначыў ёй суд Чыгуначнага раёну Віцебску за пікет на знак салідарнасьці зь Сяргеем Каваленкам, які яна зладзіла 20 сакавіка ля «сіняга» дому ў Віцебску. Абласны суд узяў пад увагу, што дзяўчына яшчэ ў судзе першай інстанцыі прызнала сваю віну, і зьнізіў штраф у 10 разоў – з 5 базавых велічынь да 0,5 б. в.

**29.04.2012** Віцебскія апазыцыйныя лідэры ў абласным судзе ня здолелі адстаяць права на свабоду мірных сходаў і шэсьцяў. Віцебскі абласны суд не задаволіў касацыйную скаргу віцебскіх актывістаў на рашэньне суду Кастрычніцкага раёну




Віцебску ад 20 сакавіка па скарзе пра забарону шэсьця на Дзень Волі ў Віцебску. Касацыйную скаргу ў суд падавалі заяўнікі шэсьця віцебскія актывісты **Аляксей Гаўруцікаў**, **Хрыстафор Жаляпаў** і **Ян Дзяржаўцаў**.

Суд Кастрычніцкага раёну ня ўзяў пад увагу довады заяўнікаў пра тое, што намесьнік старшыні Віцебскага гарвыканкаму Ўладзімер Шлома, які адмовіў у правядзеньні масавага мерапрыемства, дзейнічаў незаконна.

**04.06.2012** Суды, што адбыліся надоечы, не задаволілі скаргі віцебскага **сябра КХП-БНФ Пятра Сарапені** наконт забароны пікетаў. Гэта было б зусім банальнай гісторыяй – апошнімі гадамі суды Віцебшчыны разгледзелі дзясяткі скаргаў грамадзян на забарону ладзіць масавыя мерапрыемствы і ніводнай зь іх не задаволілі, – калі б не адна акалічнасьць: як вынікае з рашэньня аднаго з судоў, судзьдзя прымудрылася ў судовым паседжаньні неяк заслухаць актывіста, хаця на паседжаньні той не прысутнічаў.

Пятро Сарапеня падаваў скаргі ў раённыя суды Віцебску на рашэньні раённых адміністрацыяў Віцебску, якія забаранілі яму зладзіць пікеты. Усяго меркавалася правядзеньне 3-х пікетаў, па адным у кожным з раёнаў Віцебску. Пікеты мелі адбыцца 25 сакавіка, у чарговую гадавіну абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Пра тое, што ён ня зможа прыйсьці на прызначанае судовае паседжаньне, Пятро Сарапеня паведаміў загадзя. Актывіст прасіў судзьдзю Першамайскага райсуду Віцебску Алену Шарэц разгледзець справу ў яго адсутнасьць. Судзьдзя так і зрабіла. Наконт прынятага рашэньня стала вядома па атрыманьні рашэньня суду праз пошту.

Дык вось, у гэтым рашэньні, прынятым, дарэчы, «імем Рэспублікі Беларусь», напісана: «У судовае паседжаньне Сарапеня П. А. не зьявіўся, прасіў разглядаць справу ў яго адсутнасьць». І ніжэй: «…Заслухаўшы заяўніка, суд лічыць неабходным у задавальненьні скаргі адмовіць». Пра тое, якім чынам падчас судовага паседжаньня судзьдзя Шарэц здолела «заслухаць» адсутнага заяўніка, самому заяўніку нічога не вядома.

**07.06.2012** У Кастрычніцкім райсудзе Віцебску разглядалася справа **Сяргея Кандакова**. Яго судзілі на падставе пратаколу, складзенага 2 траўня міліцыянтамі за 18 асобнікаў зарэгістраванай у Смаленску газэты «Віцебскі кур’ер», якія ён зьбіраўся параскладваць па паштовых скрынках. Судзьдзя Іна Грабоўская прызнала распаўсюдніка недзяржаўнай прэсы вінаватым у парушэньні часткі 2 артыкулу 22.9 кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях («незаконны распаўсюд

прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі») і прысудзіла яму штраф у памеры 20 базавых велічынь.

**19.06.2012** Судовая калегія па грамадзянскіх справах Віцебскага абласнога суду задаволіла скаргу **праваабаронцы Паўла Левінава** на вызначэньне старшыні суду Першамайскага раёну Віцебску Ўладзімера Бясьсьмертнага, які адмовіў праваабаронцу ва ўзбуджэньні грамадзянскай справы паводле пазову да Дзяржаўнага прадпрыемства «ЖРЭТ Першамайскага раёну» аб абароне правоў спажыўцоў і спагнаньні кампэнсацыі маральнай шкоды. Судовая калегія адзначыла, што ня можа пагадзіцца з высновамі Ўладзімера Бясьсьмертнага, у аснову свайго вызначэньня паклала довады скаргі праваабаронцы і вярнула справу ў суд Першамайскага раёну Віцебску для вырашэння пытаньня пра ўзбуджэньне справы.

У пазоўнай заяве Павал Левінаў, грунтуючыся на законах фізыкі, матэматыкі і цеплатэхнікі, прасіў прызнаць падманам, што парушае правы спажыўцоў, дзеяньні ДП «ЖРЭТ Першамайскага раёну» па налічэньні цеплавой энэргіі на падагрэў адной тоны (аднаго кубічнага мэтра) вадаправоднай вады ў завышаным больш як у 4,7 разы памеры.

## Абмежаваньне эканамічных свабод


Уладзімер Рамановіч

**27.03.2011** Віцебскі **прадпрымальнік**, **экс-прэтэндэнт на ўдзел у мінулых прэзыдэнцкіх выбарах Уладзімер Правальскі**, заяўляе пра намер ініцыяваць рэфэрэндум аб адстаўцы Аляксандра Лукашэнкі.

У. Правальскі абвясьціў пра стварэньне аргкамітэту для фармаваньня ініцыятыўнай групы, якая выступіць з прапановаю правесьці рэфэрэндум за адстаўку дзейнага прэзыдэнта. «Прапануем прэзыдэнту Рэспублікі Беларусі Лукашэнку А. Р. падаць у адстаўку з прычыны страты даверу выбарцаў» – такая, паводле Ўладзімера Правальскага, мае быць тэма грамадзкага абмеркаваньня.

Уладзімер Правальскі вылучаўся ў кандыдаты на ўдзел у мінулых прэзыдэнцкіх выбарах. Аднак Цэнтарвыбаркам не зарэгістраваў ягонай кандыдатуры, прызнаўшы сапраўднымі толькі 118 подпісаў, сабраных за яго вылучэньне.

**29.04.2011** Ад 40 да 50 аўтааматараў зь Віцебску 28 красавіка ўзялі ўдзел у агульнарэспубліканскай акцыі «Стоп-бэнзін» супраць падвышэньня цэнаў на паліва. Аўтамабілісты зладзілі чаргу на адной з заправак, пазалівалі ў бакі па паўтара літры бэнзіну і, разьлічыўшыся дробнымі купюрамі, рушылі ў цэнтар гораду з уключанымі аварыйнымі агнямі. Аднак з-за ўмяшаньня міліцыянтаў удзельнікам акцыі не ўдалося прыцягнуць увагі іншых аўтамабілістаў. На трасе Р21, дзе актывісты зрабілі чаргу, быў выстаўлены пост ДАІ, і інспэктары выпускалі машыны ў горад невялічкімі партыямі – па 7-10 аўтамабіляў. Далей, на працягу ўсяго маршруту, на кожным скрыжаваньні таксама стаялі інспэктары. Яны выхоплівалі з шэрагу ўдзельнікаў аўтамабілі, быццам бы дзеля праверкі. У выніку, праз цэнтар гораду рухаліся ўжо групкі па 3-5 машынаў, якія, нягледзячы на налепкі акцыі і аварыйныя агні, асаблівай увагі прыцягнуць не маглі.

Большасьць уладальнікаў аўтамабіляў пасьля праверак адпускалі, але адзін аўтамабіліст быў аштрафаваны, нібыта за размову па сотавым падчас руху, хаця, паводле ягоных словаў, ён нават не трымаў слухаўку ў руках. Абураныя гэткім абыходжаньнем віцебскія аўтааматары паабяцалі зладзіць новую акцыю – пад назовам «Стоп-ДАІ».

**16.06.2011 Уладзімер Рамановіч** – арганізатар шматлікіх акцыяў за стварэньне ў Віцебску інфраструктуры для ўладальнікаў ровараў – роварных дарожак і парковак. Днямі да яго зьвярнуўся ўладальнік памяшканьня, якое актывіст арандуе пад адзіны ў абласным цэнтры хостэл – гатэль «Джаз». Патрабаваньне было ўльтыматыўным: вызваліць памяшканьне на працягу 10 дзён.

Уладзімер Рамановіч – **сябра аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя»**. У хостэл да яго завітвалі Павал Севярынец і Віталь Рымашэўскі. На мінулых прэзыдэнцкіх выбарах ён быў назіральнікам, а раней і сам балятаваўся ў мясцовыя саветы. Апошнім часам У. Рамановіч распачаў змаганьне за стварэньне ў горадзе інфраструктуры для ўладальнікаў ровараў. Першая ж з арганізаваных ім акцыяў – сымбалічны прабег па Віцебску – была разагнаная супрацоўнікамі ДАІ.

**14.07.2011** У Кастрычніцкім райсудзе Віцебску судзьдзя Алеся Жарыкава разьбірала адміністрацыйную справу былога **прэтэндэнта на ўдзел у прэзыдэнцкіх выбарах прадпрымальніка Уладзімера Правальскага**. У судзе ён заявіў, што пратаколы складзеныя з парушэньнямі заканадаўства, і запатрабаваў скасаваць судовую справу. На ягонае зьдзіўленьне, судзьдзя так і зрабіла — справа супраць Уладзімера Правальскага скасаваная на падставе неадпаведнасьці міліцэйскіх пратаколаў.

**11.08.2011** Старшыні трыццаці віцебскіх таварыстваў уласьнікаў накіравалі калектыўны зварот міністру ЖКГ, старшыням абл- і гарвыканкамаў, кіраўніцтву Дзяржкантролю і фінаддзелу Віцебскага гарвыканкаму. Яны просяць разабрацца ў сытуацыі, якая склалася з атрыманьнем бюджэтных асыгнаваньняў за першае паўгодзьдзе і ўзяць удзел у вырашэньні пытаньня па пакрыцьці страт за жыльлёва-камунальныя паслугі на 2011 г.

Гарадзкі фінаддзел у чатыры разы скараціў памер кампэнсацыі на камунальныя выдаткі. Паводле закону, дзяржава часткова кампэнсуе выдаткі на тэхнічнае абслугоўваньне тэрыторыі жылых дамоў, у тым ліку і тых, што не абслугоўваюцца арганізацыямі жыльлёва-камунальнай гаспадаркі. Да такіх адносяцца і таварыствы ўласьнікаў.

Таварыства ўласьнікаў — некамэрцыйная арганізацыя, якая аб’ядноўвае ўласьнікаў памяшканьняў у шматкватэрным жылым доме. Ствараецца з мэтай сумеснага кіраваньня жылым комплексам, забесьпячэньня яго эксплюатацыі. Перавага падобных арганізацыяў у тым, што ўдзельнікі таварыстваў самастойна фармуюць супольны бюджэт на рамонт дома і ўтрыманьне прылеглай тэрыторыі. У новабудоўлях стварэньне таварыстваў уласьнікаў абавязковае для забудоўніка. Іх жыхары — такія ж карыстальнікі камуналкі, як і тыя, хто жыве ў дамох даўнейшага часу пабудовы і абслугоўваецца ў ЖЭСе.

**20.08.2011** Намесьнік пракурора Віцебскай вобласьці спадар Шалухін адмовіўся выдаць кладаўшчыцам ААТ «Віцебскмясамалпрам» копію пастановы дэпартамэнту дзяржаўнай інспэкцыі працы аб прыцягненьні да адміністрацыйнай адказнасьці прадстаўніка працадаўцы за парушэньне правілаў аховы працы. Гэты дакумэнт неабходны работніцам, каб даказаць у судзе незаконнасьць іхнага звальненьня з ініцыятывы наймальніка.

Нагадаем, кладаўшчыцы складу № 2 ААТ «Віцебскмясамалпрам» адмовіліся плаціць нястачу ў памеры амаль 90 мільёнаў рублёў, таму што іх віна не была даказаная. Па просьбе работніц дэпартамэнт дзяржаўнай інспэкцыі працы арганізаваў праверку, у выніку якой былі выяўленыя парушэньні ўмоў працы на


Валер Місьнікаў

складзе. У прыватнасьці, работніцам не выдавалася цёплая вопратка (на складзе тавар захоўваецца ў халадзільных і маразільных камэрах, і кладаўшчыцы мусілі працаваць пры нізкіх тэмпэратурах). Таксама супрацоўнікі дэпартамэнту палічылі парушэньнем дрэннае асьвятленьне складу. За гэтыя парушэньні адказная службовая асоба прадпрыемства была аштрафаваная.

На падставе вынікаў праверкі работніцы мелі права скасаваць кантракт, бо наймальнікам былі парушаныя яго ўмовы. Але дырэктар спачатку выдаў загад аб звальненьні кладаўшчыц па пагадненьні бакоў, а калі работніцы адмовіліся ад гэткай фармулёўкі, адну звольніў зь недаверу, а другую – за сыстэматычнае невыкананьне абавязкаў.

Работніцы і **юрыст Валер Місьнікаў**, які абараняе іхныя інтарэсы, упэўненыя, што рэальная прычына звальненьня заключаецца ў тым, што работніцы адмовіліся кампэнсаваць нястачу і запатрабавалі знайсьці сапраўдных вінаватых. Кладаўшчыцы праз суд дамагаюцца прызнаньня звальненьня незаконным. Для гэтага ім неабходныя былі копіі вынікаў праверкі дэпартамэнту інспэкцыі працы, якія даказваюць наяўнасьць парушэньняў з боку працадаўцы.

**16.09.2011** Працаўнікі віцебскага прадпрыемства «Кухня майстра» 16 верасьня адмовіліся працаваць, бо своечасова не атрымалі заробкаў.

У мінулым месяцы працаўнікі атрымалі ў сярэднім усяго каля 500 тысяч рублёў. Ці зараз падвысілі ім заробкі, рабочыя ня ведаюць. У адміністрацыі «Кухні майстра» не пацьвердзілі факту стыхійнага страйку на прадпрыемстве і паведамілі, што ўсе заробкі сёньня выплацяць. Прадпрыемства «Кухня майстра» займаецца вытворчасьцю пяльменяў, варэнікаў ды іншых паўфабрыкатаў хуткай замарозкі. Працуе з 2004 году ў складзе СЭЗ «Віцебск».

**18.01.2012** Намесьніца начальніка інспэкцыі па падатках і зборах па Першамайскім раёне гораду Віцебску Ірына Бедункевіч «павіншавала» **дырэктара «Выдавецкага дому “Зубр”» Віктара Рамнёва** са Старым Новым годам папярэджаньнем аб падачы дэклярацыі аб прыбытках і маёмасьці за 2004-2011 гг. Такое патрабаваньне падатковай выглядае абсурдным, бо да сярэдзіны 2006 году Віктар зьяўляўся навучэнцам сярэдняй школы № 37 г. Віцебску.

Выдаўцы «Віцебскага кур’еру» зьвязваюць такую пільную ўвагу падаткавікоў з кампаніяй ціску на газэту: на мінулым тыдні міліцыя затрымала наклад (10 тыс. асобнікаў) першага пасьлянавагодняга нумару «Віцебскага кур’еру» і двойчы спыняла машыну рэдактара газэты Алега Баршчэўскага для стараннага надгляду.


Ірына Яскевіч

**09.05.2012** Падаткавікі патрабуюць ад віцебскай прадпрымальніцы дэкларацыю за 10 гадоў. 7 траўня **прадпрымальніца Ірына Яскевіч** наведала інспэкцыю па падатках і зборах Першамайскага раёну Віцебску. Падаткавікі патрабуюць ад яе дэкларацыю аб даходах за апошнія 10 гадоў. Такое самае патрабаваньне супрацоўнікі падатковай інспэкцыі выставілі і сыну прадпрымальніцы.

Ірына Яскевіч шмат гадоў актыўна займаецца грамадзка-палітычнай дзейнасьцю. Зьяўляецца **сябрам Аб'яднанай грамадзянскай партыі**. У 2008 годзе яна брала ўдзел у парлямэнцкіх выбарах. У 2009-2010 гг. узначаліла рэспубліканскі прафсаюз «Разам», які Мін'юст адмовіўся рэгістраваць. У 2011 годзе Ірына Яскевіч стала **старшынёй віцебскага абласнога аргкамітэту па правядзеньні Народных сходаў**. Як адна з арганізатарак сходу, які адбыўся 8 кастрычніка 2011 г. у Віцебску, была аштрафаваная паводле рашэньня суду на 22 базавыя велічыні.

**01.06.2012** Рабочыя заводу буйнапанэльнага домабудаўніцтва РУП «ДСК» адмаўляліся пачынаць працу з-за таго, што ім ня выплацілі заробак за красавік. Згодна са зьменамі, унесенымі ў калектыўную дамову ў мінулым годзе, на прадпрыемстве мусяць выплаціць заробак у апошні дзень месяца, а ня 25-га чысла, як было раней. Паводле словаў рабочых, гэтыя зьмены былі зробленыя бязь іх згоды. Аднак і 31 траўня заробкі на заводзе ня выплацілі.

Незадаволенасьць эканамічнымі варункамі насьпявала ў працоўным калектыве прадпрыемства даўно. Здараліся прастоі, рабочыя працавалі па 10-15 дзён на месяц і, як вынік, атрымлівалі мізэрныя заробкі. Пры гэтым на заводзе нярэдка працуюць цэлыя сем'і, якім трэба плаціць крэдыты і аплачваць камунальныя паслугі з гэтай адзінай крыніцы прыбытку. Пару дзён таму БПД наведаў генэральны дырэктар РУП «ДСК», які абяцаньнямі паспрабаваў зьняць напружанасьць.

Каля 7:00 гадзін раніцы 1 чэрвеня блізу 100 рабочых сабраліся каля ўваходу ў арматурны цэх і заявілі, што не прыступяць да працы, пакуль не атрымаюць заработную плату. Спачатку зь імі сустрэўся намесьнік генэральнага дырэктара па прамысловай вытворчасьці Мікалай Мачыха, а пазьней пад'ехаў намесьнік генэральнага дырэктара па эканамічнай дзейнасьці Аляксей Гапоненка.

Залагодзіць канфлікт удалося толькі цьвёрдым абяцаньнем выплаціць заробкі ў гэты ж дзень.

**14.06.2012** Улады Віцебску распачынаюць масаваную атаку нелегальнага вулічнага гандлю. Неабходнасьць шырокай прапагандысцкай кампаніі абмяркоўвалася 13 чэрвеня падчас круглага стала ў Віцебскім гарвыканкаме. Намесьніца старшыні гарвыканкаму Зінаіда Каралёва адзначыла, што, нягледзячы на

захады, што робяцца падатковымі інспэкцыямі, органамі ўнутраных спраў, несанкцыянаваны гандаль застаецца балючай гарадзкой праблемай.

У цэлым у горадзе дзейнічае 13 уладкаваных гандлёвых пляцовак для рэалізацыі лішкаў сельгаспрадукцыі. Апроч таго, адмысловыя месцы адведзеныя на рынках. Так, толькі на полацкім калгасным рынку такіх кропак створана 150. Нягледзячы на нізкую арэндную плату, якая вагаецца ў залежнасці ад займаемай плошчы і асартымэнту ад Br1 тыс. да Br5 тыс., значная частка іх пустуе.

Паводле дадзеных намесьніка начальніка міліцыі грамадзкай бясьпекі УУС Віцебскага аблвыканкаму Ігара Скарыновіча, з пачатку году ў абласным цэнтры складзена 40 адміністрацыйных пратаколаў за несанкцыянаваны гандаль, прычым 20 зь іх – у траўні. Падатковыя органы таксама не застаюцца ў баку ад барацьбы з парушальнікамі. Паводле словаў намесьніка начальніка інспэкцыі МПЗ Віцебскай вобласьці Валерыя Лабацэвіча, толькі з пачатку году ў Віцебску ў нелегалаў было канфіскавана тавараў на Br270 млн. Акрамя таго, падатковыя інспэктары перадаюць матэрыялы для далейшага расьсьледаваньня ў органы фінансавай міліцыі.

Разам з тым захады, якія робяцца, застаюцца малаэфэктыўнымі. У сувязі з гэтым гарвыканкам мае намер абвясьціць у горадзе месячнік па процідзеяньні вулічнаму гандлю. Пры гэтым націск будзе зроблены на прафіляктычную і тлумачальную працу, у першую чаргу сярод пакупнікоў. Аўдыёролікі пра небясьпеку набыцьця тавараў у нелегалаў будуць трансьлявацца ў транспарце. У месцах стыхійных рынкаў падатковыя органы і праваахоўнікі маюць намер распаўсюджваць улёткі з інфармацыяй пра адказнасьць за парушэньне правілаў гандлю, а таксама пра тое, як легалізаваць свой бізнэс. На калгасных рынках мяркуецца адкрыцьцё сацыяльных месцаў, арэндная плата за якія спаганяцца ня будзе.

## Ціск на журналістаў


Уладзіслаў Стараверaў

**25.03.2011 Таццяна Севярынец** была затрыманая нібыта «па падазрэньні ў сэрыі кватэрных крадзяжоў», **незалежны журналіст Ўладзіслаў Стараверaў** — па падазрэньні ў пэдафіліі.

Спадарыня Таццяна кіравалася на ўскладаньне кветак, якое віцебскія актывісты ладзілі каля мэмарыяльнай дошкі ў гонар Васіля Быкава, і да помніку Ўладзімеру Караткевічу. У Першамайскім РАУС у яе знайшлі і забралі бел-чырвона-белы сьцяг, які яна зьбіралася разгарнуць падчас акцыі.

Журналісту Ўладзіславу Старавераву не дазволілі здымаць на відэа пачатак акцыі на плошчы Свабоды: як толькі ён дастаў камэру, да яго падскочылі два чалавекі ў цывільным, заламалі рукі і павалаклі па асфальце. Некалькі дзясяткаў мінакоў спыніліся, убачыўшы такое брутальнае затрыманьне, некаторыя нават пачалі выклікаць міліцыю. Але двое ў цывільным самі назваліся міліцыянтамі, і неўзабаве на службовай машыне журналіста павезьлі ў Кастрычніцкі РАУС.

У міліцыі пачатку заявілі, што ва Ўладзіслава Стараверава скрадзеная відэакамэра, а потым — што ён падобны да маньяка-пэдафіла, які абвешчаны ў вышук.

Роўна праз тры гадзіны ўсе падазрэньні на адрас затрыманых зьніклі. За гэты час група жыхароў Віцебску — прыблізна трыццаць чалавек — ушанавалі памяць Васіля Быкава і Ўладзімера Караткевіча. Гэта адбывалася пад наглядам міліцыянтаў у форме і ў цывільным ды хлопцаў ў чорных шапачках з рацыямі ў вуху. Гэткіх «назіральнікаў» было хіба толькі напалову меней, чым удзельнікаў.

**27.04.2011** У судзе Кастрычніцкага раёну Віцебску распачаўся судовы працэс над **журналістам Уладзіславам Стараверавым**. Яго абвінавачваюць у нецэнзурнай лаянцы і непадпарадкаваньні супрацоўнікам міліцыі. Віцебскага журналіста затрымалі падчас прысьвечанай памяці ахвяраў аварыі на ЧАЭС жалобнай акцыі, дзе ён выконваў свае журналісцкія абавязкі, рабіў фотаздымкі. Пры затрыманьні міліцыянты моцна зьбілі хлопца, зламалі ягоны здымач. Ноч ён правёў у ізалятары часовага ўтрыманьня.

Уладзіслаў Стараверaў зьвярнуўся да судзьдзі з хадайніцтвамі, каб яму далі час знайсьці адваката ды наведаць мэдычныя ўстановы. Ён зьбіраецца засьведчыць цялесныя пашкоджаньні, нанесеныя міліцыянтамі, і схадзіць да кардыёляга, бо мінулай ноччу ў ізалятар часовага ўтрыманьня яму выклікалі хуткую дапамогу. Хлопцу было дрэнна з сэрцам, і ня толькі з прычыны ўчорашніх падзеяў: некалькі дзён таму ён пахаваў маці. Суд над Уладзіславам Стараверавым будзе працягнуты 10 траўня.

**11.05.2011** Віцебскі **журналіст Уладзіслаў Стараверaў**, па справе якога мусіў адна-


Сяргей Серабро

віцца судовы працэс, зьнячэўку зьехаў з краіны. Нягледзячы на адсутнасьць падсуднага, суд аштрафаваў яго, нібыта за лаянку ў грамадзкім месцы, на 25 базавых велічынь – 875 тысяч рублёў. Як сведчаць відавочцы судзілішча, судзьдзя пры прыняцьці рашэньня і не спрабавала зрабіць бачнасьць справядлівага прысуду – перад вынясеньнем судовай пастановы яна нават ня выйшла з судовай залі. Такім чынам, зразумела: рашэньне было вызначанае загадзя.

Справа Стараверава разьбіралася судом Кастрычніцкага раёну на падставе пратаколу, што склалі міліцыянты, затрымаўшы яго 26 красавіка. Тады журналіст выконваў свае прафэсійныя абавязкі, робячы фотаздымкі з жалобнай акцыі, прымеркаванай да ўгодкаў чарнобыльскай трагедыі.

**19.05.2011** Некалькі чалавек былі выкліканыя на допыт у Глыбоцкі аддзел Дэпартаменту фінансавых расьсьледаваньняў. Супрацоўнікі аддзелу цікавяцца, ці замаўлялі гэтыя людзі кнігі праз Інтэрнэт. За апошні час у аддзеле былі дапытаныя настаўнік з Глыбокага і сьвятар з Браслаўшчыны. 16 траўня на допыт быў выкліканы **журналіст «Вестак» Кастусь Шыталь**. Супрацоўнік аддзелу пытаўся ў журналіста, ці ведае ён прозвішча Яўдаха, ці атрымліваў поштай пасылкі з кнігамі і ці замаўляў кнігі праз сайт knihi.net.

**15.06.2011** Увечары сайт «За правы чалавека» падвергнуўся DDoS-атацы. У выніку цягам блізу гадзіны наведвальнікі мелі цяжкасьці пры заходзе на сайт. Пазьней праца сайту была адноўленая ў поўным аб’ёме. Пасьля атакі адміністратары інфармацыйнага рэсурсу зрабілі шэраг захадаў па бясьпецы: у прыватнасьці, абмежавалі наведвальнікам магчымасьць пакідаць камэнтары да апублікаваных артыкулаў.

**18.06.2011 Рэдактара незалежнага сайту «Народныя Навіны Віцебска» Сяргея Серабро** дапыталі ў абласной пракуратуры наконт звароту **Сяргея Рыжова**, які зьявіўся на віцебскім «Вольным форуме вольнага гораду». Спадар Серабро зьяўляецца заснавальнікам форуму, на якім 15 чэрвеня былы прэтэндэнт на ўдзел у прэзыдэнцкіх выбарах Сяргей Рыжоў разьмясьціў заклік да бестэрміновага агульнанацыянальнага страйку.

Супрацоўніца абласной пракуратуры Алена Казлова запісала паказаньні Сяргея Серабро, які нават ня ведаў пра ўчорашні допіс Сяргея Рыжова. Спадар Серабро патлумачыў, што Рыжоў — шараговы карыстальнік форуму, адмыслова створанага для таго, каб кожны ахвотны мог разьмясьціць на ім нейкую тэму для грамадзкага абмеркаваньня. У пракуратуры запыталіся, ці можа Сяргей Серабро выдаліць паведамленьне пра страйк, але загаду ці парады зрабіць гэта не было.


Кастусь Шыталь

**23.06.2011** У **Любові Сенчанкі** забралі 131 асобнік газэты і склалі на дзяўчыну пратакол паводле ч. 2 арт. 22.9 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях. У складзеным на Л. Сенчанку пратаколе напісана, што яна «распаўсюджвала замежнае выданьне «Бібліятэка «Наш дом-інфо» без дазволу рэспубліканскага воргану дзяржаўнага кіраваньня ў сфэры сродкаў масавай інфармацыі».

**28.06.2011** Папулярны расейскі тэлеканал ТНТ з 27 чэрвеня не трансьлюецца ў Віцебску па сетцы кабельнага тэлебачаньня. Паведамленьне аб адключэньні тэлеканала зьявілася на адным зь віцебскіх форумаў. Апэратар кабельнага тэлебачаньня «Гарант» на сваім інфармацыйным канале бягучым радком паведамляе: «У сувязі з заканчэньнем дзеяньня дамовы з 27 чэрвеня замест канала “ТНТ” уключаецца канал “Дом кіно”».

Яшчэ 17 чэрвеня ў Наваполацку камунальнае ўнітарнае прадпрыемства «Наваполацкае кабельнае тэлебачаньне “Вектар”» спыніла трансьляцыю ТНТ, а ў Менску гэты тэлеканал недаступны ўжо з 1 чэрвеня.

**26.08.2011** У цэнтры Глыбокага супрацоўнікі міліцыі затрымалі **карэспандэнта інтэрнэт-выданьня «Весткі» Кастуся Шыталя**. Журналіста схапілі пасьля таго, як ён сфатаграфаваў запэцканы невядомымі асобамі будынак райвыканкаму. Перад тым двое супрацоўнікаў Глыбоцкага РАУС мелі размову з журналістам і настойліва раілі яму не распаўсюджваць інфармацыю пра здарэньне.

Двое міліцыянтаў у цывільным дагналі Шыталя на машыне, калі ён ехаў на ровары па вуліцы Энгельса. Яны перадалі хлопца супрацоўнікам у форме, якія завезьлі яго ў РАУС. У міліцыі ў журналіста ўзялі адбіткі пальцаў і запісалі тлумачэньні пра тое, што ён рабіў у тыя ночы, калі быў запэцканы фарбай будынак райвыканкаму. Таксама міліцыянты перапісалі частку нумароў з мабільнага тэлефона журналіста і выдалілі з фотаапарата некаторыя здымкі.

Кастуся Шыталя адпусьцілі зь міліцыі праз дзьве гадзіны пасьля затрыманьня. Журналіст не выключае, што ў далейшым на яго можа аказвацца ціск з боку супрацоўнікаў міліцыі.

**08.09.2011** Крызіс у Беларусі нэгатыўна адбіўся на дзейнасьці ня толькі друкаваных мэдыяў. Пачалі зачыняцца і інтэрнэт-выданьні. Так, нядаўна прыпыніў сваю працу адзін з папулярных віцебскіх інфармацыйных сайтаў – «Новости Витебска» (news-vitebsk.ru). Як паведамляецца на сайце, дзейнасьць праекту замарожаная «ў сувязі са складанай эканамічнай і палітычнай сытуацыяй у краіне». Цяпер сайт не абнаўляецца і не рэдагуецца.

## Перашкоды дзейнасьці праваабаронцаў


Леанід Сьвецік

**20.04.2011 Прадстаўнік Беларускага Хэльсынскага Камітэту зь Віцебску Павал Левінаў**, пакараны адміністрацыйным арыштам тэрмінам на 10 сутак, аб'явіў галадоўку. Павал Левінаў 20 красавіка судом Фрунзэнскага раёну Менску быў прызнаны вінаватым паводле арт. 17.1 КаАП (дробнае хуліганства). Сам актывіст сваёй віны не прызнае. Ён абвінавачвае міліцыянта Фрунзэнскага РУУС у фальшаваньні пратаколаў затрыманьня. На судовым паседжаньні П. Левінаў паведаміў пра факты грубага абыходжаньня зь ім з боку міліцыянтаў: пры затрыманьні яго паваліілі тварам на стол, заламалі рукі, надзелі кайданкі, зьдзекаваліся. Таксама праваабаронца паведаміў пра тое, што былі парушаныя ягоныя правы: у судзе яму адмовілі ў праве на абарону.

**19.08.2011 Праваабаронца Леанід Сьвецік**, які падаваў заяўку на правядзеньне пікету ў Віцебску, атрымаў адмоўны адказ ад Адміністрацыі Чыгуначнага раёну. Пікет плянавалася зладзіць 22 жніўня ў месцы, афіцыйна прызначаным уладамі для правядзеньня масавых мерапрыемстваў, – у Парку культуры і адпачынку Чыгуначнікаў. Мэтай меркаванага пікету было прыцягненьне ўвагі грамадзкасьці да надзённых праблемаў, што існуюць у галіне забесьпячэньня правоў чалавека ў краіне. Арганізатары мерапрыемства таксама спадзяваліся празь пікет інфармаваць шырокія колы грамадзян пра затрыманьне і зьмяшчэньне пад варту кіраўніка праваабарончага цэнтру «Вясна» Алеся Бяляцкага.

Фармальнай нагодай для забароны пікетаваньня з боку ўладаў сталася невыкананьне заяўнікамі палажэньняў рашэньня Віцебскага гарвыканкаму № 881 ад 10 ліпеня 2009 году. Згодна з гэтым рашэньнем для атрыманьня дазволу на правядзеньне масавага мерапрыемства арганізатары мусяць папярэдне заключыць дамовы зь міліцыяй, мэдыкамі і ЖКГ і аплаціць іхныя паслугі, зьвязаныя з абслугоўваньнем мерапрыемства.

У Віцебску сталася ўжо звычайнай практыкай, што ўлады забараняюць праводзіць рознага кшталту мерапрыемствы, якія ім не да спадобы, спасылаючыся менавіта на згаданае вышэй рашэньне № 881. Аднак, як сьведчаць актывісты, выканаць умовы, выкладзеныя ў рашэньні гарвыканкаму, часьцяком бывае папросту немагчыма. Бо атрымліваецца замкнёнае кола: службы, зь якімі трэба заключыць дамовы, як правіла, адмаўляюцца рабіць гэта, пакуль ня будзе атрыманы дазвол на правядзеньне мерапрыемства ад уладаў; улады ж, у сваю чаргу, не даюць дазволу без заключаных дамоваў.



Аляксандар Мікулін

**30.08.2011** Віцебскі **праваабаронца Павал Левінаў** падаў скаргу ў Менскую гарадзкую пракуратуру, каб адмяніць пастанову ўпраўленьня дэпартамэнту фінансавых расьследаваньняў Камітэту дзяржкантролю ў Менскай вобласьці і Менску, якое не задаволіла ягонае хадайніцтва аб вызваленьні **Алеся Бяляцкага** пад асабістую заруку.

Пастанову сьледчай аддзелу папярэдняга расьследаваньня УДФР Тацьцяны Касынкінай спадар Левінаў лічыць незаконнай і неабгрунтаванай. Ён кажа, што ў адмове не тлумачыцца, на якой канкрэтна падставе нельга зьмяніць меру стрыманьня для зьняволенага праваабаронцы.

Зьвяртаючыся ў Менскую пракуратуру, віцебскі праваабаронца падкрэсьлівае, што гатовы несьці матэрыяльную адказнасьць, калі Бяляцкі парушыць правілы зарукі.

**07.10.2011** Чыгуначны райсуд Віцебску адмовіў **праваабаронцу Леаніду Сьвеціку** ў задавальненьні ягонай скаргі. Спадар Сьвецік вымушаны быў зьвярнуцца ў суд пасьля таго, як галава адміністрацыі Чыгуначнага раёну Юры Маскалёў сваім рашэньнем забараніў яму правесьці пікет, заплянаваны на 22 жніўня. Судзьдзя Раман Дзягода палічыў аргумэнты праваабаронцы «неабгрунтаванымі» і не задаволіў ніводнага з патрабаваньняў, заяўленых пазоўнікам.

Праваабаронца прасіў суд адмяніць рашэньне аб забароне пікету. Таксама ён прасіў абавязаць гарадзкія ўлады ўнесьці зьмены ў рашэньне № 881, каб актывісты мелі магчымасьць у поўнай меры карыстацца гарантаванымі Канстытуцыяй правамі на выказваньне сваёй думкі, распаўсюд і атрыманьне інфармацыі.

**08.12.2011** Пікет, прымеркаваны да ўгодкаў Усеагульнай Дэклярацыі правоў чалавека, мусіў адбыцца 10 сьнежня. Заяўку на правядзеньне імпрэзы падаваў **Леанід Сьвецік**. У сваёй заяўцы ён адмыслова пазначыў, якія меры па забесьпячэньні грамадзкага парадку і бясьпекі, мэдычнага абслугоўваньня і прыбіраньня тэрыторыі будуць прынятыя. Нягледзячы на гэта, кіраўнік адміністрацыі Чыгуначнага раёну Віцебску Юры Панфілаў пікет забараніў.

Прычына забароны стандартная: на думку чыноўніка, арганізатары пікетаваньня ня выканалі патрабаваньне рашэньня гарвыканкаму, згодна зь якім у выпадку, калі мерапрыемства праводзіцца без удзелу дзяржавы, да заяўкі на яго трэба прыкласьці дамовы зь міліцыяй, мэдыкамі і ЖКГ.

**08.01.2012 Праваабаронца Аляксандар Мікулін** заявіў, што атрыманьне зьвестак Нацыянальнага цэнтру прававой інфармацыі – платнае. І гэта, на ягоную думку, супярэчыць гарантаванаму артыкулам 7 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь




прынцыпу «вяршэнства права» і задэкляраваных артыкулам 34 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь правоў грамадзян «на атрыманьне, захоўваньне і распаўсюд поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі аб дзейнасьці дзяржаўных органаў, грамадзкіх аб'яднаньняў».

«Доступ да прававога сэрвэра платны і каштуе ў суткі 3 500 рублёў, за паўгодзьдзе – 200 тысяч рублёў. Такім чынам, тое, што лічылася публічнай інфармацыяй, атрыманьне якой канстытуцыйна гарантавалася грамадзянам Рэспублікі Беларусь (у тым ліку свабодны доступ да інтэрнэт-рэсурсаў) – зараз ужо недаступна!» — гаворыць **прадстаўнік арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву»** спадар Мікулін. Ён лічыць, што НЦПІ аказвае платныя паслугі насельніцтву незаконна, і хоча дамагчыся адмены такога кшталту дзейнасьці.

**28.02.2012** Па выніках працэсу над Сяргеем Каваленкам віцебскі **праваабаронца Павал Левінаў** накіраваў ва ўпраўленьне сьледчага камітэту па Віцебскай вобласьці 4 скаргі на дзеяньні судзьдзі Першамайскага суду Алены Жук, старшыні суду Ўладзімера Бясьсьмертнага, а таксама мэдыкаў «хуткай дапамогі». Павал Левінаў просіць узбудзіць супраць іх крымінальныя справы.

На думку праваабаронцы, старшыня суду Першамайскага раёну Віцебску Ўладзімер Бясьсьмертны і судзьдзя Алена Жук наўмысна перашкодзілі законнай дзейнасьці **праваабарончай грамадзкай арганізацыі «Беларускі Хэльсынскі Камітэт» («БХК»)**. Гэта спрычынілася да «істотных парушэньняў правоў і законных інтарэсаў грамадзкага аб'яднаньня». Такі ўчынак утварае склад крымінальна каральнага дзеяньня, адказнасьць за якое вызначаная артыкулам 194 КК РБ.

**24.03.2012 Прадстаўніку Беларускага Хэльсынскага Камітэту па Віцебскім рэгіёне Паўлу Левінаву** зь першай спробы не ўдалося азнаёміцца з матэрыяламі праверкі пракуратуры па пытаньні прымяненьня да Андрэя Саньнікава катаваньняў і парушэньня яго права на ліставаньне. Праваабаронцы БХК мелі намер высьветліць, наколькі поўна праводзілася праверка, ці дасьледаваныя ўсе абставіны, якія маюць значэньне для разгляду зваротаў.

Начальнік аддзелу па наглядзе за законнасьцю выкананьня крымінальных пакараньняў Дзьмітры Рудакоў запатрабаваў ад праваабаронцы пісьмовую заяву з просьбай аб азнаямленьні з матэрыяламі праверкі, даверанасьць на права прадстаўляць інтарэсы РПГА «БХК» і абяцаў разгледзець заяву ў вызначаны заканадаўствам тэрмін.

Аднак старэйшы пракурор арганізацыйна-кантрольнага аддзелу Віталія Журба патлумачыла, што матэрыялаў праверкі можа ня быць у пракуратуры, магчыма, яны на праверцы ў вышэйстаячай арганізацыі. Левінаў адзначыў, што ў выпадку

запатрабаваньня матэрыялаў, павінны быць запыт і суправаджальны ліст. Аднак праваабаронцу гэтых дакумэнтаў таксама не паказалі.

**26.06.2012** Віцебскі **праваабаронца Павал Левінаў** атрымаў адказы на свае заяўкі аб правядзеньні шэрагу адзіночных пікетаў, якія мусілі адбыцца 26 чэрвеня, у Міжнародны дзень барацьбы супраць катаваньняў. Адказы, падпісаныя намесьнікамі кіраўнікоў адміністрацыяў Першамайскага і Кастрычніцкага раёнаў Віцебску, традыцыйныя: у дазволе на правядзеньне пікетаў праваабаронцу адмоўлена. Гэтыя адказы – што таксама традыцыйна – Павал Левінаў мае намер абскардзіць у судзе. Што ж тычыцца адміністрацыі Чыгуначнага раёну, дык яе чыноўнікі даслалі вельмі незвычайную паперу, якая, на думку праваабаронцы, дазваляе яму з чыстым сумленьнем зладзіць пікет, бо забароны на правядзеньне пікету, фактычна, няма.

Справа ў тым, што кіраўнік адміністрацыі Чыгуначнага раёну Віцебску Юры Панфілаў і яго намесьнікі самаўхіліліся ад разгляду заявы праваабаронцы. Забарону на правядзеньне пікету наклала раённая адміністрацыя.


Народны сход у Віцебску 10.09.2011

## Грамадзкія акцыі

**10.09.2011** У большасьці гарадоў Віцебскай вобласьці дзейнічаюць аргкамітэты па падрыхтоўцы й правядзеньні сходаў. **Старшыня віцебскага абласнога аргкамітэту па правядзеньні Народных сходаў Ірына Яскевіч** аб'езьдзіла шэраг рэгіёнаў, каб асабіста паслухаць меркаваньні людзей: «Я езьдзіла ў Дзісну, Мёры, Шуміліна, Лепель, Глыбокае, каб паслухаць меркаваньні людзей — ці трэба ім гэтыя народныя сходы. У Дзісьне, Глыбокім, Мёрах і Лепелі, а таксама ў Воршы, Полацку й Наваполацку створаныя аргкамітэты.

**08.10.2011** Каля 130 чалавек сабралася ў двары па вуліцы Багдана Хмяльніцкага ў Віцебску на Народны сход. Арганізатары сходу спадзяваліся пабачыць на мерапрыемстве прадстаўнікоў улады, каб тыя адказалі на пытаньні, што маюць да іх жыхары. Дзеля гэтага за некалькі дзён да імпрэзы сябры аргкамітэту па правядзеньні Народнага сходу занесьлі ў гарвыканкам адмысловае запрашэньне. Аднак, на жаль, ніхто з чыноўнікаў так і не адважыўся зьявіцца перад грамадой.

Затое ваколіцы кішма кішэлі супрацоўнікамі сілавых структураў у цывільным. Сярод тых, хто напоўніў вуліцы каля месца правядзеньня сходу, былі заўважаныя досыць вялікія чыны зь ліку супрацоўнікаў упраўленьня ўнутраных спраў. Шматлікія апэратары ворганаў аховы правапарадку і КДБ здымалі ўсё, што адбываецца, на відэа. Аднак падчас мерапрыемства міліцыянты і невядомыя хлопцы моцнага целаскладу ў цывільным паводзіліся карэктна: людзей не чапалі – нават тады, калі натоўп некалькі разоў голасна выгукнуў «Жыве Беларусь!», якое было чуваць далёка ад месца правядзеньня сходу.

Падчас сходу людзі выказваліся пра набалелае. Нэгатыўныя наступствы эканамічнай палітыкі, якую праводзяць улады, адчуў на сабе, бадай, кожны. Таму людзі актыўна абмяркоўвалі праблемы, зь якімі яны сутыкнуліся ў цяперашніх варунках. Да ўдзельнікаў сходу прамаўлялі актывісты прафсаюзнага руху, прадпрымальнікі, рабочыя, студэнты, пэнсіянэры.

За рэзалюцыю, прынятую Народным сходам, яго ўдзельнікі прагаласавалі адзінадушна. Было прынятае рашэньне зьвярнуцца да ўладаў з патрабаваньнем спыніць шалёны рост цэнаў, праіндэксаваць заробкі і пэнсіі адпаведна інфляцыі, зьмяніць кантрактную сыстэму найму, дазволіць індывідуальным прадпрымальнікам браць на працу каго яны палічаць патрэбным, а ня толькі блізкіх сваякоў.

Аднагалосна ўдзельнікі сходу падтрымалі ўключэньне ў рэзалюцыю ня толькі эканамічных, але і палітычных патрабаваньняў: вызваленьне палітвязьняў, адстаўка ўраду. Удзельнікі акцыі таксама выказалі сваю салідарнасьць з актывістамі з розных рэгіёнаў Беларусі, арыштаванымі ў гэты дзень, і запатра-




бавалі неадкладна адпусьціць іх.

Найбліжэйшымі днямі рэзалюцыя з патрабаваньнямі Народнага сходу будзе перададзеная ўладам. Ад імя грамады сход упаўнаважыў дамагацца ад уладаў выкананьня народных патрабаваньняў **Ірыну Яскевіч**, **Тацьцяну Севярынец**, **Валера Спаткая**.

**18.10.2011** У Віцебску прайшоў антырасісцкі турнір па мініфутболе сярод аматарскіх камандаў зь Віцебскай вобласьці. Сабраліся каманды з такіх гарадоў як Ворша, Віцебск, Наваполацак. Усяго ў турніры ўзяло ўдзел 5 камандаў. Такая ініцыятыва праходзіла ў Віцебску ўпершыню.

Мэтай мерапрыемства было аб'яднаць і пасябраваць людзей з розных гарадоў, а таксама прапаганда антырасізму, антыфашызму і здаровага ладу жыцьця. Першае і трэцяе месца занялі каманды зь Віцебску, другое месца дасталася хлопцам з Воршы.

**19.10.2011** Бел-чырвона-белы сьцяг і цыдулка з подпісам Мірона зьявіліся ў Віцебску ўвечары на лініі электраперадач у раёне вуліцы Церашковай. Віцебскі дэмакратычны актывіст **Барыс Хамайда** спасылаецца на вартыя даверу крыніцы і цытуе допіс легендарнага Мірона.

**22.10.2011** Дэмакратычныя актывісты Віцебску далучыліся да акцыі салідарнасьці з палітвязьнямі, што адбылася 21 кастрычніка ў розных рэгіёнах краіны. Некалькі чалавек выйшлі да гандлёвага дому «Беларусь» з партрэтамі асуджаных за «Плошчу». Сярод тых, хто ўзяў удзел у акцыі – **Уладзіслаў Варанецкі**, кіраўнік мясцовага штабу кандыдата ў прэзыдэнты Андрэя Саньнікава.

Па заканчэньні мерапрыемства плякаты з выявамі палітзьняволеных і заклікам «Свабоду палітвязьням!» былі расклееныя ля ўваходу ў гандлёвы цэнтар. Акцыя ў Віцебску прайшла без затрыманьняў.

**12.11.2011** 12 лістапада ў Віцебску прайшоў чарговы Народны сход. Гэтым разам на мерапрыемства сабралася толькі 12 чалавек. Прысутныя патлумачылі такую невялікую, у параўнаньні зь мінулым сходам, колькасьць удзельнікаў тым, што напярэдадні «добра» папрацавалі супрацоўнікі праваахоўных органаў: многіх людзей папросту запужалі.

Удзельнікі Народнага сходу мяркуюць і надалей змагацца за свае правы. Было абвешчана пра наступны сход, які вырашылі правесьці 10 сьнежня. Чарговы сход мусіць адбыцца ў той самы час і на тым самым месцы – пачатак а 13-й гадзіне, збор у двары дамоў 2 і 4 па вуліцы Багдана Хмяльніцкага.

**14.11.2011** У цэнтры Віцебску актывісты «Эўрапейскай Беларусі» вывесілі расьцяжку з патрабаваньнем вызваліць палітвязьняў. Актывісты таксама правялі акцыю «Стужка свабоды». Ва ўсіх раёнах гораду былі завязаныя сінія стужачкі як знакі свабоды і «Эўрапейскай Беларусі».

**21.11.2011** Актывісты «Эўрапейскай Беларусі» вывесілі расьцяжку з партрэтамі палітзьняволеных у самым цэнтры Віцебску – насупраць Летняга амфітэатру, каля гандлёва-дзелавога цэнтру «Марка-сіці». На расьцяжцы – партрэты кандыдатаў на прэзыдэнта Андрэя Саньнікава і Міколы Статкевіча, чальца каманды Саньнікава Дзьмітрыя Бандарэнкі, кіраўніка Маладога фронту Зьмітра Дашкевіча. Расьцяжка правісела амаль гадзіну.

**25.11.2011** Віцебскія актывісты «Эўрапейскай Беларусі» расклеілі некалькі дзясяткаў партрэтаў палітвязьня ў ваколіцах калёніі, дзе знаходзіцца зьняволены палітык. Плякаты з партрэтам і подпісам «Андрэй Саньнікаў — наш прэзыдэнт!» былі вывешаныя на дрэвах каля калёніі. А таксама ўздоўж шашы, якая праходзіць каля пасёлку Віцьба, — каб іх бачылі аўтамабілісты. І на аўтобусных прыпынках — да ўвагі тых, хто чакае грамадзкага транспарту.

**26.11.2011** Праект «ГейБеларусь» ладзіў сустрэчу ў Віцебску. У праграме быў паказ дакумэнтальнага фільму пра беларуска-расейскі ЛГБТ-рух у 2009-2010 гадох «Юры» і новы дакумэнтальны фільм пра італьянскі ЛГБТ-рух у 1971-2011 гады «Fuori!». Таксама ў гэты дзень у Віцебску былі праведзеныя мерапрыемствы ў межах маніторынгу дыскрымінацыі ЛГБТ і гамафобнага стаўленьня.

Зь Менску адмыслова завіталі кіраўнікі арганізацыі **Сяргей Андросенка** і **Натальля Манькоўская**. Таксама ў Віцебск выказалі жаданьне прыехаць іншыя ЛГБТ-актывісты зь Берасьця, Менску і Жодзіна.

**26.11.2011** У Віцебску на электрычных дратах над вуліцай Зеленагурскай увечары 25 лістапада залунаў бел-чырвона-белы сьцяг. Мінакі разглядалі нацыянальны сымбаль. А да яго, як стала вядома з надзейных крыніцаў віцебскаму апазыцыянэру **Барысу Хамайду**, была прычэплена цыдулка з патрыятычным лёзунгам.

**03.12.2011** Над галоўным корпусам Віцебскага дзяржаўнага тэхналягічнага ўнівэрсытэту залунаў нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг, паведамляюць «Народныя навіны Віцебску».

**19.12.2011** 19 сьнежня а 19-й гадзіне актывісты кампаніі «Гавары праўду» правялі пяць акцыяў у Віцебску ў падтрымку палітвязьняў Беларусі. У розных месцах гораду, у асноўным каля цэркваў і касьцёлу, былі запаленыя лямпадкі, якія сымбалізуюць перамогу сьвятла над цемрай. Людзі, якія бачылі запаленыя лямпадкі, цікавіліся тым, што адбываецца. Актывісты кампаніі тлумачылі, што гэта акцыя ў падтрымку тых, хто зараз у турмах пакутуе за ўвесь беларускі народ, і што мінуў ужо цэлы год з тых часоў, як улады грубаназьдзекаваліся зь беларусаў, зь іх права вольнага выбару.

Некалькі мінакоў далучаліся да актывістаў. Пасьля гэтага людзі, якія знаходзіліся ля цэркваў, разам з актывістамі кампаніі заходзілі ў храмы і ставілі сьвечкі за здароўе палітвязьняў. Ніякіх эксцэсаў з прадстаўнікамі сілавых структураў не адбылося, затрыманьняў не было.




**24.12.2011** Віцебскі апазыцыянэр **Барыс Хамайда** распаўсюджвае незалежную прэсу ў цэнтры гораду і прыцягвае ўвагу мінакоў незвычайным выглядам. Ён апрануў капялюш Санта-Клаўса і зрабіў сабе «дзед-марозаўскі» кій з прымацаванай да яго шыльдачкай «Зычу пераменаў!»

**12.01.2012** Віцебскімі актывістамі грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» разам з праваабаронцамі была праведзеная акцыя салідарнасьці з палітвязьнямі: Мікалаем Статкевічам і Андрэем Саньнікавым.

Больш за 200 інфармацыйных улётак, якія нагадваюць пра лёс нявінна асуджаных, былі расклееныя на пад’ездах жылых дамоў, каля буйных гандлёвых цэнтраў і нават на дзьвярох грамадзкага пункту аховы парадку. Удзельнікі акцыі, вырашылі падобныя мерапрыемствы ладзіць ў горадзе да таго часу, пакуль усе палітвязьні ў Беларусі ня выйдуць на волю.

**05.02.2012** Прадстаўнікі грамадзкіх ініцыятываў і палітычных партыяў Віцебску выступілі з заявай у сувязі з узбуджэньнем крымінальнай справы ў дачыненьні да **Сяргея Каваленкі**, які больш за 40 дзён трывае галадоўку ў віцебскім СІЗА. Заяву падпісалі прадстаўнікі мясцовых аддзяленьняў партыі БНФ, руху «За свабоду», БХД, «Эўрапейскай Беларусі», Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная грамада», кампаніяў «Народны сход» і «Гавары праўду», а таксама ПЦ «Вясна».

Аўтары заявы палічылі перасьлед Сяргея Каваленкі палітычна матываваным і патрабуюць неадкладна вызваліць яго з-пад варты. «Просім падтрымаць Сяргея Каваленку падчас суду. Сёньня судзяць Сяргея Каваленку – заўтра будуць судзіць Вас! Разам мы можам супрацьстаяць беззаконьню!» – заклікаюць грамадзян актывісты дэмакратычнай супольнасьці Віцебску.

**27.02.2012** У Гарадку (Віцебская вобласць) надоечы прайшла інфармацыйная акцыя, мэтай якой было азнаёміць жыхароў раённага цэнтру з новай ініцыятывай кампаніі «Гавары праўду».

Па паштовых скрынях гараджан былі распаўсюджаныя ўлёткі з тэкстам «Грамадзянскай дамовы». Асноўны лейтматыў «Грамадзянскай дамовы», якую прапануе заключыць «Гавары праўду», – адстойваць законныя інтарэсы грамадзян Беларусі, абараняць іхныя правы.

**01.05.2012** У Менску з прапановы былога кандыдата ў прэзыдэнты **Дзьмітрыя Вуса** была створаная ініцыятыўная група па падрыхтоўцы законапраекту аб унясеньні зьменаў ў Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь. Гэтыя зьмены

паспрыяюць таму, каб выбары ў краіне сталі сумленнымі і справядлівымі.

У склад ініцыятыўнай групы ўвайшлі больш за 300 чалавек з усіх рэгіёнаў Беларусі. Сярод тых, хто ўзяў удзел у сходзе па стварэньні ініцыятыўнай групы, было некалькі дзясяткаў чалавек зь Віцебскай вобласьці, у тым ліку і віцебскія праваабаронцы **Леанід Сьвецік** і **Кастусь Мардзьвінцаў**. Абласным каардынатарам па Віцебшчыне абраная **Алена Фаміна**.

Дзьмітры Вус: «Тыя, хто мае ўладу, забралі права выбіраць у людзей, у народу Беларусі. Мы хочам гэтае права аднавіць. Гэта трэба рабіць, каб людзі ў Беларусі былі людзьмі…»

**01.06.2012** У Віцебску адбылася акцыя «Народнага аўтаномнага супраціву». У межах кампаніі НАС (Народны аўтаномны супраціў) актывістамі «Маладога Віцебску» на сьцены тэлезаводу «Віцязь» былі нанесеныя дзясяткі графіці «НАС не спыніць!!!». Падчас правядзеньня акцыі актывістамі НАС ніхто затрыманы ня быў.

**15.06.2012** Дзясяткі ўлётак з выявамі палітвязьняў зьявіліся на рэклямных стэндах, дошках абвестак, сьценах жылых дамоў, у людных месцах ля крамаў, вучэльняў і публічных установаў Віцебску. Праз улёткі актывісты Народнага аўтаномнага супраціву (НАС) вырашылі праінфармаваць жыхароў гораду над Дзьвіной пра зняволеных, якія адбываць пакараньне ў турмах Беларусі за свае палітычныя погляды. Акцыя прайшла без затрыманьняў.

# Рашэньні Камітэту па правох чалавека ААН


Алена Залеская

**17.05.2011** Камітэт па правох чалавека ААН прыняў пастанову паводле справы **Алены Залескай**.

На 101-й сэсіі Камітэту па правох чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў была прынятая пастанова адносна звароту ў камітэт Алены Залескай. У сваім звароце жанчына сьцьвярджала, што беларускія ўлады парушылі яе правы, замацаваныя падпісаным Беларусьсю Міжнародным Пактам аб грамадзянскіх і палітычных правох. Камітэт прызнаў слушнасьць скаргі, пададзенай спадарыняй Залескай супраць дзяржавы. «Камітэт па правох чалавека, дзеючы на падставе часткі 4 артыкулу 5 Дадатковага пратаколу да Міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох, лічыць, што выкладзеныя факты выяўляюць парушэньне правоў заяўніка [Алены Залескай] паводле часткі 2 артыкулу 19 і артыкулу 21 Пакту», – гаворыцца ў пастанове ўплывовай ўстановы ААН.

Як краіна – падпісант Міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох, Беларусь абавязаная непахісна трымацца ўсіх яго палажэньняў. Больш таго, згодна з нормамі міжнароднага права, у выпадку, калі ўнутранае заканадаўства ў нечым ўступае ў супярэчнасьць зь міжнароднымі пагадненьнямі, падпісанымі краінай, прыярытэт мусіць аддавацца апошнім.

Артыкул 19 Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох, парушаны беларускімі ўладамі ў адносінах да спадарыні Залескай, забясьпечвае права грамадзянаў бесьперашкодна прытрымлівацца сваіх перакананьняў. У частцы 2-й артыкулу гаворыцца: «Кожны чалавек мае права на вольнае выказваньне сваіх думак; гэтае права ўключае ў сябе свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць усялякага кшталту інфармацыю і ідэі, незалежна ад дзяржаўных межаў, вусна, пісьмова або праз друк ці мастацкія формы выразу або іншымі спосабамі на свой выбар».

Іншай нормай міжнароднага пагадненьня, у невыкананьні якой Камітэт па правох чалавека прызнаў вінаватымі ўлады Беларусі, зьяўляецца артыкул 21. Гэты артыкул абвяшчае: «Прызнаецца права на мірныя сходы. Карыстаньне гэтым правам не падлягае ніякім абмежаваньням, апроч тых, якія накладаюцца ў адпаведнасьці з законам і якія неабходныя ў дэмакратычным грамадстве ў інтарэсах дзяржаўнай ці грамадзкай бясьпекі, грамадзкага ладу, аховы здароўя і маралі насельніцтва або абароны правоў і свабодаў іншых асобаў».

Алена Залеская вымушаная была зьвярнуцца ў Камітэт па правох чалавека

пасьля падзеяў, што адбыліся 27 чэрвеня 2006 г. у Віцебску. Тады яна і двое ейных сяброў шпацыравалі ад плошчы Свабоды да вуліцы Леніна, раздаючы па дарозе мінакам афіцыйна зарэгістраваныя на той час газэты «Народная Воля» і «Товарищ», а таксама інфармацыйныя ўлёткі «За нашу, за вашу свабоду».

Раптам на спадарыню Залескую і яе паплечнікаў наляцелі міліцыянты. Яны абшукалі актывістку, канфіскавалі ў яе трынаццаць асобнікаў «Народнай Волі», каля сотні асобнікаў газэты «Товарищ» і недзе дзьвесьце ўлётак. Сама кабета была арыштаваная. У РАУС Кастрычніцкага раёну Віцебску на яе склалі пратакол нібыта аб адміністрацыйным правапарушэньні.

Шпацыр, у якім удзельнічалі ўсяго тры чалавекі, быў расцэнены як «масавае шэсьце», на правядзеньне якога трэба было, на думку беларускіх уладаў, браць адмысловы дазвол, і на наступны дзень пасьля падзеі Кастрычніцкі райсуд Віцебску прыняў рашэньне аб спагнаньні са спадарыні Залескай штрафу ў памеры 620 тысяч рублёў.

Нязгодная з рашэньнем райсуду Алена Залеская зьвярнулася са скаргай у Віцебскі абласны суд, аднак той пастановай ад 20 верасьня 2006 г. пакінуў рашэньне суду першай інстанцыі бязь зьмены. Таксама не прынёс плёну і зварот у Вярхоўны Суд: сваім рашэньнем, прынятым 10 лістапада 2006 г., ён пацьвердзіў, што рашэньне аб спагнаньні штрафу за арганізацыю «масавага шэсьця» быццам бы зьяўляецца правільным.

Такім чынам, усе магчымасьці дамагчыся справядлівасьці ўнутры краіны былі вычарпаныя, і спадарыня Залеская, упэўненая, што насамрэч былі парушаныя яе права на вольны распаўсюд інфармацыі і права грамадзян на атрыманьне гэтай інфармацыі, вырашыла зьвярнуцца ў міжнародныя структуры. Яна склала адпаведны зварот у Камітэт па правох чалавека ААН, які быў прыняты да разгляду 8 лютага 2007 г.

Разьбіральніцтва па справе у Камітэце па правох чалавека доўжылася больш за чатыры гады. Цягам гэтага часу і заяўніца, і ўлады неаднаразова мусілі ў пісьмовай форме тлумачыць свае пазыцыі.

Нарэшце, некалькі дзён таму камітэт прыняў рашэньне. Была пацьверджаная рацыя Алены Залескай, і цяпер на падставе нормаў Міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох, згодна з рашэньнем камітэту, дзяржава «абавязаная забясьпечыць заяўніку эфэктыўны сродак прававой абароны, уключаючы адплату штрафу ў цяперашніх коштах і ўсе судовыя выдаткі, панесеныя заяўнікам, а таксама кампэнсацыю. Дзяржава таксама абавязаная прыняць захады, каб прадухіліць падобныя парушэньні ў будучыні». Цягам 180 дзён беларускія ўлады мусяць інфармаваць камітэт аб мерах, прынятых дзеля выкананьня пастановы камітэту.

Такім чынам, справядлівае рашэньне па справе, якая распачалася пяць гадоў таму, прынятае. На жаль, спадарыня Алена Васілеўна Залеская гэтага рашэньня не дачакалася. 27 ліпеня 2010 г. пасьля цяжкой хваробы найстарэйшая віцебская апазыцыянэрка на 78-м годзе жыцьця перайшла ў іншы сьвет…


Сяргей Белязека

**07.05.2012** Больш як чатыры гады спатрэбілася віцебскаму актывісту **Сяргею Белязеку** на тое, каб дамагчыся абароны сваіх правоў. Менавіта столькі часу разглядаў ягоную скаргу на дзеяньні міліцыянтаў і пастанову суду Камітэт ААН па правох чалавеку. Вынік разгляду: прызнана, што дзяржава парушыла правы актывіста на мірныя сходы і публічнае выказваньне думак. Згодна з прынятым рашэньнем, беларускія ўлады абавязаныя забясьпечыць спадара Белязеку эфэктыўнымі сродкамі прававой абароны і кампэнсаваць панесеную ім шкоду. Цягам 180 дзён улады павінны інфармаваць камітэт пра зробленыя імі захады, датычныя да гэтай справы.

Сяргей Белязека зьвярнуўся ў Камітэт па правох чалавека пасьля таго, як вычарпаў усе сродкі судовай абароны ўнутры краіны. Падзеі, што спрычыніліся да звароту ў камітэт, адбыліся ў кастрычніку 2007 году. У той год на восеньскія Дзяды каля 30-ці жыхароў Віцебску вырашылі зладзіць грамадзянскую паніхіду ля вёскі Паляі - на месцы, дзе ў 1930-40-х гадох органы НКУС зьдзяйсьнялі масавыя расстрэлы невінаватых людзей. Таксама меркавалася наведаць могілкі, дзе былі пахаваныя ахвяры сталінізму.

Удзельнікі грамадзянскай паніхіды меркавалі ўшанаваць памяць загінулых падчас сталінскіх рэпрэсіяў і ўсталяваць на месцы расстрэлаў крыж. Аднак калі яны прыбылі ў раён Паляёў і пачалі выгружаць з аўтобусу складаныя часткі крыжа, якія неабходна было змацаваць, вянкі, кветкі, да іх раптам пад’ехалі супрацоўнікі праваахоўных органаў. Старэйшы міліцэйскай групы - намесьнік начальніка Віцебскага раённага аддзелу ўнутраных справаў маёр Ліленка кваліфікаваў працэс падрыхтоўкі да грамадзянскай паніхіды як недазволенае масавае мерапрыемства — пікетаваньне. Усім прысутным ён прапанаваў разысьціся.

Акцыю ў памяць расстраляных камуністамі ўсё ж удалося пачаць. Па завяршэньні першай часткі паніхіды — у лесе ля Паляёў — яе ўдзельнікі вярнуліся да аўтобусу, на якім прыехалі, каб адправіцца ў іншыя месцы, дзе меркавалася працягнуць мерапрыемства. Аднак патрапіць на могілкі ў ваколіцах вёсак Вароны і Копці ім у той дзень не далі. Маёр Ліленка абвясьціў, што ён перапыняе паніхіду, і што ўсе прысутныя затрымліваюцца як удзельнікі несанкцыянаванага пікету. На аўтобусе, нанятым арганізатарамі акцыі, людзей даставілі ў аддзел унутраных справаў Віцебскага раёну. Былі складзеныя пратаколы аб удзеле ў недазволеным пікетаваньні.

На наступны дзень ў судзе Віцебскага раёну адбыліся адміністрацыйныя працэсы. Пяцёра ўдзельнікаў жалобнай акцыі, у тым ліку і Сяргей Белязека, былі прызнаныя парушальнікамі артыкулу 23.34 Кодэксу аб адміністрацыйных

правапарушэньнях (парушэньне парадку арганізацыі або правядзеньня масавага мерапрыемства). Штраф, прызначаны Сяргею Белязеку, склаў 20 базавых велічынь (на той час гэта было роўна 620 тысячам рублёў).

Актывіст спрабаваў абскардзіць рашэньне райсуду ў Віцебскім абласным і Вярхоўным судох. Але ўсе яго довады - што грамадзянская паніхіда гэта не пікет, а хрысьціянскі рытуал; што ўдзельнікі жалобнай акцыі ня мелі на мэце ладзіць палітычнае, сацыяльнае або эканамічнае мерапрыемства, таму ім ня трэба было зьвяртацца па адпаведны дазвол у органы ўлады; што паніхіда ня несла пагрозы нацыянальнай бясьпецы, грамадзкаму ладу, маралі і здароўю насельніцтва, не абмяжоўвала правы і свабоды іншых грамадзян - усё гэта не было ўзята судамі пад увагу. Беларуская Фэміда вырашыла, што правы, гарантаваныя Канстытуцыяй і міжнароднымі абавязальніцтвамі дзяржавы, парушаныя не былі.

І вось, праз чатыры зь лішкам гады пасьля апісаных падзеяў, Камітэт па правох чалавека ААН выказаў думку, супрацьлеглую думцы беларускіх судоў: сваім умяшаньнем у мірны сход прадстаўнікі ўлады незаконна пазбавілі грамадзян правоў як на самі мірныя сходы, гэтак і на публічнае выказваньне сваіх меркаваньняў. Як краіна — удзельнік міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох, Беларусь цяпер абавязаная аднавіць парушаныя правы і зрабіць адпаведныя захады, каб пазьбегнуць аналягічныя праушэньні правоў грамадзян у будучыні.